ПРАЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!

# Саветы Беларусі

БССР



ШТОМЕСЯЧНЫ ЧАСОПІС ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ БЕЛАРУСКАЙ САВЕЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭСПУБЛІКІ

N 4 (18)

ДРУГІ ГОД ВЫДАНЬНЯ

КРАСАВІК 1930 г.

# САВЕТЫ БЕЛАРУСІ

**Штомесячны часопіс прэзыдыуму ЦВК БССР па савецкім будаўніцтве**

№ 4 (18) Красавік 1930 г. № 4 (18)


## За рашучае зьнішчэньне парушэньняў выбарчага законадаўства.

Выбарчае законадаўства Саюзу ССР і Саюзных Рэспублік зьяўляецца адным з найбольш важных і магутных палітычных сродкаў дыктатуры пралетарыяту ў справе падаўленьня супраціўленьняў клясавых ворагаў. Гэтая сутнасьць нашага выбарчага законадаўства абавязкова вымагае, каб яно, як зброя пралетарскай дыктатуры, сваёю вастрынёю была накіравана толькі супроць непрацоўных, эксплёататарскіх і іншых элемэнтаў, прадугледжаных асноўным законам БССР— нашай Канстытуцыяй.

Пралетарыят і, увасабліваючая яго дыктатуру, савецкая ўлада ў сваёй палітыцы не кіраваліся і ня кіруюцца пачуцьцямі клясавай помсты.

Адзіным крытэрыем нашай палітыкі, зьяўляецца рэвалюцыйная мэтазгоднасьць замацаваньня пралетарскай дыктатуры і далейшае разгортваньне сацыялістычнага будаўніцтва. Калі, згодна савецкай канстытуцыі, мы пазбаўляем выбарчых правоў: кулакоў, нэпманаў, папоў, ксяндзоў, рабінаў, жандараў, паліцэйскіх і г. д. ня толькі сучасных, але і былых, то гэта робім таму, што гэтыя групы насельніцтва з былых людзей і з стратай сваёй эканамічна-прававой базы, яшчэ не перастаюць быць самімі сабой. Кулак, хаця і раскулачаны, былы паліцэйскі чыноўнік, які страціў свае прывілеі, буйны гандляр, які пад ціскам нашага падатковага прэсу пакінуў свой гандаль,—усе яны застаюцца варожымі да савецкай улады элемэнтамі і таму падлягаюць пазбаўленьню выбарчага права, і гэтым самым ізаляваньню ад удзелу ў савецкім будаўніцтве; бо калі пусьціць іх у савецкія ўстановы і шэрагі грамадзкіх арганізацый, яны бязумоўна, будуць шкодзіць нашаму будаўніцтву. Іншая справа, калі ў працягу некалькі год, асабліва пры Савецкай уладзе, такія асобы, займаючыся вытворчай грамадзка-карыснай працай, перарабляць сваю псыхалёгію, ужо даказалі сваю лёяльнасьць да Савецкай улады яны—гэтыя былыя непрацоўныя элемэнты—праз сучаснае працоўнае жыцьцё могуць і павінны, паводле інструкцыі аб перавыбарах, атрымаць выбарчае права.

У працэсе разгортваючагася сацыялістычнага будаўніцтва, якое перарабляе на сацыялістычны лад абліччa ўсёй нашай краіны, перарабляюць і сваю ўласную дробна-буржуазную прыроду адзінкі і цэлыя групы з былых людзей. Напрыклад, адным з вялізарнейшых зрухаў у гэтым напрамку зьяўляюцца ўсялякія арцелі, саматужная вытворчасьць і розныя грамадзкія працы. Пралетарыят у саюзе з асноўнымі масамі працоўнага сялянства, пад кіраўніцтвам Камуністычнае партыі ўцягвае ў сацыялістычнае будаўніцтва ўсё больш шырокія пласты насельніцтва, не паслабляючы пры гэтым сваёй клясавай барацьбы з кулацка-нэпманскімі і іншымі варожымі элемэнтамі. Чым больш рашуча і ў самую мэту мы б'ем і павінны біць па клясаму ворагу, тым менш будзе ў яго бок хістаньня, тым менш будзе яго ўплыў на паасобныя праслойкі насельніцтва. Не паслабляць, а замацоўваць клясавую барацьбу з кулацка-нэпманскімі элемэнтамі ўнутры нашай

краіны—такая наша задача. Але кожны выхад за лінію пралетарскай дыктатуры, у даным выпадку, за рамкі, вызначаныя выбарчым законадаўствам Савецкай улады, ужо б'е па тых пластох, якіх, наадварот, неабходна прыцягнуць на наш бок, уцягнуць іх у актыўнае сацыялістычнае будаўніцтва. Усякая памылка ў гэтым напрамку, асабліва ў вёсцы, зьмяншае і паслабляе накіраваную супроць кулака моц бядняцка-серадняцкага блёку, у такіх выпадках кулаку часамі ўдаецца перацягнуць на свой бок менш сьвядомыя і ўстойлівыя элемэнты.

У шэрагу месц за апошні час мы мелі выпадкі грубейшага парушэньня выбарчага законадаўства. У супярэчнасьці з усімі дырэктыўнымі паказаньнямі выбарчага законадаўства, мясцовыя органы дапусьцілі шэраг яўных парушэньняў выбарчае інструкцыі, што выражалася ў няправільным пазбаўленьні выбарчых правоў грамадзян і ва ўсялякіх абмежаваньнях гэтых грамадзян да канчатковага вырашэньня іх спраў у вышэйшых органах Савецкай улады. Таму гэтая акалічнасьць выклікала спэцыяльную пастанову Прэзыдыуму ЦВК СССР, накіраваную на безадкладнае і рашучае зьнішчэньне ўсіх парушэньняў выбарчага законадаўства, на ліквідацыю ўсіх памылак, перагібаў і злоўжываньняў у гэтай справе.

Наша Інструкцыя аб перавыбарах саветаў у поўнай меры адпавядае сучаснасьці. Таму яна павінна праводзіцца ў жыцьцё з усёй уважлівасьцю і строгасьцю. Аднак, як у час перавыбараў саветаў, так і наогул мы наглядаем нямала перагібаў, парушэньняў, фактаў простага галавацяпства. Ужо сама зьмена ў параўнаньні з 1929 годам проценту ў бок павялічэньня пазбаўленых выбарчых правоў па тых саветах, якія зараз пераабіраліся, з 1,9 проц. да 4,8 проц. паказвае, што побач з сапраўдным дадатковым выяўленьнем кулацка-нэпманскіх элемэнтаў, што зусім неабходна і правільна,—многа дапушчана парушэньняў закону, што выразілася ў пазбаўленьні выбарчых правоў працоўных. Аб гэтым сьведчаць канкрэтныя факты, калі пазбаўлялі выбарчых правоў сераднякоў і нават беднякоў за тое, што яны „добраахвотна" ня ўступілі ў калгас; за тое, што той ці іншы серадняк ня вызваліўся яшчэ ад рэлігійнага дурману і зьяўляецца царкоўным старастай. Часта пазбаўляліся працоўныя сем'і былых паліцэйскіх, члены сям'і знаходзячагося пад судом і сьледзтвам; пазбаўлялі—па старасьці, глухіх, сьляпых, „бузацёраў" і г. д. У Бягомльскім раёне нават умудрыліся пазбавіць выбарчага права аднаго пастуха, які захварэўшы перадаў сваю работу на тых умовах, на якіх і сам ён наймаўся, другому на час да адужаньня.

Не зважаючы на ясныя паказаньні 34 арт. інструкцыі, што ня могуць быць пазбаўлены выбарчых правоў займаючыяся вытворчай грамадзка-карыснай працай, члены сям'і лішэнцаў, калі яны матар'яльна ад апошніх не залежаць, для некаторых саветаў і выбарчых камісій было дастаткова таго, калі асоба мае блізкага родзіча пазбаўленага выбарчага права, каб пазбавіць гэтых асоб, хаця яны ніколі ні ў якой залежнасьці ад гэтых родзічаў ня былі, ці даўно гэтую залежнасьць парвалі і жывуць самастойна на сродкі ад грамадзка карыснай вытворчай працы.

Можна падаць не адзін прыклад пазбаўленьня выбарчых правоў былых чырвонаармейцаў, настаўнікаў і інш., якія ўжо доўгі час як кінулі дом бацькоў—былых, ці сучасных непрацоўных элемэнтаў, ня маюць некалькі год з імі ніякай сувязі. Ня гледзячы на катэгарычнае запатрабаваньне выбарчага законадаўства аб тым, каб унясеньне ў сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў грамадзян праводзілася на падставе дакумэнтальных даных, ці даных, праверапых паказаньнямі сьведак пры ўважлівым пэрсанальным абгаварэньні, мелі месца такія выпадкі, калі выбарчых правоў пазбаўляліся цэлыя групы насельніцтва. Напрыклад, мела месца мэханічнае пазбаўленьне выбарчага права грамадзян, якія індывідуальна абкладаліся с. г. падаткам.

Каб характарызаваць становішча парушэньняў выбарчага законадаўства ў пасобных раёнах БССР, дастаткова паказаць на факт пазбаўленьня выбарчых правоў 14 проц. усяго дарослага насельніцтва па Смалявіцкаму раёну.

Ня дзіўна таму, што на апошніх сваіх пасяджэньнях Цэнтральная Выбарчая Камісія, ў адмену пастаноў ніжэйшых

камісій, аднаўляе ў выбарчых правох да 40 і нават больш процантаў скаргнікаў, ня лічучы таго, колькі ўжо адноўлена ў акруговых інстанцыях.

Мы сустракаемся з шэрагам выпадкаў, калі ў дачыненьні пазбаўленых выбарчых правоў серадлякоў дапушчалася раскулачваньне. Кулак-жа на мясцох чапляўся за гэтыя грубыя парушэньні закону і агітаваў, гаворучы: „раскулачаць нас, а потым і за вас возьмуцца“. Кулак агітаваў і паказваў на серадняка, часам маючы грунтоўны матар'ял для контр-рэвалюцыйнай агітацыі, які ён набываў ад „работы“ паасобных галавацяпаў, а часам і проста ад яго агентаў у шэрагах выбарчых камісій.

У значнай ступені парушэньні выбарчага законадаўства абумоўлена неправільнай арганізацыяй справы складаньня сьпісаў асоб пазбаўленых выбарчага права без выкананьня абавязковага запатрабаваньня інструкцыі ў гэтай галіне, дзякуючы нядбайнасьці і безадказнасьці паасобных работнікаў выбарчых камісій саветаў і выканкомаў.

У сьпісы пазбаўленых выбарчых правоў, ня гледзячы на неаднаразовыя паказаньні Ураду, уносіліся асобы без падстаў, бяз пацьвярджэньня фактаў для пазбаўленьня належнымі дакумантамі, часта кіраваліся нагаворамі па злабе. Замест таго, каб дапамагаць выбарчым камісіям у справе складаньня гэтых сьпісаў пры выбарчых кампаніях, некаторыя ЖАКТ'ы, мясцкомы і іншыя арганізацыі самі пазбаўлялі выбарчых правоў працоўных грамадзян. На вялікі жаль, паасобныя калгасы таксама „грашаць“ самаўладзтвам і пазбаўляюць выбарчых правоў членаў калгасаў. Як, напрыклад, савет калгасу „Волна Революции“ на сваім пасяджэньні пастанавіў: пазбавіць выбарчага голасу Банчука Уладыка і яго жонку Натальлю на 6 месяцаў кожнага; пазбавіць Аксеню на 6 месяцаў голасу; пазбавіць голасу Паўла на 3 месяцы і жонку яго на адзін год; пазбавіць голасу Мікалая на 6 мес. і жонку яго на 1 год і г. д. У гэтым зьявішчы ня толькі характэрна грубае парушэньне правоў працоўных грамадзян—членаў калгасаў, але яшчэ і тое, што працоўныя жанчыны сялянкі-калгасьніцы, як найбольш адсталыя ўдзельнікі ў соцыялістычным будаўніцтве, пазбаўляліся на большы тэрмін, чымся мужчыны. Зразумела, што гэтым усім самаўпраўствам павінен быць пакладзен канец самым рашучым чынам.

Ня гледзячы на тое, што яшчэ ў мінулым годзе былі прыняты і апублікаваны спэцыяльныя дадатковыя пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР аб парадку вырашэньня скарг грамадзян, пазбаўленых выбарчага права з папярэджаньнем, што да вырашэньня справы ў вышэйшай інстанцыі ніякіх іншых абмежаваньняў, акрамя абмежаваньня ўдзельнічаньня ў выбарах, да гэтых асоб не павінны ўжываць, гэтыя пастановы слаба, а часам і зусім ня выконваліся. Наадварот, мы маем шэраг выпадкаў дадатковага незаконнага абмежаваньня асоб пазбаўленых выбарчага права, як, напрыклад, высяленьне з кватэр гарадоў, *агульнае* пазбаўленьне заборных кніжак, адмаўленьне ў мэдычнай і юрыдычнай дапамозе, пазбаўленьне права забудоўлі, выключэньне дзяцей з школы, выключэньне з вытворчых арцеляў, раскулачваньне, абкладаньне індывідуальным падаткам і г. д.

Досыць распаўсюджаны зьявішчы, калі асобе, пазбаўленай часта зусім няправільна выбарчага права, саветы альбо іншыя органы адмаўлялі ў выдачы патрэбных даведак і гэтым самым пазбаўлялі іх магчымасьці скардзіцца і давесьці нягрунтоўнасьць пазбаўленьня іх выбарчых правоў у вышэйшыя органы Савецкае ўлады.

Самы разгляд скаргі на пазбаўленьне выбарчых правоў часта зацягваецца ў кожнай інстанцыі месяцамі, а да вырашэньня ў апошняй інстанцыі часам і больш году.

Усе гэтыя скрыўленьні вызначаны і рашуча асуджаны дырэктывай Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 22 сакавіка сгэтага году. На падставе дырэктывы Саюзнага Ураду і ў мэтах рашучага зьнішчэньня парушэньняў выбарчага законадаўства, Прэзыдыум ЦВК БССР прыняў адпаведную пастанову, якую трэба хутка і рашуча выканаць.

Пастанова Прэзыдыуму ЦВК прадугледжвае безадкладную праверку сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, спэцыяльнымі камісіямі. Таму перш за ўсё неабходна, каб у гэтыя камісіі увайшлі

таварышы, якія добра ведаюць і разумеюць лінію партыі і савецкай улады. Пры складаньні спэцыяльных камісій для перагляду сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчых правоў, неабходна забясьпечыць моцнае палітычнае кіраўніцтва, здольнае сапраўды зьнішчыць усе тыя паасобныя перагібы і парушэньні выбарчага законадаўства, што мела месца да гэтага часу.

Самая праверка павінна быць праведзена найбольш уважліва і грунтоўным чынам з абавязковым патрабаваньнем належных дакумантаў да пазбаўленьня асоб выбарчага права. Нельга ні ў якім разе пры праверцы абмяжоўвацца толькі разглядам скарг на неправільнае пазбаўленьне выбарчага права. Трэба поўнасцю праверыць сьпісы асоб лішэнцаў. Мы ведаем, што ёсьць шэраг асоб, якія няправільна пазбаўлены выбарчага права і не падавалі скаргі, бо ня ведалі куды і як можна скардзіцца; ня ведалі таго, што яны пазбаўлены няправільна, бо ніхто ім гэтага не растлумачыў. Нарэшце, ім часта не давалі фактычнай магчымасьці скардзіцца, ня выдаючы патрэбных даведак і дакумэнтаў.

Пры праверцы сьпісаў лішэнцаў трэба асабліва ўважліва падыходзіць да працоўнага ў сучасны момант яўрэйскага насельніцтва, пазбаўленага выбарчых правоў за дробны гандаль у мінулым, за ўжываньне нязначнай наёмнай рабочай сілы ў саматужных прамыслах, улічваючы спэцыфічныя ўмовы, у якія яўрэйскае насельніцтва было пастаўлена ў мінулым.

Таксама надзвычайна ўважліва трэба падыходзіць да вырашэньня спраў моладзі,—дзяцей былых непрацоўных, якія ўзрасьлі і выхаваліся ў парэвалюцыйны час. Нельга пазбаўляць выбарчага права нядаўна дасягнуўшага поўнагодзьдзя хлапца ці дзяўчыну па фармальных адзнаках, што яны знаходзяцца на ўтрыманьні асоб пазбаўленых выбарчага права за мінулыя свае заняткі, калі апошнія гады ўтрымліваючыя іх асобы і яны самі займаюцца вытворчай грамадзка-карыснай працай. Неабходна строга кіравацца пастановай Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР, пунктам сёмым гэтае пастановы, дзе гаворыцца: „растлумачыць, што дзеці асоб пазбаўленых выбарчага права, дасягнуўшых поўнагодзьдзя пасьля 1925 г. і пазбаўленыя выбарчага права толькі таму, што яны знаходзіліся ў мінулым на ўтрыманьні гэтых асоб, павінны быць адноўлены ў выбарчых правох, калі яны ў сучасны момант займаюцца самастойнай грамадзка-карыснай працай“.

Прэзыдыум ЦВК БССР сваёй пастановай прапанаваў Наркаматам, каапэрацыйным цэнтрам адмяніць свае пастановы і распараджэньні, устанаўляючыя якія-небудзь дадатковыя абмежаваньні, вызначаныя толькі па прызнаку пазбаўленьня выбарчых правоў і непрадугледжаныя законадаўствам Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

Саветы і выканкомы, уся савецкая грамадзкасьць павінны ўзяцца за выкананьне пастановы Ўраду Саюзу ССР і БССР пра зьнішчэньне парушэньня выбарчага законадаўства з усёй уважлівасьцю і адказнасьцю. Усе шкодныя зьявішчы ў гэтай справе павінны быць рашуча зьнішчаны і прыняты меры да таго, каб асобы, займаючыяся грамадзка-карыснай працай, якія пазбаўлены выбарчага права ў парушэньне выбарчага законадаўства, былі безадкладна адноўлены ў выбарчых правох.

Усялякія злоўжываньні, грубыя парушэньні выбарчага законадаўства павінны накіроўвацца ў органы пракуратуры для прыцягненьня вінаватых службовых асоб да адказнасьці. Трэба назаўсёды ліквідаваць сьвядомае парушэньне выбарчага законадаўства, злоўжываньне правамі і абавязкамі пры складаньні сьпісаў асоб пазбаўленых выбарчага права.

А. Хацкевіч.

# Задачы рабочых і членаў гарсаветаў, якія накіраваны на сталую работу ў вёску.

Жыцьцёвыя ўмовы, пры шпаркіх тэмпах выкананьня пяцігодкі ў скарочаны тэрмін, калектывізацыя бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і ў зьвязку з гэтым ліквідацыі кулацтва як клясы, патрабуюць, каб кіруючыя кадры ў вёсцы былі больш палітычна падрыхтаваныя, каб сапраўды больш здольныя былі на чале кіраўніцтва работай, якая праводзіцца праз шырокія працоўныя масы і ў першую чаргу праз батрацка-бядняцкі актыў (батрацка-бядняцкія групы).

Усе жыцьцёвыя варункі вымагаюць, каб кіруючыя работнікі, ня кажучы ўжо аб клясавай вытрыманасьці, былі з палітычным „багажом“, былі на некалькі галоў вышэй за кожнага радавога селяніна.

Рабочая кляса заўсёды трымае моцны саюз з асноўнымі масамі сялянства. Яе магутная воля, што скінула прыгнечаньне эксплёататараў, цяпер накіравана на сацыялістычную перабудову ня толькі прамысловасьці, але і сельскай гаспадаркі. У сацыялістычнай перабудове нашае народнае гаспадаркі разам з рабочаю клясай зацікаўлены і шырачэзныя бядняцка-серадняцкія масы сялянства. Але гэту зацікаўленасьць трэба лепш зарганізаваць і правільна накіраваць па шляху сацыялістычнага будаўніцтва. Для гэтага патрэбны палітычна - пісьменныя арганізатары, якіх вёска, дзякуючы спадчыне цемры і несьвядомасьці, што пакінуў ён царскі Урад, далёка не заўсёды мае дастаткова. На братэрскую дапамогу вёсцы ідзе адзіны прыяцель, кіраўнік і верны памоцнік бядняцка-серадняцкага сялянства—рабочая кляса. Гарсаветы па БССР для працы ў вёсцы вылучылі дабраахвотнікаў з лепшай часткі актыву рабочых і членаў гарсаветаў (таксама рабочых), якія ведаюць жыцьцёвыя ўмовы і быт вёскі. Гэтакім чынам накіравана на сталую кіруючую працу (ня менш, як на год) у сельсаветы 200 таварышоў, якіх з ахвотаю, асноўная сялянская маса выбірала ў склад сельсаветаў.

Якія-ж задачы стаяць перад рабочымі, што накіраваны на сталую работу ў сельсаветы? Па-першае, каб бачыць вынікі ў дапамозе вёсцы, трэба абавязкова застацца на працы ўвесь вызначаны час (ня менш году) у сельсавеце. Працуючы ў сельсавеце, яны павінны заўсёды выходзіць у кожнай правадзімай рабоце з таго,—што сельсавет носіць пачэсную і адказную назву „Орган дыктатуры пралетарыяту“. Гэта значыць, што трэба кожную справу праводзіць так, каб яна, у першую чаргу, узмацняла дыктатуру пралетарыяту і была-б накіравана на карысьць працоўных. Усялякая работа, якая стаіць перад саветамі: палітычна-культурная, асьветная, эканамічна-гаспадарчая, адміністрацыйная, ахова здароўя, пажарная справа, грамадзкая работа і інш., будзе добра выканана толькі тады, калі савет будзе яе выконваць з пралетарскай устаноўкай і клясавай вытрыманасьцю. Ці зьяўляюцца на сёньняшні дзень нашы сельсаветы строга клясава-вытрыманымі?—Не. Яшчэ шэраг сельсаветаў, тым больш паасобных іх членаў, ёсьць такія, якія забываюцца пра „клясавую лінію“, а то і наўмысьля не праводзяць пралетарскага клясавага падыходу: „у нас-жа ўсе роўныя... няма кулакоў“. Такія рэплікі яшчэ можна пачуць ад многіх сельсаветчыкаў. Гэта вельмі цяжка адбіваецца на практыцы ў рабоце. Вось усё гэта павінны сельсаветы і пасланыя для іх узмацненьня таварышы рабочыя ўлічыць і выпраўляць памылкі, калі гэта былі „памылкі“—а калі гэта рабілася са злым умыслам,—такіх членаў сельсавету з усёй рашучасьцю трэба выкрываць і адклікаць з складу сельсаветаў, а калі будзе патрэбна прыцягнуць да адказнасьці, замяняючы іх рабочымі, батракамі і беднякамі, якія змогуць ажыцьцяўляць задачы Камуністычнай Партыі і Савецкай Улады. Перабудаваць работу сельсаветаў на новыя рэйкі з уцягненьнем у гэту работу шырачэзных мас працоўнага сялянства і ў першую чаргу—батрацка-бядняцкіх груп, а таксама і ўсяе бядняцкае масы жанчын, мужчын і моладзі—такая пастаўлена задача перад сельсаветамі. Працуючыя ў сельсаветах рабочыя павінны зьявіцца застрэльшчыкамі і арганізатарамі выкананьня гэтай задачы.

**Ц. Вінаградаў.**

# Пра льготы і перавагі за ўздым сельскай гаспадаркі.

На палёх Беларусі зараз практычна разьвязваецца праблема выкананьня плянавых заданьняў сацыялістычнага будаўніцтва ў колектывізаванай і індывідуальнай бядняцка-серадняцкай частках сельска-гаспадарчага сэктару нашай народнай гаспадаркі—ідзе веснавая сяўба.

Гэтай кампаніі партыя і савецкая ўлада надаюць выключна важнае значэньне, бо яна павінна замацаваць дасягнутыя посьпехі калектывізацыі, даць у выніку павялічэньне на 12 проц. агульнае засеўнае плошчы, падвышэньне ўраджайнасьці шляхам шэрагу палепшаньняў сельска-гаспадарчае вытворчасьці (агро і зоо мінімумы), пашырэньне засеву тэхнічных культур і сеяных траў і г. д. Урэшце, і гэтае самае галоўнае, яна павінна зрабіцца адпраўным пунктам яшчэ большага разгортваньня калгаснага руху ў далейшым на падставе рашучага выпраўленьня перагібаў і замацаваньня бядняцка-серадняцкага блёку.

Гэта мела і мае на ўвазе Камуністычная партыя, якая паставіла задачу, што вясна гэтага году павінна быць *бальшавіцкай* вясной. Таму Пленум ЦК КП(б)Б, які адбыўся ў пачатку гэтага месяцу, прызнаў неабходным:

„Усім партыйным, савецкім і грамадзкім арганізацыям зьверху да нізу сканцэнтраваць сваю ўвагу на бліжэйшы пэрыяд *на асноўнай і рашаючай палітычна-гаспадарчай кампаніі—на правядзеньні веснавой сяўбы*“ (падкрэсьлена мною—*Б-н*).

Адным з першых, каго дачыняецца гэта дырэктыва, бязумоўна, зьяўляецца сельсавет, які на месцы непасрэдна праводзіць веснавую сяўбу і ёю кіруе.

Каб забясьпечыць уздым нашай сельскай гаспадаркі на вышэйшую ступень і ў прыватнасьці пасьпяховае правядзеньне веснавое сяўбы, Камуністычная партыя і Савецкая ўлада вызначылі канкрэтныя мерапрыемствы, якія для гэтага неабходна правесьці. І закон пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак, і шэраг пазьней прынятых законаў прадугледжваюць надзвычайна вялікія палёгкі і льготы, якія матар'яльна зацікаўліваюць, заахвочваюць калгасы і бядняцка-серадняцкія індывідуальныя гаспадаркі ў палепшаньні і разгортваньні свае вытворчасьці. Асаблівыя выгады—і ў сэнсе падатковых палёгак, і ў сэнсе дзяржаўнай дапамогі атрымліваюць тыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія ўжо ўступілі і ўступаюць на шлях сацыялістычнае свае перабудовы, увайшоўшы ў калгасныя аб'яднаньні, бо менавіта, толькі калектывізацыя зьяўляецца сапраўдным шляхам выхаду бядняцка-серадняцкіх гаспадарак з беднасьці, шляхам, які адчыняе перад імі нязьмерныя магчымасьці росквіту.

Аб гэтых ільготах, палёгках і дзяржаўнай дапамозе калгасам і індывідуальным бядняцка-серадняцкім гаспадаркам павінен ведаць кожны калгасьнік, кожны бядняк і серадняк; давесьці да іх гэтыя законы—зьяўляецца зараз аднэй з першачарговых задач нашых саветаў на мясцох.

Закон пра адзіны сельска-гаспадарчы падатак у працягу 2-х год цалкам вызваляе ад абкладаньня ўсю, дадаткова да плошчы мінулага году, засеяную плошчу як у калгасах, так і ў адзінаасобных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках. Гэта значыць, што калі калгас або бедняк ці серадняк, узаралі і засеялі папар, аблогу, кавалак што быў заросшы хмызьняком, ці які-небудзь іншы вучастак зямлі, што раней не засяваўся, ён атрымае падвойную выгаду: па-першае, атрымае ўвосень больш збожжа, і падругое—за гэты прырост свае прадукцыі два гады ніякіх падаткаў ня будзе плаціць.

Наадварот, у дачыненьні тых, якія паменшаць сваю засеўную плошчу супроць леташняга, ці зусім яе не засеюць бяз уважлівых прычын, закон прадугледжвае кару: з гэтакіх асоб падатак усёроўна будзе спаганяцца за ўсю плошчу, што засявалася імі летась, а незасеяная імі зямля будзе перададзена калгасам у карысьць апошніх.

Таксама за правядзеньне аграмінімуму, апрача таго, што ў выніку гэтага будзе большы ўраджай, той, хто яго правеў, атрымлівае 10 проц. скідкі з налічанае сумы сельска-гаспадарчага падатку.

Каб заахвоціць да пашырэньня плошчы пад гароднымі і тэхнічнымі культурамі, кораньплодамі, сеянымі травамі,

закон аб сельска-гаспадарчым падатку прадугледжвае абкладаньне толькі ў палавінным разьмеры плошчы на новазакладзеных, на зямлі, што раней была пад палявымі культурамі, гародаў, а таксама плошчы пад лёнам і канаплямі; пасевы-ж на корм сеяных траў і караньплодаў вызваляюцца ад абкладаньня зусім. Што-ж дачыняецца калгасаў, то там, згодна пастановы ЦВК і СНК СССР ад 4 красавіка 1930 г., аграмаджаная плошча старых гародаў абкладаецца толькі ў палавінным разьмеры, а гароды, закладзеныя нанова на вучастках, што былі раней пад іншымі культурамі, зусім вызваляюцца ад падатку на два гады.

Надзвычайна вялікія падставы для накіраваньня разьвіцьця бядняцка-серадняцкіх гаспадарак па калектыўным шляху, даюць мерапрыемствы, вызначаныя ў пастановах ЦК УсеКП(б) ад 2-га красавіка г.г. і ЦВК і СНК Саюзу ССР ад 4-га красавіка. Паводле гэтых пастаноў зусім вызваляецца ад абкладаньня на два гады ў калгасах уся аграмаджаная рабочая жывёла (коні, валы і г. д.), а таксама ўся іншая жывёла (каровы, сьвіньні, птушка) як аграмаджаная, так і пакінутая ў асабістым карыстаньні калгасьнікаў.

Не абмяжоўваючыся гэтымі падатковымі льготамі, Савецкая ўлада дае калгасам і калгасьнікам яшчэ буйную дапамогу з свайго боку. Вышэйпамянёнымі пастановамі прадугледжана поўнае забясьпечаньне крэдытаваньня ў разьмеры 500.000.000 (поўміліарда) рублёў. Уся запазычанасьць па крэдытах, якая прыпадае на ўступіўшыя ў калгасы гаспадаркі, а таксама запазычанасьць, што перайшла на калгасы, растэрміноўваецца да лістапада 1930 г. Зьнімаецца цалкам запазычанасьць калгасьнікаў па земляўпарадкаваньні, розныя штрафы за няўзнос падаткаў і невыкананьне іншых абавязковых выплат, што ляжалі на аднаасобных сялянскіх гаспадарках да іх уступленьня ў калгасы.

Усе гэтыя палёгкі і льготы разам складаюць па БССР каля 2.000.000 руб.

Пастановай Прэзыдыуму ЦВК Саюзу ССР ад 12 красавіка г. г. усе адзначаныя палёгкі распаўсюджаны і на таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі, у якіх аграмаджаны інвэнтар і рабочая жывёла. На тыя-ж таварыствы па супольнай апрацоўцы зямлі, дзе інвэнтар і рабочая жывёла не абагулены, гэтыя льготы распаўсюджаны часткова: неабагуленыя каровы і дробная жывёла там вызваляюцца ў працягу 2-х год ад падатку не цалкам, а на палавіну, не распаўсюджваюцца на іх пастановы аб дадатковым крэдытаваньні; што-ж датычыцца штрафаў, то яны, як і ў калгасах у адпаведных выпадках, здымаюцца цалкам.

Клапоцячыся і аб індывідуальных бядняцка - серадняцкіх гаспадарках, СНК БССР 15-га красавіка г. г. пастанавіў 30 проц. сродкаў, прызначаных на крэдытаваньне машыназабясьпечаньня сельскай гаспадаркі, накіраваць на забясьпечаньне машынамі індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак. Для дапамогі бядняцкім бясконным і бяскароўным адзінаасобным гаспадаркам былых чырвоных партызан і чырвонагвардзейцаў вызначана 100.000 рублёў крэдыту на куплю коняй і 200.000 руб. на набыцьцё кароў.

У пастанове Прэзыдыуму ЦВК і СНК СССР прадугледжана, каб было ажыцьцёўлена земляўпарадкаваньне неўвайшоўшых у калгасы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак без затрымак, прычым прапануецца пры адводзе ім земляў не зьмяншаць надзелаў, а таксама адводзіць па магчымасьці больш блізкія і ўдобныя землі (зразумела, не адышоўшыя пад калгасы).

Адначасова законам прадугледжана, каб пры звароце вышаўшым з калгасаў абагуленага насеньня ад іх браліся абавязацельствы аб выкананьні засеўнага пляну, які наогул павінен быць даведзены да кожнага двара.

23-га красавіка г. г. Прэзыдыум ЦВК і СНК Саюзу ССР прынялі пастанову, якая дае дадаткова шэраг ільгот калгасам. Для авансаваньня кантрактацыі пасеваў сланэчніку, кукурузы і збожжавых культур адпушчаны дадатковы крэдыт у суме 60.000.000 рублёў. Гэта значна ўзмоцніць матар'яльную базу калгасаў. Апрача таго, калгасам, якія выканалі плян засеву кукурузы і сланэчніку, авансы на кантрактацыю кожнага звыш пляну засеянага гэктару выдаюцца ў падвойным разьмеры.

Па гэтых-жа культурах пры абкладаньні с.-г. падаткам нормы прыбытковасьці для калгасаў зьменшаны ў два разы. Таксама ў мэтах заахвочваньня разгортваньня ў калгасах садоўніцтва, разьвядзеньня канапель і ільну, вінаграднікаў, тутуню, махоркі, нормы прыбытковасьці зьменшаны на 30 проц. Каб забясьпечыць поўны засеў гэтых культур будуць выдавацца да восені насенныя пазыкі пад зварот натураю.

Апрача гэтых ільгот, як калгасам, так і індывідуальным гаспадаркам, прадугледжана выдача пэўнай колькасьці алею і жмыхаў у залежнасьці ад здадзенага імі сланэчніка.

Надзвычайна вялікую выгаду атрымліваюць калгасьнікі на падставе п. 8 паказанай пастановы, які цалкам вызваляе іх ад устаноўленага законам самаабкладаньня.

Усе паказаныя законы сельсаветы і нізавы савецкі актыў павінны вывучыць дасканала, сыстэматычна і няўхільна растлумачваючы іх кожнаму бедняку і серадняку, дамагаючыся таго, каб кожны бядняк і серадняк, які засявае індывідуальна, ведаў, што згодна закону аб с.-г. падатку і інш. законаў, за ўсялякія палепшаньні ў сваёй гаспадарцы і пашырэньне пасеўнае плошчы ён атрымлівае шэраг ільгот, а за скарачэньне гэтай плошчы ён панясе пэўную страту, каб кожны бядняк і серадняк усьвядоміў сабе, якія выгады ён атрымлівае ўжо непасрэдна, зараз, у выпадку яго ўступленьня ў калгас, каб ён ведаў і разумеў, што асаблівыя перавагі калгасам даюцца менавіта таму, што толькі калгасы зьяўляюцца адзіным надзейным шляхам сапраўднага ўздыму беднядка-серадняцкіх гаспадарак. **Б-н.**

# Найважнейшая задача.

*Да пытаньня аб падрыхтоўцы кадраў для саветаў і савецкага будаўніцтва.*

Саветы, як сапраўдныя органы дыктатуры пралетарыяту, на сучасным этапе разьвіцьця рашучай клясавай барацьбы і сацыялістычнага будаўніцтва набываюць асабліва вялікае палітычнае значэньне.

Зусім зразумела, што вялізарнейшыя задачы нашае дзяржавы патрабуюць ад усіх зьвеньняў савецкай сыстэмы і ў першую чаргу ад нізавога зьвяна—сельсавету і гарсавету—аграмаднай ініцыятывы, рашучасьці, усьвядомленьня поўнай адказнасьці за свае мерапрыемствы. Але ўсе гэтыя задачы можна будзе выканаць толькі тады, калі саветы будуць як мага больш працаздольнымі, калі кожны працаўнік савету будзе досыць добра ўяўляць сабе ўсю складанасьць сучаснага пэрыоду сацыялістычнага будаўніцтва, калі ён да вырашэньня кожнага пытаньня будзе падыходзіць з марксысцка-ленінскай меркай.

Новы, больш высокі этап разьвіцьця нашай гаспадаркі, патрабуе ад працаўнікоў усіх галін савецкага будаўніцтва асабліва акрэсьленага клясавага пачуцьця, уменьня арыентавацца ў палітыцы нашай партыі і савецкае ўлады і асабліва пільна сачыць за ўсімі манэўрамі клясавага ворага.

Усё гэта вымагае ад саветаў рашучага перагляду мэтадаў і тэмпаў свае працы, ставіць пытаньне аб узмацненьні саміх саветаў, якія не заўсёды яшчэ стаяць на чале ажыцьцяўленьня важнейшых задач і мерапрыемстваў савецкае ўлады.

На ўсесаюзнай нарадзе па пытаньнях савецкага будаўніцтва было адзначана, што „сельсаветы як-раз цяпер уступаюць у фазу, калі яны могуць праявіць усю сваю моц, як адзіныя і асноўныя органы дыктатуры пралетарыяту на вёсцы".

Пастаўленыя новыя задачы саветаў высоўваюць на першы плян вельмі адказную праблему, без вырашэньня якой наўрад ці іх можна будзе выканаць.

**Гэтай праблемай зьяўляецца пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў савецкіх работнікаў, кадраў для сельсаветаў, а таксама для ўсяго савецкага апарату.** Саветы на гэтым новым этапе павінны мецьсвае кадры працаўнікоў, якія цалкам адпавядалі-б новым запатрабаваньням гэтага найважнейшага гістарычнага моманту нашай дзяржавы.

**„Гэтая задача** — задача падрыхтоўкі кадраў у галіне савецкага будаўніцтва— як адзначыў на памянёнай усесаюзнай нарадзе т. **Кагановіч.—„Зараз стаіць і яшчэ будзе на працягу пэўнага часу стаяць са ўсёй вастрынёй“.**

Для пасьпяховага разьвязаньня гэтай задачы нарада знайшла патрэбным у самы кароткі тэрмін мобілізаваць усе магчымасьці, арганізаваць сетку спэцыяльных курсаў, палепшыць пастаноўку працы на факультэтах савецкага права і г. д. Хуткі тэмп нашага росту і ўсё новыя палітычныя задачы, якія ставяцца перад практычнымі працаўнікамі на месцох, патрабуюць, каб яны (працаўнікі) грунтоўна падмацавалі сябе тэорытычнымі ведамі. Гэта неабходна для таго, каб нашы практычныя працаўнікі ня толькі ведалі як падыходзіць з тэорытычным асьвятленьнем да складанейшых праблем нашых дзён, але і каб мець магчымасьць марксысцка-ленінскія тэарытычныя ўстаноўкі найбольш практычна ўжываць у сваёй адміністрацыйнай і арганізацыйнай працы.

**Разам з падрыхтоўкай новых кадраў неабходна паставіць пытаньне і аб перападрыхтоўцы старых.**

Гэта—таксама ня менш важная задача. Але трэба сказаць, што гэтымі пытаньнямі да апошняга часу амаль што зусім ня цікавіліся. Гаварылася аб падрыхтоўцы кадраў у розных галінах гаспадаркі і кіраўніцтва. Арганізоўваліся спэцыяльныя вышэйшыя навучальныя ўстановы, тэхнікумы, школы, курсы. Ва ўдарным парадку розныя ведамствы займаліся справай падрыхтоўкі для сябе належных кадраў. Выдаваліся спэцыяльныя дырэктывы аб утварэньні належных умоў для падрыхтоўваемых кадраў.

Партыйныя арганізацыі, савецкія органы і савецкая грамадзкасьць сумелі прыкаваць увагу да гэтага вельмі палітычна адказнага пытаньня. Толькі адна галіна падрыхтоўкі кадраў—кадраў для саветаў заставалася да апошняга часу бяз жаднай увагі.

З падобным становішчам трэба рашуча скончыць. **Праблема падрыхтоўкі кадраў для савецкага будаўніцтва павінна стаць у цэнтры ўвагі як партыйных і савецкіх органаў, таксама і ўсёй савецкай грамадзкасьці.** Без разгорнутай сыстэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў у галіне савецкага будаўніцтва, без належнай увагі да гэтага пытаньня нельга ўзмацніць саветы, якія пераходзяць на новы этап, яны ня змогуць выканаць тыя гістарычна адказныя задачы, якія на іх ускладаюцца. Нельга задаволіцца тымі паасобнымі мерапрыемствамі, якія прымаліся ў гэтай справе і ў нас у БССР. Некалькі кароткатэрміновых курсаў па перападрыхтоўцы працаўнікоў саветаў, якія былі праведзены, ня могуць запоўніць тыя прабелы, якія існуюць у сэнсе недахопу людзей.

Справа перападрыхтоўкі ня была пабудавана на падставе пэўнага пляну і сыстэмы. Нашы вышэйшыя навучальныя ўстановы і камвуз таксама гэтай справай спэцыяльна не займаліся і ня ставілі перад сабой задач падрыхтоўкі неабходных кадраў па савецкаму будаўніцтву.

Толькі ў апошні час у гэтай галіне назіраецца некаторы пералом. Нядаўна, у сакавіку месяцы ЦВК РСФСР вынес пастанову аб устанаўленьні адзінай сыстэмы падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі працаўнікоў па савецкаму будаўніцтву. Гэтай сыстэмай павінны быць ахоплены працаўнікі ўсіх зьвеньняў саветаў і яна прадугледжвае розныя формы і мэтады падрыхтоўкі.

Неабходна і ў БССР прыняць належныя крокі, і як мага хутчэй, да зьдзейсьненьня гэтае важнае задачы.

На якой-жа падставе павінна быць зьдзейсьнена гэтая важная справа?

**Па-першае**—праграмы і навучальныя пляны па савецкаму будаўніцтву ўсіх навучальных устаноў павінны ажыцьцяўляцца на падставе самай шчыльнай сувязі з непасрэдным савецкім будаўніцтвам і нясупыннай практыкі слухачоў у сэнсе іх непасрэднага ўдзелу ў працы адпаведных савецкіх органаў.

**Па-другое**—сыстэма падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі павінна забясьпечыць тыпы працаўнікоў па савецкаму будаўніцтву, пачынаючы з актыву гарадзкіх, сельскіх і местачковых саветаў аж да працаўнікоў па савецкаму будаўніцтву акруговых выканаўчых камітэтаў і цэнтральных органаў.

**Па-трэцяе**—у сувязі з падрыхтоўкай належнага тыпу працаўніка па савецкаму будаўніцтву мэтазгодны наступныя фор-

мы і від навучаньня: а) школьнае навучэньне, б) кароткатэрміновы тып навучаньня і в) завочнае навучаньне.

**Па-чацьвертае**—установамі школьнага тыпу ў БССР павінны зьяўляцца: а) факультэт савецкага будаўніцтва і права, б) аддзяленьне савецкага будаўніцтва пры камвузе (3 гады), якое арганізуецца з наступнага навучальнага году, в) вячэрні камвуз, дзе таксама павінна быць арганізавана аддзяленьне савецкага будаўніцтва, г) савецка-партыйныя школы са спэцыяльным аддзяленьнем з 2-хгадовым тэрмінам навучаньня для працаўнікоў па савецкаму будаўніцтву сельскіх і местачковых саветаў. Для гэтага могуць быць скарыстаны школы II ступені і школы сялянскай моладзі, д) для падрыхтоўкі актыву раённых выканаўчых камітэтаў і сельскіх саветаў павінны быць скарыстаны школы-перасоўкі палітычнай граматы з пашыраным курсам савецкага будаўніцтва з тэрмінам навучаньня адзін год, е) для падрыхтоўкі актыву гарадзкіх саветаў скарыстаць вячэрнія сав.-парт. школы, школы для дарослых і арганізаваць спэцыяльныя гурткі па савецкаму будаўніцтву ў агульнай сыстэме партасьветы.

**Па-пятае**—падрыхтоўка выкладчыкаў па савецкаму будаўніцтву для адпаведных зьвеньняў навучэньня павінна праводзіцца: а) камвузам, б) факультэтам сав. будаўн. і права і в) сац.-гістарычным аддзяленьнем пэдфаку Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту, дзе павінен быць арганізаваны спэцыяльны цыкл па сав. будаўніцтву з тэрмінам навучаньня 2 гады.

**Па-шостае**—установамі па кароткатэрміноваму навучаньню трэба лічыць курсы розных тэрмінаў для розных тыпаў працаўнікоў: а) для перападрыхтоўкі і падрыхтоўкі працаўнікоў для больш высокіх зьвеньняў савецкай сыстэмы 6-месячныя курсы пры камвузе; б) для ніжэйшых зьвеньняў курсы з тэрмінам навучаньня 3 месяцы пры акруговых сав. партшколах, альбо там, дзе іх няма—пры акрвыканкомах.

**Па-сёмае**—акрамя школ і курсаў мэтазгодна арганізаваць і завочнае навучаньне спэцыяльна для асоб, якія ўжо працуюць у галіне савецкага будаўніцтва. Арганізацыю завочнага навучаньня павінен узяць на сябе камвуз і сав.-партшкола другой ступені, маючы на ўвазе розныя тыпы працаўнікоў.

**Па-восьмае**—разам з гэтым неабходна ахапіць памянёнай сыстэмай падрыхтоўку да працы ў савецкім апараце і вылучэнцаў. Пастанова ЦК і ЦКК ВКП(б) аб вылучэнстве рабочых у савецкі апарат—павінна быць максымальна выканана. Але неабходна, каб гэтае выкананьне было жыцьцёвым. Ускладаючы адказнасьць за сыстэматычнае ўцягненьне рабочых у дзяржапарат на кіраўнікоў адпаведных установ ЦК і ЦКК ВКП(б) патрабуе, каб вылучэнцы мелі пэўнае кіраўніцтва ў сваёй працы, пападалі ў нармальныя ўмовы працы і атрымлівалі-б падвышэньне сваёй кваліфікацыі.

Вось чаму неабходна, каб і падрыхтоўка вылучэнцаў таксама ўвайшла ў агульную сыстэму падрыхтоўкі кадраў для сав. будаўніцтва. Гэтым самым бяспрытульнасьць гэтай справы павінна быць ліквідавана.

**Па-дзевятае**—скарыстаць летні час для максымальнага ахопу сельскага і гарадзкога актыву, а таксама працаўнікоў сельскіх саветаў і райвыканкомаў, для чаго арганізаваць кароткатэрміновыя летнія курсы пры камвузе.

**Неабходна, каб пытаньне аб падрыхтоўцы кадраў па савецкаму будаўніцтву прыцягнула да сябе ўвагу савецкай грамадзкасьці. Неабходна, каб яно было вырашана ў ударным парадку і належным чынам аформлена.**

Яно павінна быць дэталёва распрацавана і вывучана належнымі арганізацыямі і органамі яшчэ ў бягучым навучальным годзе, каб ужо з наступнага навучальнага году гэтая справа ня лічылася толькі на паперы.

Трэба памятаць, што падрыхтоўка кадраў для саветаў і савецкага будаўніцтва зьяўляецца справай вялікай палітычнай адказнасьці. **Трэба памятаць таксама, што задача ўзмацненьня саветаў упіраецца ў пытаньне аб падрыхтоўцы належных кадраў.**

**Н. Канаплін**

**Ад рэдакцыі.** Рэдакцыя просіць т.т. чытачоў і работнікаў савецкага будаўніцтва выказацца аб канкрэтных формах і зьвеньнях сыстэмы падрыхтоўкі савецкіх кадраў.

# Новае пра вылучэнцаў.

Вылучэнства шчыльна зьвязана з цэлым шэрагам вельмі важных пытаньняў: з чысткай савецкага апарату, спрашчэньнем апошняга і патаненьнем, арабочваньнем апарату, праверкай фактычнага выкананьня дырэктыў партыі і савецкай улады ў розных галінах кіраўніцтва і г. д. Вылучэнства зьяўляецца праверaным і вельмі каштоўным спосабам уцягненьня рабочых і батрацка-бядняцкіх мас у штодзенную работу па кіраўніцтву пралетарскай дзяржавай. Савецкі апарат асабліва важнае значэньне мае ў гэты гістарычны пэрыяд, у пэрыяд карэннай перабудовы сельскай гаспадаркі на аснове суцэльнай калектывізацыі і ліквідацыі ў працэсе яе ходу кулацтва як клясы.

Ня гледзячы на тое, што пытаньне аб кадрах савецкага апарату заўсёды, а асабліва зараз, мае выключнае значэньне, што падрыхтоўка новых кадраў шляхам вылучэньня ў савецкі апарат рабочых, а таксама батракоў і беднякоў—сялян мае вельмі актуальнае значэньне, вылучэнства да гэтага часу носіць у нас больш выпадковы, чым сыстэматычны характар.

Вылучэнствам пераважна да гэтага часу займаліся, асабліва на мясцох, толькі ў час выбараў саветаў, зьездаў саветаў, прычым вылучэнства амаль не ўвязвалася з бюджэтнымі пытаньнямі. Ня было стала і ўсебакова вырашана праўнае становішча вылучэнцаў.

У мэтах зьнішчэньня паказаных недахопаў у гэтай справе, для ўстанаўленьня пэўнага парадку вылучэньня рабочых і сялян на адказную работу у дзяржаўныя і каперацыйныя ўстановы і прадпрыемствы, а таксама для забясьпечаньня набыцьця імі кваліфікацыі і выданы 7 красавіка 1930 г. ад імя ЦВК і СНК БССР закон „Пра вылучэнцаў".

Прыняты закон абавязвае дзяржаўныя і каапэрацыйныя ўстановы і прадпрыемствы кожны год, не пазьней як за два месяцы да пачатку бюджэтнага году вызначаць дакладную колькасьць і назвы штатных адзінак, якія павінны быць заняты вылучэнцамі ў гэтых установах. Гэта вызначэньне павінна быць зроблена разам з прафсаюзнымі арганізацыямі. Самае вылучэньне рабочых, батракоў і працоўных сялян на адказную работу робіцца агульнымі сходамі рабочых, калгасьнікаў, прафсаюзнымі і грамадзкімі арганізацыямі, выканаўчымі камітэтамі і саветамі, ды іх сэкцыямі і камісіямі. Такі парадак забясьпечвае вылучэньне на кіруючую работу сапраўды лепшых рабочых, батракоў і сялян, лепшых па іх пралетарскай сьвядомасьці, адданасьці сацыялістычнаму будаўніцтву і здольнасьцях.

На адміністрацыю адпаведных установаў і прадпрыемстваў закон ускладае абавязак забясьпечыць такі парадак і ўмовы работы вылучэнца, якія-б найбольш спрыялі набыцьцю і падвышэньню яго кваліфікацыі. У гэтых-жа мэтах закон абавязвае пры вызначэньні работы вылучэнцаў абавязкова ўлічваць яго індывідуальныя асаблівасьці.

Як новы закон забясьпечвае інтарэсы вылучэнцаў, якія дае ім льготы і перавагі? Па-першае, за імі захоўваюцца ўсе правы і льготы, якімі яны карысталіся да вылучэньня як рабочыя, батракі і сяляне (у галіне народнай асьветы, падатковага абкладаньня, харчаваньня і г. д.). Па-другое, за вылучэнцамі, калі яны да вылучэньня атрымоўвалі большую зарплату ў параўнаньні, з той, якая ім належыць па новай пасадзе, захоўваецца разьмер іх ранейшай вышэйшай зарплаты. Па-трэцяе, вылучэнцам, калі вылучэньне зьвязана з пераменай сталага іх месца пражываньня, абавязкова выплачваецца каштоўнасьць праезду, правозу маемасьці і сутачныя.

Апроч гэтага ўстанаўляецца асобны парадак пераводу вылучэнцаў на іншую работу і звальненьня іх з работы. Можа здарыцца, што вылучэнец, ня гледзячы на ўсе захады, якія ўжыла для яго падрыхтоўкі адміністрацыя, будзе, па думцы адміністрацыі, няздольны выконваць тую работу, на якую ён вылучан. Закон для гэткіх выпадкаў устанаўляе наступныя гарантыі для вылучэнцаў. Раней, як праз 6 месяцаў наогул нельга ставіць пытаньне аб няздольнасьці вылучэнца, аб яго неадпаведнасьці даручанай рабоце. Праз 6 месяцаў, ужыўшы ўсе захады да падрыхтоўкі вылучэнца, можна ўжо больш-менш упэўнена казаць аб

тым, наколькі даны таварыш зможа ў далейшым аўладаць даручанай альбо іншай работай у дзяржаўным апараце і пасьпяхова падрыхтавацца да самастойнай работы. Таму, калі адміністрацыя праз 6 месяцаў, добра прыгледзіўшыся да вылучэнца, знойдзе яго неадпавядаючым свайму прызначэньню, яна можа паставіць пытаньне аб гэтым перад тымі органамі, якія вылучылі данага таварыша. Толькі па згодзе гэтых органаў адміністрацыя мае права перавесьці вылучэнца на іншую работу або звольніць яго. За звальненьне альбо перавод вылучэнца бяз згоды вылучыўшага органа адміністрацыя прыцягваецца да крымінальнай адказнасьці, а вылучэнец зараз-жа аднаўляецца на рабоце. Такім парадкам, закон ахоўвае інтарэсы вылучэнцаў у працягу двох гадоў. Два гады—гэта тэрмін, у працягу якога вылучэнец павінен падрыхтавацца да самастойнай работы. (У РСФСР для падрыхтоўкі вызначан тэрмін у разьмеры аднаго году, у ЗСФСР—два гады). Пасьля двох гадоў вылучэнец можа быць зволены з пасады на агульных падставах, аднак, з прычыны скарачэньня штатаў вылучэнец і пасьля двох гадоў можа быць зволены з пасады толькі ў апошнюю чаргу.

Хоць закон БССР пра вылучэнцаў гэтага і не вызначае, але гэта само сабой зьяўляецца зразумелым, што могуць быць такія выпадкі, калі вылучэнец можа быць зволены з пасады без захаваньня паказаных вышэй тэрмінаў, гэта значыць да сканчэньня двох гадоў і нават 6 месяцаў з часу вылучэньня. Такімі выпадкамі могуць быць: учыненьне злачынства, прыцягненьне да адказнасьці органамі рабоча-сялянскай інспэкцыі за выразную безгаспадарчасьць, бюракратызм і цаганіну, страта выбарчага права.

Закон устанаўляе, што вылучэнцы зволеныя з пасады на працягу першых двох гадоў іх вылучэньня з прычыны ліквідацыі ўстановы альбо прадпрыемства, няздольнасьці да работы, хваробы, а таксама вылучэнцы, якія пакінулі работу па свайму жаданьню, маюць права на працягу трох месяцаў; а пры хваробе—на працягу чатырох месяцаў пасьля звальненьня альбо застаўленьня пасады вярнуцца на ранейшую работу ў тую ўстанову альбо прадпрыемства, у якой яны працавалі да вылучэньня. У такіх выпадках установа альбо прадпрыемства, у якія вярнуліся вылучэнцы, могуць звольніць каго-небудзь для дачы месца вылучэнцу.

Закон абавязвае наркаматы, саветы, выканкомы разам з прафэсыйнымі органамі арганізоўваць папярэднюю падрыхтоўку кадраў вылучэнцаў. НК Асьветы і АВК павінны з гэтай мэтай арганізоўваць спэцыяльныя курсы. Агульнае кіраўніцтва справай вылучэньня ў раёнах і акругах, а таксама і падлік вылучэнцаў ускладзены на раённыя і акруговыя выканаўчыя камітэты, а на ўсёй тэрыторыі БССР—на Арганізацыйна-Інструктарскі Аддзел Прэзыдыуму ЦВК БССР.

Мясцовыя органы ўлады павінны зараз, калі чыстка савецкага апарату разгортваецца ў акругах, шчыльна ўвязаць пытаньне чысткі з пытаньнем вылучэнства, з тым, каб замест вычышчаных бюракратаў і шкоднікаў ў дзяржаўны апарат уліліся новыя кадры рабочых, батракоў і сялянбеднякоў. Адначасова з гэтым трэба прасачыць за тым, каб вылучаныя таварышы ня сустрэлі адкрытых і скрытых варожых да сябе адносін з боку адпаведных апаратаў. Адным з спосабаў праверкі адносін да вылучэнцаў і пасьпяховасьці набыцьця імі кваліфікацыі трэба лічыць пэрыядычнае скліканьне нарад вылучэнцаў з дакладамі аб іх рабоце ў установах і на прадпрыемствах. Таксама трэба сачыць за тым, каб вылучэнцы падтрымлівалі сувязь з тымі прадпрыемствамі, арганізацыямі, калгасамі і г. д., якія вылучылі іх на працу. Тых вылучэнцаў, якія цалкам сябе апраўдалі на рабоце, трэба прасоўваць больш рашуча, чым гэта было да сучаснага моманту, на больш адказную кіруючую работу.

Бязумоўна, пры дастатковай увазе справе вылучэнства яно значна дапаможа хутчэй зьнішчыць тыя цяжкасьці, якія маюцца зараз, ва ўмовах вострай клясавай барацьбы супроць разгортваньня сацыялістычнага будаўніцтва, і якія выклікаюцца недастаткова яшчэ высокім узроўнем гаспадарчага і культурнага разьвіцьця краіны і капіталістычным яе абкружэньнем.

**А. П.**

# Як перабудоўваецца работа сельскіх саветаў.

*(Магілеўская акруга).*

У Магілеўскай акрузе многія сельсаветы ўжо 4—5 месяцаў працуюць ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі. Але да апошняга часу нават у раёнах, дзе праведзена суцэльная калектывізацыя — сельсаветы вельмі марудна адмаўляліся ад ранейшых мэтадаў работы. Асабліва доўга не набывалі выразнасьці ўзаемадачыненьні сельскіх саветаў і праўленьняў калгасаў, а ў некаторых раёнах гэтае выразнасьці няма яшчэ і зараз.

Тлумачыцца такое становішча ў першую чаргу, тым, што райвыканкомы не завострылі ўвагі на пытаньнях перабудовы работы сельскіх саветаў. У той час, калі пытаньне гэтае абмяркоўвалася ў цэнтральных і акруговай газэтах, калі акрвыканкомам быў распрацаваны прыкладны плян работы сельскіх саветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі — ня было ніводнага выступленьня райвыканкомаў акругі ні ў друку, ні па ведамсьцьвеннай лініі. На пленумах, прэзыдыумах і нарадах пытаньне аб перабудове работы саветаў, і ў прыватнасьці пастановы ЦВК СССР і БССР аб рабоце саветаў, не абмяркоўвалася ні адным райвыканкомам акругі. Зразумела, нельга яшчэ адсюль рабіць вывад, што райвыканкомы і сельскія саветы не займаліся гэтым пытаньнем, жыцьцё прымушае рэагаваць на запатрабаваньні часу, але ў даным выпадку пытаньні перабудовы работы сельсаветаў вырашаюцца самацёкам, бяссыстэмна пры адсутнасьці патрэбнае ініцыятывы і дастатковага ўменьня сканцэнтраваць увагу на тым ці іншым пытаньні без паказаньня зьверху.

Другі момант, які шкодзіў і шкодзіць перабудове работы саветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі — гэта тэрытарыяльная неаформленнасьць калгасаў і ўзьнікаючая патрэба ў зьменах межаў сельскіх саветаў.

Прыклад: Кармянскі райвыканком 16-II г. г. узьняў хадайнічаньне аб аб‘яднаньні Воранаўскага і Расохінскага, Хізаўскага і Задубскага сельсаветаў. Сваё хадайнічаньне аб стварэньні замест чатырох — двух сельсаветаў райвыканком абгрунтоўвае тым, што тэрыторыі сельскіх саветаў не супадаюць з тэрыторыямі калгасаў і гэта ставарае блытаніну ва ўзаемаадносінах сельскіх саветаў як з калгасамі, так і паміж сабою. Такія моманты маюцца і ў іншых раёнах і кольмасна гэтыя моманты, бязумоўна, будуць павялічвацца пры земляўпарадкаваньні калгасаў, бо ў некаторых сельсаветах зараз імкнуцца межы калгасаў прыстасаваць да межаў сельскіх саветаў, а гэта не заўсёды эканамічна мэтазгодна.

Па-трэцяе — некаторыя райвыканкомы нерашуча ішлі на перабудову работы саветаў у напрамку наданьня ім ролі кіраўнікоў калгасаў.

Чавускі райвыканком 19-I г. г. заслухоўваў даклад Валкавіцкага сельсавету і садаклад двох калгасаў, што знаходзяцца на тэрыторыі сельсаветаў. У пастанове райвыканкому зусім няма ані слова аб узаемадачыненьнях сельсавету і калгасаў. Райвыканком даваў калгасам паказаньні і кіраваў іх дзейнасьцю непасрэдна і такім чынам калгасы выходзілі з-пад уплыву сельсавету; роля сельскага савету зьніжалася. Журавіцкі райвыканком, абмяркоўваючы на прэзыдыуме 14-III г. г. масавую работу сельскіх саветаў, у пытаньнях перабудовы работы саветаў абмежаваўся наступнымі агульнымі паказаньнямі: „усю масавую работу саветаў асяродкаваць вакол вузлавых гаспадарчых пытаньняў: калектывізацыі і інтэнсіфікацыі сельскае гаспадаркі, кааперавання насельніцтва і культурнага будаўніцтва, з адначасовым палепшаньнем савецкага апарату“.

Пастанова абсалютна нічога не дае і зьяўляецца прыкладам проста бюракратычнага хаваньня за паперу.

Больш дасканала і ўважліва да пытаньняў перабудовы работы сельскіх саветаў падышлі Клімавіцкі, Касьцюковіцкі, Чэрыкаўскі і Хоцімскі Райвыканкомы. Клімавіцкі Райвыканком па справаздачы Лазовіцкага сельсавету дае 18 студзеня наступную дырэктыву: „сельскім саветам узяць сталае кіраўніцтва над калгасамі, існуючымі на тэрыторыі сельсаветаў, асабліва ў замацаваньні іх, не паслабляючы работы ў калгасах па абагуль-

ваньню насенных фондаў, ачыстцы насеньня, збору попелу".

Касьцюковіцкі і Чэрыкаўскі Райвыканкомы ў лютым месяцы, па дакладах сельсаветаў, завастраюць асабліваю ўвагу на сапраўднаеператварэньне сельска-гаспадарчых камісій у вытворчыя нарады і даручаюць сельскім саветам: „прыняць рашучыя крокі да ўвядзеньня ў арганізаваных калгасах гаспадарчых плянаў, удзельнічаць у дасканалай распрацоўцы правілаў унутранага распарадку, у якіх зараз-жа прадугледзіць разьмеркаваньне і вучот усяе рабочае сілы для правядзеньня пасеўнай кампаніі; прыцягнуць да гэтае работы аграномаў".

Хоцімскі райвыканком прапануе Прэзыдыуму Просьцінскага сельсавету: „заслухоўваць справаздачы калгасу, даваць напрамак рабоце калгасу".

У тых раёнах, дзе райвыканкомы не прыкрываліся агульнымі фразамі, а ставілі перад сельскімі саветамі канкрэтныя задачы ў галіне калгаснага будаўніцтва і і кіраўніцтва калгасамі — сельсаветы з большаю ўпэўненасьцю бралі на сябе ролю кіраўнікоў калгасаў, сьмялей шукалі новых мэтадаў і формаў работы. Гэта магчыма ілюстраваць наступным характэрным прыкладам: Камуна „Савецкая Беларусь" Нізкаўскага с.-савету, Касьцюковіцкага раёну, мела імкненьне падначаліць сабе сельскі савет. Прынамсі ў канцы 1929 году сустракаліся такія пастановы праўленьня камуны: „прапанаваць Нізкаўскаму сельсавету праверыць сацыяльна-маёмаснае становішча грамадзянства".

Цяпер-жа дзякуючы канкрэтным паказаньням райвыканкому, Нізкаўскі сельсавет заслухоўвае інфармацыю камуны аб падрыхтоўцы сяўбы, даручае сябром сельскага савету ўдзельнічаць у абагульваньні насеньня ў камуне і распрацоўцы плянаў; сельскі савет правярае якасьць сельска-гаспадарчага інвэнтару ў камуне, узьнімае пытаньне аб вызаве камунаю на сацспаборніцтва суседніх калгасаў, устанаўляе праверку выкананьня камунаю вытворчага пляну; у плянах работы гэтага сельсавету ўжо пэўнае месца займаюць пытаньні кіраваньня работаю калгасаў.

Сельсавет заняў мейсца, якое яму належыць.

Праверачна-справаздачная кампанія і перавыбары саветаў далі рашучы пералом у сэнсе парабудовы работы саветаў. Справаздачна-перавыбарчая кампанія была разам з тым і кампаніяй шырокага растлумачэньня задач сельскіх саветаў у ажыцьцяўленьні палітыкі партыі і ўраду на вёсцы.

Другім этапам, які ўжо павінен будзе замацаваць некаторую практыку работы новага складу сельскіх саветаў, даць цьвёрдае разуменьне задач сельскіх саветаў і навучыць працаваць ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі—зьявіцца падрыхтоўка работнікаў сельскіх саветаў на курсах.

**А. Дубовік.**

# Пытаньні работы сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі.

*(Па матар'ялах абсьледваньня ў Магілеўскай акрузе).*

Вялізарныя задачы, якія стаяць перад сельсаветамі ў сувязі з масавай калектывізацыяй сельскай гаспадаркі, яшчэ не атрымалі свайго належнага адбітку ў практычнай, штодзённай рабоце сельсаветаў.

Ня гледзячы на шэраг дасягненьняў у гэтай галіне, мы яшчэ ня маем належнай перабудовы мэтадаў і форм работы саветаў. Адно тое, што пастановы ЦВК СССР і БССР аб новых задачах саветаў у сувязі з масавай калектывізацыяй не абмяркоўваліся ні на пасяджэньнях прэзыдыумаў і пленумаў саветаў, ні на пасяджэньнях сэкцый, групах і сходах бедняты, сельскага актыву і спэцыяльных нарадах паказвае, што гэтым пытаньням ня было аддадзена належнай увагі.

Прычыны недастатковага ўдзелу сельсаветаў у калгасным будаўніцтве хаваюцца:

па-першае—у недастатковай увазе да перабудовы іх работы з боку вышэй-

стаячых выканкомаў і адставаньні форм работы апошніх ад патрабаваньняў сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі;

па-другое—у падмене ў шэрагу выпадкаў працы сельсаветаў працай упаўнаважаных райвыканкомаў, акрвыканкому, рабочых брыгад і іншых, камандыраваных для дапамогі ў праведзеньні работы па калектывізацыі і іншых кампаній, з прычыны чаго сельсаветы ператвараліся ў тэхнічны апарат для гэтых упаўнаважаных.

У некаторых раёнах замест перабудовы работы апарату прыстасоўна да ўмоў суцэльнай калектывізацыі пайшлі на поўную перадачу некаторых функцый дзярж. апарату калгасна-каапэрацыйнай сыстэме. Напрыклад, Клімавіцкі РВК, акрамя апэрацыйнага агранамічнага пэрсаналу, перадаў райкалгассаюзу таксама і раённага агранома, пакінуўшы ў РВК толькі загадчыка зям. часткі, чым фактычна перадаў усю працу па плянаваньню с. г. і кіраваньню сацыялістычнай перабудовай с. г.—калгаснай сыстэме; асабліва прымаючы пад увагу, што загадчык райземчасткі па большасьці адсутнічае ў РВК, і толькі па атрыманьні пастановы АВК, патрабаваў адкамандыраваньня райаграгронома зноў у РВК. У тым-жа напрамку пайшоў Магілеўскі АВК сваёй пастановай ад 5/III—30 г. аб стварэньні райземкіраўніцтваў на чале з начальнікам—старшынёй Райкалгассаюзу.

Не наладжана аскравае разьмежаваньне функцый паміж сельсаветамі і калгасамі, асабліва пераблытаны паміж імі функцыі ў тых выпадках, калі пасада старшыні сельсавету саўмяшчаецца з пасадай старшыні ці члена праўленьня калгасу, або загадчыка аддзяленьня калгасу, у зьвязку з чым наглядаецца прыняцьцё на сябе калгасамі функцый сельсавету і наадварот. Напрыклад, па калгасу „Бальшавік Беларусі“ за-за сумяшчэньня пасады старшыні сельсавету з работай у якасьці загадчыка аддзяленьня калгасу, па гэтым сельсавеце шэраг пытаньняў, што адносяцца да кампэтэнцыі сельсавету вырашаецца праўленьнем калгасу і наадварот. Напрыклад, праўленьне калгасу „Бальшавік Беларусі“ на сваім пасяджэньні ад 11/II—30 г. прыняло пастанову „прапанаваць сельсаветам узмацніць ахову насенных складаў“.

Раднянскі с/с 12/XII—29 г., заслухаўшы заявы гр-н вёскі Леанполье аб аднаўленьні іх у выбарчых правох і дазволе ўступіць у калгас, пастанаўляе: „перадаць на вырашэньне праўленьня калгасу“, „устрымацца да вырашэньня пытаньня аб прыёме ў калгас“;

па-трэцяе—у нездавальняючым сацыяльным складзе сельсаветаў, у зьвязку з чым у радзе выпадкаў члены сельсаветаў ня прымалі актыўнага ўдзелу ў рабоце па калектывізацыі, застаўшыся ў баку ад калгаснага руху (Аўтухоўскі, Судзілаўскі і інш. с/с Клімавіцкага раёну, шэраг сельсаветаў Быхаўскага раёну і інш.), адмаўляліся ад уступленьня ў калгас-агітавалі супроць мерапрыемстваў па калектывізацыі (шэраг сельсаветаў Касьцюковіцкага раёну, некаторыя сельсаветы Клімавіцкага раёну і інш.), разбазарвалі жывёлу пры ўступленьні ў калгас (Судзілоўскі с/с і інш.) і першымі выходзілі з калгасу.

Ня толькі радавыя члены сельсаветаў, але нават і некаторыя старшыні сельсаветаў выступалі супроць калектывізацыі, напрыклад, намесьнік Старшыні Аўтухоўскага сельсавету Клімавіцкага раёну Драздоў пры выкананьні ім абавязкаў Старшыні сельсавету, „пры праведзеньні калектывізацыі першым выпісаўся з калгасу, таемна распаўсюджваў хлусьню пра калгасы, чым зрабіў падрыў, і гледзячы на яго і іншыя грамадзяне таксама выпісаліся з калгасу“ (з пратаколу пленуму Аўтухоўскага с/с, ад 17/XI).

Старшыня Самуйлоўскага с/с Чавускага раёну, Пілецкі пры правядзеньні сходу па калектывізацыі, гаварыў: „іду ў калгас таму, што я старшыня сельсавету, калі я не пайду, дык мяне зьнімуць з працы, а вы, грамадзяне, як хочаце“ (з пратаколу Чавускага РВК ад 3/II—заг. № 49);

па-чацьвертае—у адсутнасьці вядзеньня выхаваўчай работы сярод членаў сельсаветаў;

па-пятае—у слабым разгортваньні масавай работы, галоўным чынам сярод батрацка-бедняцкіх мас і адсутнасьці пры шэрагу сельсаветаў батрацка-бядняцкіх груп, недастатковай рабоце сярод батрачак, бяднячак і серадначак.

Прайшоўшыя зараз перавыбары сельсаветаў некалькі палепшылі сацыяльны склад сельсаветаў. Неабходна толькі праводзіць плянамерную выхаваўчую работу сярод новага складу сельсаветаў праз батрацка-бядняцкія групы, праз сэкцыі, праз уцягненьне іх у масавую работу саветаў і наладзіць плянавы інструктаж членаў сельсаветаў у іх рабоце па правядзеньні і папулярызацыі мерапрыемстваў партыі і савецкай улады у галіне сацыялістычнае перабудовы вёскі з тым, каб кожны член сельсавету стаў застрэльшчыкам гэтых мерапрыемстваў, адначасова, прымаючы меры да адкліканьня выбаршчыкамі тых членаў сельсаветаў, якія ня здольны працаваць, альбо супроцьдзейнічаюць рабоце па сацыялістычнай перабудове вёскі.

Неабходна таксама разгарнуць масавую падрыхтоўку новага складу старшынь і сакратароў сельсаветаў праз каротка-тэрміновыя курсы па савецкаму будаўніцтву.

У мэтах большага прыстасаваньня і перабудовы работы сельсаветаў да ўмоў масавай калектывізацыі сельскай гаспадаркі, неабходна правесьці масавую растлумачальную работу аб ролі сельсаветаў у новых умовах, абмяркоўваючы гэта пытаньне як на афіцыйных пасяджэньнях саветаў і выканкомаў, а таксама на пасяджэньнях сэкцый, батрацка-бядняцкіх групах і сходах, нарадах сельскага актыву, сходах калгасьнікаў і г. д., а таксама шляхам большага асьвятленьня пытаньняў работы сельсаветаў у друку, ў прыватнасьці ў друкаваных калгасных газэтах і сельскіх насьценгазэтах.

Неабходна таксама прыняць усе меры да падняцьця аўтарытэту сельскіх саветаў і на ліквідацыю момантаў ігнараваньня сельскіх саветаў пры вырашэньні пытаньняў, зьвязаных з работай і жыцьцём на вёсцы, не дапушчаючы падмены работы сельсаветаў—работай розных упаўнаважаных, работай праўленьняў калгасаў і інш. У прыватнасьці, для зьнішчэньня ненармальнасьцяў у ўзаемаадносінах сельсаветаў і праўленьняў калгасаў, неабходна вызваліць старшынь сельсаветаў ад сумяшчэньня з работай у якасьці старшынь калгасаў ці іх аддзяленьняў, дзе гэта мае месца (напр., Раднянскі і Судзілаўскі с/с, Клімавіцкага раёну, і інш.).

Функцыі РВК і сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі падлягаюць значным зьменам:

Скарачаюцца функцыі ў галіне фінансава-падатковай працы (с. г. падатак, самаабкладаньне, страхоўка) і ў галіне нарыхтовак хлеба, бульбы і сыравіны. Напрыклад, на калгас „Ленинский путь“, арганізаваны яшчэ ў сакавіку 1929 г., с. г. падатак і страхоўка налічаліся адразу на ўвесь калгас у цэлым, замест многіх індывідуальных гаспадарак у мінулым годзе. Самаабкладаньня зусім не налічалася. Лішкі хлеба і сыравіны здаваліся ў плянавым парадку.

Усё гэта дало значнае скарачэньне працы ў сэнсе налічэньня і сысканьня падаткаў і г. д.

Зьмяняюцца формы работы ў адносінах прадпрыемстваў сельскага значэньня, у значнай сваёй большасьці перадаваемых калгасам, а таксама ў адносіне тавараабароту паміж горадам і вёскай, які прымае больш арганізаваны плянавы характар.

Зьмяняюцца таксама функцыі ў адносінах лясной гаспадаркі, у зьвязку з тым, што лясы вымаюцца з індывідуальнага і групавога карыстаньня і перадаюцца калгасам, дзякуючы чаму адпадае шэраг работ па нагляду і арганізацыі аховы лясоў з прычыны спыненьня лесапарубак, разьмеркаваньня лесу, забясьпечаньня маючых патрэбу ў лесаматар'ялах насельніцтва і г. д.

У сэнсе скарачэньня лесапарубак яскравы наступныя лічбы па Клімавіцкаму лясьніцтву: калі ў сярэднім за 1928-29 г. на месяц прыпадае па 69 лесапарубак, дык у сьнежані 1929 г. гэтая лічба зьменшаецца да 18, у лютым 1930 г.—да 8 пратаколаў і ў сакавіку—да 2 пратаколаў.

Значна ўзрастаюць функцыі па кіраўніцтву і рэгуляваньню пытаньняў вытворчасьці сельскае гаспадаркі ва ўмовах буйнага гаспадарчага арганізму, у прыватнасьці, па кіраўніцтву вытворчай дзейнасьцю калгасаў.

Павялічваюцца функцыі ў адносінах арганізацыйна-адміністрацыйнай, сацыяльна-культурнай і гаспадарчай дзейнасьці (дарожнае будаўніцтва і г. д.).

Зьмяняюцца таксама формы выкананьня шэрагу грамадзка-абавязковых функцый сялянскага насельніцтва: дарожная павіннасьць, пажарная ахова, сельвыканаўцы і шэраг інш.

Калі раней, пры індывідуальным гаспадарваньні, насельніцтва прыцягвалася да выкананьня гэтых абавязкаў, і прымушаны былі адначасова выконваць некаторыя работы па сваёй гаспадарцы, дык пры калектывізацыі, калгасьнікі выконваюць гэтыя абавязкі ў парадку плянавага разьмеркаваньня рабочай сілы па нарадах, аслабаняючыся ад іншых работ на гэты час. Гэта значна зьмяншае работу сельскіх саветаў у сэнсе арганізацыі соцен паасобных індывідуальных двароў і значнай тэхнічнай працы па складаньні сьпісаў, адзнак аб выкананьні тых ці іншых абавязкаў і г. д., зводзячы іх працу да нагляду за выкананьнем тых ці іншых абавязкаў калгасам у цэлым.

Шырока разгорнуты калгасны рух у вёсцы выклікае значны ўздым палітычнай актыўнасьці бядняцка-серадняцкіх мас вёскі, якая павінна быць выкарыстана для ўсямернага ажыўленьня масавай работы сельсаветаў і шырокага разгортваньня самакрытыкі. Гэта патрабуе перабудовы і мэтадаў масавай работы, арганізацыі шэрагу новых сэкцый пры сельсаветах, у прыватнасьці сэкцыі РСІ, у зьвязку з наяўнасьцю выпадкаў зажыму самакрытыкі ў калгасах і парушэньня прынцыпаў савецкай дэмакратыі.

Зьмяненьне форм і характару працы нізавога савецкага апарату ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі, у якой узмацняюцца элемэнты кіруючага, рэгулюючага і плянуючага пачатку—патрабуюць рашучай перабудовы структуры і форм работы РВК і сельсаветаў у бок зьмяненьня і пашырэньня і наданьня ім большых правоў у справе вырашэньня разглядаемых імі пытаньняў, перанясеньня цэнтру апэрацыйнага кіраўніцтва ў РВК і падвядзеньня матар'яльнай базы пад работу сельсаветаў (сельбюджэты), адсутнасьць якой не дае ім магчымасьці належнага кіраўніцтва ўсім жыцьцём і працай на сяле.

Бюджэты, якія маюцца ў некаторых с/с, фактычна гэткімі ня зьяўляюцца, бо яны складаюцца РВК і ў гатовым выглядзе падносяцца сельсаветам, якія вельмі слаба ўдзельнічаюць у іх абгаварэньні і складаньні.

Характэрным у гэтых адносінах можа зьявіцца Раднянскі с/савет, Клімавіцкага раёну, які састаіць на сваім бюджэце; старшыня сельсавету ня ведаў нават разьмераў прыбытковай і выдатковай частак, так як с/савет яго не складаў і ня быў з ім азнаёмлены нават і пасьля зацьверджаньня.

Урэшце, ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі няўхільна паўстае неабходнасьць часьціннага перараёнаваньня раёнаў і сельсаветаў, бо часта тыя ці іншыя паселішчы ўступаюць у калгас суседняга сельсавету альбо нават раёну.

Напрыклад, пасёлак Панізоўка, Дубровіцкага сельсавету, Клімавіцкага раёну, які складаецца з 9 двароў, увайшоў у калгас „Свой Труд", Крычаўскага раёну, ў зьвязку з чым страціў адміністрацыйную і гаспадарчую сувязь з Клімавіцкім раёнам. Калгас „Бальшавік Беларусі", Клімавіцкага раёну, арганізаваны на тэрыторыі 3-х сельсаветаў Клімавіцкага раёну, уключыў у сябе шэраг паселішч і хутароў іншых раёнаў, у тым-жа калгасе, разьбіты на эканоміі, некаторыя паселішчы аднаго сельсавету ўвайшлі ў склад эканоміі другога сельсавету, напрыклад, вёска Прудкі, Роднянскага с/с, увайшла ў склад эканоміі—аддзяленьня калгасу па Судзілаўскаму сельсавету.

**Е. Нехлюдаў.**

# Удалыя вынікі.

## Праца рэарганізаванага сав. апарату вопытна-паказальнай Віцебшчыны.

Вялікія задачы па выкананьні пяцігадовага пляну народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва, па сацыялістычнай рэканструкцыі прамысловасьці і сельскай гаспадаркі, патрабуюць ад нас значных тэмпаў у самой працы савецкага апарату. Між тым савецкі апарат у далёкай ступені зусім не прыстасаваны для таго, каб

гэтыя задачы выканаць своечасова з дастатковай гнуткасьцю і тэмпамі. У шэрагу выпадкаў акруговыя органы ўлады замест таго, каб займацца кіраўніцтвам сацыялістычнай рэканструкцыі народнай гаспадаркі, займаюцца дробнай апекай, вырашэньнем шэрагу апэрацыйных пытаньняў, якія маглі-бы быць вырашаны на мясцох, у сельсаветах, ці райвыканкомах.

Трэба асабліва падкрэсьліць, што вырашэньне значнай колькасьці пытаньняў, закранаючых патрэбы насельніцтва, у акрвыканкомах і іх аддзелах аддаляе апарат ад насельніцтва, прымушае працоўнае насельніцтва за вырашэньнем сваіх спраў езьдзіць у раён, акругу, траціць шмат часу і грошай покуль не даб'ецца канчатковага вырашэньня сваёй справы.

У зьвязку з неабходнасьцю разгрузкі АВК ад непатрэбных функцый, у зьвязку з неабходнасьцю набліжэньня апарату да насельніцтва, у зьвязку з тым, што цэнтр цяжкасьці працы па палепшаньні апарату і яго рацыяналізацыі павінен быць перанесены ў раён (пастановы XVI партканфэрэнцыі), перад органамі ўлады паўстала пытаньне аб неабходнасьці зьмяненьня сыстэмы кіраўніцтва, каб асноўная частка ўсяе апэрацыйнае працы, асноўная цяжкасьць па выкананьню пляну народнай гаспадаркі была ўскладзена на РВК, сельсаветы і гарсаветы.

Каб пытаньне наколькі такая зьмена разьмеркаваньня працы ў апараце зьяўляецца жыцьцёвай праверыць на вопыце, было створана па СССР шэсьць вопытна-паказальных акруг, у тым ліку ў БССР—Віцебская акруга. У гэтай акрузе зусім рэарганізавана сыстэма кіраўніцтва: асноўныя апэрацыйныя функцыі дэцэнтралізаваны, перададзены канчаткова на вырашэньне нізавых органаў савецкай улады, а за АВК засталіся толькі функцыі кіраваньня ў акруговым маштабе і кантроль выкананьня дырэктыўных даручэньняў вышэйшых органаў улады.

У зьвязку з гэтым зусім зьліквідаваны былыя аддзелы АВК, як фінансавы, зямельны і інш. і замест гэтага створаны адзіны апарат АВК з вядомай колькасьцю адказных выканаўцаў інспэктароў па паасобных частках працы.

Акрамя дэцэнтралізацыі апэрацыйнай працы і перадачы яе ўніз праведзена значнае спрашчэньне структуры, пабудаваньне апарату АВК, гарсавету і РВК. Усе былыя аддзелы і часткі зьліквідаваны і апарат пераведзен на сыстэму, так званых, адказных выканаўцаў, дзе кожны інспэктар поўнасьцю адказвае за даручаную яму справу, атрымлівае палітычныя дырэктывы ад таго ці іншага кіраўніка апарату.

Праведзена аб'яднаньне статыстычнай работы з работай па плянаваньні; такім чынам, статыстыка пачала працаваць для мэтаў плянаваньня, пачала даваць матар'ялы неабходныя для правільнага плянаваньня народнай гаспадаркі і культурнага будаўніцтва акругі.

У некалькіх словах раскажам аб асноўных прынцыпах рэарганізацыі па паасобных галінах савецкага будаўніцтва.

Па лініі фінансавай Акрфа зьліквідавана, асноўныя функцыі па налічэньні і спагнаньні сельгаспадатку перададзены с.-саветам. Усе сельсаветы атрымалі самастойны бюджэт. Такім-жа чынам атрымалі самастойны бюджэт і гарсавет, якому перададзена фінансава-падатковая інспэкцыя і ўся праца па фінансаваньні ў абшарах гор. Віцебску.

Касавае выкананьне бюджэту (прыём грошай), выдача па чэках-асыгноўках вытвараецца ў гор. Віцебску—Дзяржбанкам, а ў раёнах крэдытнымі таварыствамі, у сельсаветах—ашчаднымі касамі.

Спрошчана справаздачнасьць. Калі раней кожны выдатак запісваўся ў 3-х мясцох, то зараз дэцэнтралізаваны вучот вядзецца ў распарадчыкаў крэдытамі, а ў фінансавых органах і ў дзяржбанку вядзецца агульны вучот у суме колькі выдаткована грошай па бюджэту.

Устаноўлена новая сыстэма вядзеньня бухгальтэрыі—капірвучот, які па заяве работнікаў НКФ, цалкам сябе апраўдаў.

У Віцебску да рэарганізацыі існавалі 3 банкі, якія ў выніку рэарганізацыі зьліліся ў адзіны дзяржаўны банк, які накіроўвае працу як па камунальнай, так і па сельскай гаспадарцы і па іншых відах крэдытаваньня.

Па лініі зямельнай—зямельны аддзел зьліквідаваны, уся праца па земляўпарадкаваньні перадана ў РВК—куды таксама пераведзены і каморнікі. Зямельныя ка-

камісіі ліквідаваны, справы перададзены ў агульны суд, а земляўпарадкоўчыя праэкты разглядаюцца канчаткова Прэзыдыумам РВК. Колькасьць апэрацыйных працаўнікоў па сельскай гаспадарцы ў раёне ў зьвязку з гэтым значна павялічылася. Лясьніцтвы ўзбуйнены, падпарадкаваны цалкам РВК і ў кожным раёне маецца адно лясьніцтва.

Па лініі судовай. Па ўсёй Віцебшчыне арганізаваны сельскія і тарыскія суды, якія карыстаюцца ў насельніцтва аўтарытэтам, працуюць надзвычайна шпарка, (у сельскіх судох справа затрымліваецца ад 2 да 10 дзён, ня больш). Вытварэньне сьледзтва ў значнай частцы перададзена міліцыі, якая з гэтай справай досыць добра спраўляецца, прычым міліцыя атрымала пашырэньне правоў у сэнсе непасрэднага накіраваньня большасьці спраў у суд, мінуючы сьледчага.

Адміністрацыйныя справы таксама дэцэнтралізаваны і ў кожным раёне, а таксама ў Віцебскім гарсавеце арганізаваны спэцыяльныя адміністрацыйныя часткі. Па лініі працы, гандлю, нарасьветы, аховы здароўя і сабесу праведзена поўная перадача ўсіх маючыхся ўстаноў і ўскладзена кіраўніцтва імі на РВК, гарсаветы, прычым па сацыяльным забясьпечаньні, прызначэньні пэнсіі інвалідам—справа ўскладзена на сельсаветы.

Органы фінкантролю ў НКФіне ліквідаваны (гэта зараз праведзена па ўсім нашым Савецкім Саюзе); а функцыі гэтыя ўскладзены на органы РСІ, якія праводзяць арганізацыю масавага кантролю рабочых, служачых і працоўнага сялянства, над працаю савецкага апарату, над выдаткаваньнем імі сродкаў, над правільнасьцю вядзеньня фінансава-гаспадарчай працы.

Як самастойныя органы дзяржбанку зьліквідаваны, уліты ў агульную сыстэму АВК і саветаў, прычым асноўная праца таксама як і па сельгаспадатку ўскладзена на сельсаветы; РВК зьдзяйсьняе нагляд за іх дзейнасьцю.

Усё вышэйадзначанае, а таксама шэраг вялікіх і дробных мерапрыемстваў зусім зьмянілі малюнак працы РВК, гарсавету і с.-саветаў.

Калі раней АВК займаўся вырашэньнем шэрагу дробных пытаньняў, калі раней парадак дня АВК складаўся з 30 і больш пытаньняў, то зараз АВК займаецца найбольш важнымі пытаньнямі гаспадарчага і культурнага будаўніцтва акругі. Калі раней насельніцтва павінна было чакаць месяцамі вырашэньня сваіх спраў, то зараз ня толькі ў АВК, але і ў РВК мы часта зусім ня бачым наведвальнікаў.

Напрыклад, як сьцьвярджае прадстаўнік НКФ СССР, па пытаньні сельгаспадатку сяляне, апрача абкладзеных індывідуальна, перасталі амаль езьдзіць у РВК, бо яны знаходзяць вырашэньне ледзь ня ўсіх сваіх пытаньняў у сельсавеце.

Удалося таксама ў значнай степені ўзмацніць нізавы савецкі апарат, бо акруговы апарат быў скарочаны вышэй чым на 60 проц. і значная колькасьць работнікаў перакінута ў РВК і сельсаветы.

Калі ў мінулыя гады для правядзеньня той ці іншай кампаніі мабілізавалі ўвесь акруговы апарат і пасылалі ў раёны, то ў гэтым годзе (калі ня ўлічваць калектывізацыю і кампанію па правядзеньні вясеньняга севу), на большасьці кампаній ніякай пасылкі адказных работнікаў у раён амаль што ня было. Удалося таксама значна палепшыць матар'яльнае становішча нізавых работнікаў савецкага апарату; у зьвязку з скарачэньнем агульных выдаткаў атрымалася магчымасьць значна падвысіць стаўкі, у параўнаньні з іншымі акругамі БССР.

Калі ўзяць асноўныя адзнакі гаспадарчай дзейнасьці Віцебскай акругі, то амаль ва ўсіх палітычных і гаспадарчых кампаніях Віцебская акруга знаходзіцца калі не на першым месцы, то на першых мясцох. Як, напрыклад, Віцебскі АВК быў на першым месцы ў БССР па распаўсюджаньні пазыкі індустрыялізацыі, па загатоўцы розных культур, па загатоўцы і вывазцы лесу. Зусім нядаўна мы чыталі пастанову Ураду аб прадастаўленьні Віцебску 10 трактароў у зьвязку з тым, што Віцебская акруга першая выканала і перавыканала заданьне па збору ўтыльсыравіны і г. д. Для праверкі, як працуе Віцебская акруга, на колькі апраўдалася новая сыстэма працы, была вылучана спэцыяльная камісія ў складзе работнікаў РСІ СССР, БССР і астатніх наркаматаў Саюзу ССР, БССР. Камісія прабыла 2 тыдні ў Віцебску, была ў шэрагу с.-саве

таў, раёнаў, азнаёмілася з працай Віцебскага гарсавету, АВК і прышла да аднадушнай думкі, што ў асноўным сыстэма сябе апраўдала, што пры разьмеркаваньні функцый паміж паасобнымі зьвеньнямі апарату таксама сябе апраўдала, што ў асноўным у сыстэме грунтоўных недахопаў няма. Праўда, быў выяўлены шэраг нявыразнасьцяў у практыцы ажыцьцяўленьня сыстэм, быў выяўлены шэраг паправак, якія неабходна зрабіць, і гэта зусім натуральна, што першая праца не магла прайсьці зусім гладка.

Таму, камісія ўносіць на зацьверджаньне ўраду праэкт пастановы, у якім з аднаго боку прызнаецца, што віцебскі вопыт сябе апраўдаў, што неабходна яго распаўсюдзіць на ўсе астатнія акругі БССР і, з другога боку—унесьці шэраг паправак, якія вынікаюць з жыцьця, якія ідуць па лініі лепшага разьмеркаваньня абавязкаў паміж паасобнымі работнікамі РВК і саветаў, паміж самімі органамі ўлады, а таксама па лініі ўдасканаленьня шэрагу пытаньняў аб спосабах выкананьня ўсіх абавязкаў, якія ўскладзены на РВК.

Трэба адзначыць, што з боку цэнтральных наркаматаў не заўсёды наглядаліся ўважлівыя адносіны да віцебскага вопыту. Шэраг наркаматаў зусім не ўдзяліў увагі вывучэньню гэтага вопыту, зусім не падыходзіў канкрэтна да Віцебскіх умоў і кіраваў Віцебшчынай па тым-жа трафарэцэ, як кіраваў іншымі акругамі, хаця па закону было ясна адзначана, што Віцебскай акругай трэба кіраваць асобна, зварочваючыся непасрэдна ў сваёй працы да раёнаў і кіруючы непасрэдна працай нізавога савецкага апарату.

Таксама самыя важныя правы, якія атрымалі нізавыя органы Віцебскай акр.—правы бюджэтаў недастаткова праведзены ў жыцьцё, бо амаль усе бюджэты Віцебскай акр. зьяўляюцца дэфіцытнымі. Гэта паказвае на тое, што пры перадачы тых ці іншых выдаткаў на бюджэт с.-с., РВК і гарсаветаў—ім ня былі перададзены адпаведныя даходныя артыкулы.

Тое самае мы можам сказаць і пра бюджэт Віцебскай акр. цалкам, які ў зьвязку з неперадачай яму шэрагу даходных крыніц застаўся дэфіцытным.

Усё гэта і шэраг іншых заўваг і паправак будуць улічаны пры канчатковай распрацоўцы новай сыстэмы кіраўніцтва, якая будзе праведзена, відаць, ва ўсіх акругах БССР і СССР.

**Я. Ракаў.**

**Ад рэдакцыі.** Просьба да ўсіх т.т. працаўнікоў Віцебшчыны шырэй асьвятліць работу рэарганізаваных саветаў і выканкомаў па Віцебскай акрузе на старонках нашага часопісу.

# Выправім і папярэдзім перагібы з пазбаўленьнем выбарчых правоў.

У бягучым годзе, як арганічную частку скрыўленьняў у справе калектывізацыі, мы маем асабліва значную хвалю парушэньняў выбарчага законадаўства, і ня толькі выбарчага — у дачыненьні асоб, пазбаўленых выбарчага права (правільна і, што яшчэ горш, няправільна), ужываўся шэраг абмежаваньняў і мерапрыемстваў, якія ніякім законадаўствам не прадугледжаны і супярэчаць генэральнай лініі партыі і савецкай улады.

У Плешчаніцкім раёне, Менскай акругі, (Акалоўскі с.-савет) пазбавілі выбарчых правоў глуханямых, як пазбаўленцаў, іх ня прынялі ў калгас і ўжо хацелі выключыць з каапэрацыі. Менская Гарадзкая Выбарчая Камісія пазбавіла фатографаў Ліўшыца і Гатаўскага, як эксплёатуючых наёмную працу шляхам дачы работ на дом за тое, што яны даюць фотаздымкі зьдзельна для рэтушыроўкі. У Копыльскім раёне, Менскай акругі, пазбавілі было выбарчых правоў сялян-серадняков Зарамбоўскага і Заяца. Селянін вёскі Казінава, Бешанковіцкага раёну, Віцебскай акругі — Лабанаў, які плоціць 3 р. 62 к. сельгаспадатку, быў пазбаўлен выбарчых правоў, як гандляр лыкамі (надраў і прадаў пару вазоў лык). Такі самы выпадак быў з бедняком — пагарэльцам Клімковым у Рагачэўскім раёне, Бабруйскай акругі. У мястэчку Нараўля (Мазыршчына) пазбавілі выбарчых правоў саматужніка — шаўца Залана, які ніколі наёмнай працай не карыстаўся і з 1927 году зьяўляецца сябрам саматужнай арцелі.

На жаль, такія скрыўленьні маюцца ня толькі ў саветах і райвыканкомах. Не бязгрэшны па гэтай частцы і акруговыя выбарчыя камісіі. На апошніх 3-х пасяджэньнях Цэнтральнай Выбарчай Камісіі з 301 скаргі на няправільнае пазбаўленьне выбарчых правоў задаволена 151 і адменены незаконныя пастановы акруговых выбарчых камісій.

Прадэманструем гэта некаторымі фактамі, узятымі на выбарку з пратаколаў апошніх пасяджэньняў Цэнтральнай Выбарчай Камісіі. Кравец — саматужнік Мірскі Гірша (Слуцак, Бабруйскай акругі) быў пазбаўлен выбарчых правоў за гульню ў карты. Таксама быў пазбаўлен выбарчага права Бабруйскай акруговай выбарчай камісіяй „як былы белагвардзейскі чыноўнік“ гр-н Уласік Антось, які з 1907 г. служыў у паштова-тэлеграфных установах за тое, што ён працягваў гэтую самую працу і ў час белапольскай акупацыі і далей да 1924 году. Былы чырвоны партызан Мац Бэрка, з пасёлку Ясень, Асіповіцкага раёну — рабочы, грузчык лесаматар'ялаў, быў пазбаўлен выбарчых правоў з тае прычыны, што ў працягу аднаго толькі 1926 году меў саматужную смалярню з адным катлом, на якой працаваў выключна сам без наёмнай працы.

Полацкая Акр. Выб. Камісія пазбавіла гр-на Левіна Ідэля, як утрыманца служыцеля рэлігійнага культу — рабіна, хаця камісіяй па чыстцы савапарату Левін быў пакінуты на працы, бо пэўна было ўстаноўлена, што ён з 1926 г. ніякае сувязі з бацькам ня мае і працуе ў савецкіх установах.

Віцебская Акр. Выб. Камісія адмовіла ў аднаўленьні выбарчых правоў саматужніку-загатоўшчыку Цэйтліну на тэй падставе, што ён атрымліваў „непрацоўныя прыбыткі“ ад аднэй сёмай часткі домаўладаньня ў суме 12 руб. (!).

Селянін Мярковіч (Магілеўская акруга), які плаціць 8 р. 65 к. с.-гаспадарчага падатку, быў пазбаўлен выбарчых правоў, як гандляр, хаця ў справе меліся даведкі с.-савету і фінорганаў, што ён гандлем ніколі не займаўся.

Менская Акруговая Выбарчая Камісія пазбавіла выбарчых правоў гр-на Бельскага, як уласьніка шавецкай майстэрні з адным наёмным рабочым і гандляра ботамі, у той час, калі ў сапраўднасьці гр-н Бельскі ня толькі ніколі не гандляваў ботамі і ня меў наёмных рабочых, але ніколі ня меў і шавецкай майстэрні, бо зусім не зьяўляецца шаўцоў, а ўсё сваё жыцьцё займаецца заліўкай галёшаў.

Побач з гэтым, нямала ёсьць выпадкаў непазбаўленьня і аднаўленьня ў выбарчых правох сапраўды непрацоўных і кляса-варожых элемэнтаў. У Аршаншчыне выяўлены непазбаўленыя выбарчых правоў папы і асобы, паражоныя ў правох

па суду (Ваеўскі і Сазонаўскі с.-саветы, Ляднянскага раёну). У Сьмілавіцкім раёне Менскай акругі былі выпадкі аднаўленьня ў выбарчых правох былых заядлых паліцэйскіх і буйных гандляроў. Той-жа Копыльскі РВК, Менскай акругі, які шмат пазбавіў выбарчых правоў працоўных сялян і саматужнікаў, па шэрагу хадайнічаньняў былых гандляроў выносіць пастановы: „хадайнічаць аб аднаўленьні, бо гандаль выклікаўся адсутнасьцю іншых сродкаў існаваньня“.

Віцебская Гар. Выб. Камісія на адным з сваіх апошніх пасяджэньняў пазбавіла толькі цяпер выяўленых 9 асоб, сярод якіх — такія зубры, як дзьякан царквы, былы станавы прыстаў, былыя буйныя гандляры і г. п.

Зараз на мясцох будуць працаваць, створаныя на падставе пастановы Прэзыдыуму ЦВК БССР камісіі па праверцы правільнасьці складаньня сьпісаў асоб, пазбаўленых выбарчага права, якім даюцца надзвычайна шырокія поўнамоцтвы. Гэтыя камісіі, абапіраючыся на мясцовыя батрацка-бядняцкія групы, на рабочы, батрацкі і бядняцка-серадняцкі актыў, на брыгады лёгкай кавалерыі, павінны рашуча ўдарыць па перагібшчыках правага і левага гатунку, прыцягнуўшы злосную іх частку да адказнасьці.

Але, як і кожная надзвычайная мера, праверачныя камісіі не вырашаюць яшчэ пытаньня аб забясьпечаньні ў далейшым ад парушэньняў і цяганіны ў ажыцьцяўленьні выбарчага законадаўства.

Нам неабходна дабіцца, каб ня зьверху, раз у год, кампанейскім парадкам, а ў саміх нізавых зьвеньнях — выбарчых камісіях і саветах было забясьпечана штодзённае правільнае ажыцьцяўленьне савецкага выбарчага законадаўства і хуткае вырашэньне скарг.

Правільна зазначаў, як на адну з важных прычын парушэньняў выбарчага законадаўства тав. Варфман у сваім артыкуле (гл. № 3 нашага часопісу) на незнаёмства членай выбарчых камісій з выбарчым законадаўствам.

Таму неабходна, як сыстэму, увесьці дэталёвую прапрацоўку, вывучэньне пытаньняў выбарчага законадаўства ўсімі работнікамі саветаў і выбарчых камісій. Мала таго, савецкае выбарчае законадаўства павінна быць добра вядома кожнаму грамадзяніну. Між тым, нашы юрыдычна кансультацыйныя і культ-асьветныя ўстановы пакуль што і ня думалі нічога рабіць у гэтай галіне. Трэба рашуча паставіць пытаньне аб прыцягненьні гэтых устаноў да тлумачэньня і папулярызацыі выбарчага законадаўства ў сваёй штодзённай працы.

Па-другое, неабходна выданьне папулярнай літаратуры па пытаньнях выбарчага законадаўства, чаго ў нас у БССР, за выключэньнем выданьня яшчэ ў 1928 г. брашуры „Да перавыбараў саветаў“, дзе зьмешчана інструкцыя з каментарыямі, нічога не рабілася. Самая інструкцыя з 1927 году не перавыдавалася. За гэты час урадавымі органамі СССР і БССР прынята да інструкцыі шмат дадаткаў і тлумачэньняў, якія, будучы раскіданы ў розных зборах законаў і газэтах, і не сабраныя ў адным месцы, не даступны для карыстаньня. Між тым, з часу выданьня інструкцыі ўжо 2 разы цалкам мяняўся склад саветаў, ня лічучы яшчэ большых зьмен у складзе кіруючай іх часткі, якія адбываліся і адбываюцца таксама паміж перавыбарчымі кампаніямі. Можна напэўна сказаць, што аб шэрагу тлумачэньняў і зьмен у выбарчай інструкцыі большая частка працаўнікоў нізавых саветаў і выбарчых камісій нават ніколі і ня чула.

Надзвычайна важную ролю ў сэнсе папярэджаньня парушэньняў і цяганіны тут адыгрывае і самая тэхніка разгляду і праходжаньня спраў: хто і як рыхтуе справы к пасяджэньням і дакладвае па іх, як хутка прапускаюцца справы, як зьбіраюцца весткі і даюцца заключэньні, куды накіроўваюцца скаргі, урэшце, і самае галоўнае, як складаюцца самыя сьпісы асоб, пазбаўленых выбарчага права.

Арганізацыя належнай кансультацыйнай працы і вывешваньне — паказчыкаў — плякатаў ва ўсіх людных мясцох па пытаньнях куды, на якую інстанцыю, скардзіцца, якія трэба далучыць дакуманты і прысылка пры дачы заключэньняў у вышэйшыя органы ніжэйшымі поўных дакумантальных вестак па справах: у першую чаргу, вымагаемых інструкцыяй вестак адпаведных органаў, на падставе якіх толькі і можна пазбаўляць выбарчых правоў, а таксама і дадатковых

вестак аб сацыяльным і маёмасным становішчы, станоўчых і адмоўных момантаў дзейнасьці скаргніка цяпер і ў мінулым — усё гэта, па-першае, у некалькі разоў скараціла-б прагон папер з інстанцыі ў інстанцыю, а значыць і скараціла-б тэрмін вырашэньня спраў, і, па-другое,— пры такім становішчы вышэйшыя ўстановы, якія вырашаюць справы толькі на падставе папяровых дадзеных, лепш маглі-б унікнуць памылковых рашэньняў.

Падрыхтоўка спраў к пасяджэньням і даклады па іх, як правіла павінна праводзіцца адказнымі працаўнікамі, а не, як гэта наглядаецца дагэтуль, тэхнічным апаратам.

Шмат станоўчага ў сэнсе ўдасканаленьня справы ажыцьцяўленьня выбарчага законадаўства на наш погляд можа даць адпаведная перапрацоўка формы самога сьпісу пазбаўленых выбарчага права.

У далейшым па нашай, думцы, неабходна перарабіць самую форму сьпісаў пазбаўленых у такім напрамку, каб самым сьпісам ставіліся канкрэтныя вычэрпваючыя запытаньні, на якія павінны давацца поўныя адказы па ўсіх адзначаных момантах, у прыватнасьці ў сьпісах павінны быць дакладна адзначаны нумары і даты дакумантаў, на падставе якіх асоба ўключаецца ў сьпіс з адзнакай устаноў, ад якіх дакуманты атрыманы.

Гэта ўскладніць некалькі справу вядзеньня і складаньня сьпісаў пазбаўленцаў, але затое дасьць шэраг перавагі вызваліць ад вялікай траты часу для зьбіраньня вестак у выпадку абскарджаньня пазбаўленым у вышэйшую інстанцыю, бо ўжо вынятка з сьпісу будзе зьмяшчаць усе патрэбныя весткі і дасьць практычную магчымасьць па саміх сьпісах непасрэдна арыентавацца правяраючым і зацьвярджаючым гэтыя сьпісы органам наколькі грунтоўны матывы пазбаўленьня кожнага ўнесенага ў сьпісы, што немагчыма пры сучаснай іх форме.

Урэшце, і гэта самае галоўнае, прывучыць на мясцох к сур'ёзным адносінам да складаньня сьпісаў на падставе дакумантальных даных і тым самым значна зьменшыць лік памылак.

Яшчэ лепш будзе, калі сьпісы замяніць карткавай сыстэмай.

Тады ня прыдзецца ўсіх пазбаўленых перапісваць пры кожнай выбарчай кампаніі. Карткі тых, што выбылі, памерлі, альбо адноўлены ў выбарчых правах вымаюцца, на пазбаўляемых дадаткова складаюцца новыя карткі і, такім чынам, на кожны даны момант маецца гатовы вучот асоб, пазбаўленых выбарчага права.

**А. Баркан.**

# Аб аднэй прапанове.

*(У парадку абгаварэньня).*

У нумары 1-м часопісу „Саветы Беларусі“ зьмешчана рацыяналізатарская прапанова: аб скарачэньні пасад рэгістратараў РВК. Прапанова гэтая заслугоўвае ўвагі. Справа ў тым, што з тэхнічным абслугоўваньнем райвыканкомаў і акрвыканкомаў—ня зусім добра. Няма чоткае работы канцылярый; праходжаньне спраў надзвычайна маруднае; архівы— ў хаотычным становішчы. Канцылярыі райвыканкомаў загрузьлі ў паперах і ўжо не працаўнікі гаспадары над паперамі, а наадварот.

*Увайшло ў сыстэму, што нават, самыя простыя запатрабаваньні ніколі ня выконваюцца сваячасова.*

Райвыканкомы звычайна звальваюць віну на сельсаветы, а акрвыканкомы на райвыканкомы. Але ад гэтага не лягчэй. У той час, калі справы бесталкова, бяссыстэмна і надзвычайна марудна поўзаюць па канцылярыях сельсаветаў, райвыканкомаў і акрвыканкомаў — жывыя людзі (да рэчы сказаць у многіх выпадках рабочыя і працоўнае сялянства) месяцамі ходзяць з аднае ўстановы ў другую, лаюць работнікаў, лаюць савецкую ўладу. Асабліва непаваротлівасьць канцылярый савецкіх устаноў выявілася ў правядзеньні кампаніі перавыбараў саветаў. Памылкова пазбаўленыя выбарчага права месяцамі і, нават, *гадамі* чакалі вырашэньня сваіх спраў. А такіх выпадкаў было нямала.

Інфармацыя аб ходзе справаздачна-перавыбарчай кампаніі з месц даходзіла

да вышэйшых органаў тады, як ужо нельга было рэагаваць на дапушчаныя памылкі.

Побач з маруднасьцю, непаваротлівасьцю, хаотычнасьцю, канцыляры райвыканкомаў, сельсаветаў і, нават, акрвыканкомаў адзначаюцца яшчэ надзвычайнаю *неахайнасьцю*. Возьмем ізноў справаводзтва па перавыбарах саветаў.

Зусім не беспадстаўна можна сказаць, што многія райвыканкомы ў статыстычных вестках па перавыбарах даюць акрвыканкомам поўную бязглузьдзіцу. Даходзіць да таго, што, напрыклад, калі членаў сельсаветаў у раёне 320, дык па адукацыі іх 280, па сацыяльнаму становішчу ў два разы больш і г. д., альбо калі ў складзе сельскіх саветаў рабочых налічваецца 6, дык з гэтага ліку калгасьнікаў—12.

Такіх прыкладаў можна сотні набраць з вестак раённых выбарчых камісій Магілеўскай акругі.

Неахайнасьць гэтую цалкам трэба аднесьці да тэхнічнага апарату.

Аб зьнішчэньні цяганіны гаварылі і пісалі многа. Цяганіны-ж гэтае ў савецкіх установах зусім не паменшваецца. Як і пяць гадоў назад—справы поўзаюць па-чарапашшаму; як і пяць гадоў назад—каб дастукацца якіх вестак ад райвыканкому ці акрвыканкому,—ЦВК траціць дзесяткі і сотні рублёў на тэлеграмы, але і ў ЦВК ня лепш: там таксама пралежваюць справы па некалькі месяцаў.

Тэхнічны апарат савецкіх органаў, асабліва райвыканкомаў, слабы; у гэтым палавіна бяды.

Тэхнічныя работнікі райвыканкомаў аплачваюцца надзвычайна мізэрна: калі у райвыканкоме тэхнічны работнік палучае 30—40 р. у месяц, дык там-жа у каапэрацыі гэткі-ж самы работнік палучае 60—75 руб., зразумела, што большменш здольныя работнікі бягуць з райвыканкомаў у іншыя ўстановы.

Адсюль адна з умоў зьнішчэньня цяганіны у савецкіх органах—лепшы падбор тэхнічных работнікаў у райвыканкомах—гэтым важнейшым зьвяне савецкае сыстэмы. Знайсьці-ж лепшых работнікаў, ці хоць затрымаць у райвыканкомах тых, якія зараз там працуюць, магчыма толькі пры палепшаньні іх матар'яльнага становішча.

Другое, што трэба зварушыць з мёртвага пункту ў райвыканкомах і акрвыканкомах—гэта рацыяналізатарскую работу. Канцыляры гэтых установаў, нават, не пасьпяваюць за зьменамі ў структуры ўсяго апарату.

Тры гады ўжо як акрвыканкомы перайшлі на функцыянальную сыстэму, а справаводзтва ўсё яшчэ грунтуецца на рэгістратуры, ніяк ня можа адарвацца ад гэтае мертвае сыстэмы.

Пытаньне аб скарачэньні пасад рэгістратараў райвыканкомаў—ёсьць пытаньне пераходу на безрэгістрацыйную сыстэму.

Пераход на безрэгістрацыйную сыстэму, калі справы будуць непасрэдна паступаць к выканаўцу, калі кожны выканаўца будзе дакладна ведаць свае абавязкі—створыць умовы хутчэйшага праходжаньня спраў і належнага захаваньня іх у архівах.

Скарачэньне-ж пасады рэгістратара і эканомія на паперы (камбініраваны журнал)—дасьць магчымасьць увесьці ў акрвыканкомах і райвыканкомах сталую пасаду загадчыка прыёмнай (ці сталага дзяжурнага).

Правядзеньня гэтых мерапрыемстваў вымагае жыцьцё. А. Д.

# Увага сельскім судом.

Згодна пастановы ЦВК БССР пры кожным сельсавеце павінны быць арганізаваны сельскія суды. Справа гэта вельмі добрая. Гэта дасьць магчымасьць дробныя спрэчныя пытаньні разьбіраць і вырашаць на месцы. Ня будзе таго, што селянін ходзіць за якіх 25 вярстоў, падаючы заяву, потым на суд водзіць па 5—10 сьведак, а ў рэшце справа часта канчаецца нічым, бо аказваецца драбніцай, або паміраціца. Вось гэтыя дробныя пытаньні будуць разьбірацца на месцы, дзе будзе ўдзельнічаць уся маса калгасьнікаў, або наогул бядняцка-серадняцкая маса.

Такім чынам, мы рэвалюцыйную законнасьць хутчэй давядзем да шырокіх колаў насельніцтва.

Але справа будзе пастаўлена на належную вышыню тады, калі старшыні судоў будуць разьбірацца ў розных прававаых пытаньнях самі.

У склад сельскіх судоў зараз увайшлі мала-мальскі пісьменныя сяляне-калгасьнікі, якім справа гэтая зусім новая. Вось тут перад органамі як РВК, так райсуду і абаронцаў стаіць ва ўсю шырыню пытаньне дапамогі апошнім, інакш рэвалюцыйнай законнасьці мы не давядзем да масы, а будзе кампрамэнтацыя яе. У Шклоўскім раёне сельскі суд быў пры Гарадзішчанскім сельсавеце, але з сваёй задачай ён ня справіўся, таму што мала зьвернута ўвагі на дапамогу апошняга з боку вышэйпаказаных органаў.

Былі моманты, што сяляне падымалі крык у час судовага пасяджэньня, і даходзілі да лаянкі самога старшыні суду.

Якім чынам магчыма наладзіць працу судоў?

Патрэбна зараз-жа зрабіць курсы, хаця тыднёвыя, для старшынь сельскіх судоў, дзе-б можна было пазнаёміць іх з Кодэксамі і наогул законамі і тэхнікай вядзеньня судовага пасяджэньня.

Неабходна плянавае куставое інструктаваньне, г. значыць, на 3—4 сельсаветы сумежных, дзе-б прысутнічалі ня толькі старшыні суду, але і сябры апошніх сельсаветаў.

Патрэбна наладзіць цесную кансультацыйную сувязь з раёнам.

Даведачныя сталы і гурткі пры хатах-чытальнях павінны будуць уцягнуць старшынь і сябраў сельскіх судоў.

Актыў вёскі, асабліва настаўніцтва і хатнікі, розныя арганізацыі павінны таксама дапамагчы апошнім. Вось калі хоць гэта малое будзе зроблена, тады мы зможам сказаць, што рэвалюцыйная законнасьць у поўным сэнсе гэтага слова дойдзе да мас.

**Г. Шумілаў.**

**Ад рэдакцыі.** Наркам'юст, рэдакцыя чакае адказу на запытаньні нізавога працаўніка, зьмешчаныя ў гэтым артыкуле.

# Падцягнуць інфармацыю.

Перад саветамі і выканкомамі, як органамі пралетарскай дыктатуры і арганізатарамі працоўных мас гораду і вёскі на сучасным этапе сацыялістычнага будаўніцтва пастаўлены адказьнейшыя задачы, ажыцьцяўленьне якіх патрабуе ў першую чаргу ажыўленьня іх масавай работы. Зараз, як ніколі, неабходна, каб саветы і выканкомы сталі сапраўднымі арганізатарамі працоўных мас гораду і вёскі ў справе выкананьня плянаў сацыялістычнага будаўніцтва, у справе сацыялістычнай перабудовы сельскай гаспадаркі і ліквідацыі кулацтва як клясы на падставе суцэльнай калектывізацыі. Усё гэта патрабуе новых форм і мэтадаў масавай работы саветаў, пасьпяховае ўнядрэньне якіх у практыку работы ўсіх саветаў будзе ў значнай меры залежыць ад канкрэтнай дапамогі саветам перабудаваць сваю работу, ад сваячасовага вывучэньня, абагуленьня і распаўсюджваньня лепшых прыкладаў на астатнія саветы. Вельмі важнае таксама значэньне мае сваячасовае выяўленьне ўсіх адмоных зьявішч работы і становішч саветаўі выканкомаў з мэтай іх выпраўленьня.ў

Вось чаму інфармацыйная работа, у задачу якой і ўваходзіць сваячасова даць сапраўднае становішча работы саветаў і выканкомаў, сыгналізаваць аб усіх небясьпечных зьявішчах іх работы, абагуліць вопыт і лепшыя прыклады работы саветаў і выканкомаў, вывучыць і даць палітычны аналіз усіх сацыяльна-эканамічных працэсаў, патрабавала і патрабуе, асабліва зараз, большай да сябе ўвагі, чым гэта было да апошняга часу.

Належнага інфармацыйнага апарату і наладжанай сыстэмы інфармработы да апошняга часу ў БССР ня было. Пры агульнай слабасьці апарату аргаддзелаў у БССР мы мелі асабліва слабы інфармацыйны апарат і амаль поўную адсутнасьць інфармработы. У акрвыканкомах быў штат—1 інфарматар і ў аргаддзеле ЦВК раней было 2 інфарматары, зараз—3. Але-ж і гэты мізэрны інфармапарат ніколі поўнасьцю на сваёй непасрэднай рабоце не выкарыстоўваецца, асабліва інфарматары ў акрвыканкомах; яны там і пратакалістыя і нагружаюцца справамі аб „лішэнцах“ і шэрагам іншых даручэньняў, работа-ж па інфармацыі абмяжоў-

ваецца,—як піша адзін з акруговых інфарматараў,--выконваньнем даручэньняў Аргаддзелу ЦВК, і то заўсёды са спазьненьнем. Амаль аналёгічнае становішча і ў аргаддзеле ЦВК: таксама працуюць ад выпадка к выпадку, многа часу займаюцца не інфармацыйнай працай і інш. Чым тлумачыцца такое становішча? Бязумоўна, не адным толькі тым, што інфармапарат вельмі малы і ня тым, што інфарматараў выкарыстоўваюць на ўсякай іншай рабоце. Гэта як раз ня прычына, а вынік нейкай прычыны.

Прычына-ж усяго гэтага менавіта ў тым, што ў інфармацыі няма яшчэ сыстэмы работы, няма плянавасьці, адсутнічае сталы зьмест гэтае работы. Таму, падчас, і той мізэрны штат інфарматараў ня ведае, што яму кожны дзень рабіць. У зьвязку з чым яму як „беспрацоўнаму“ і шукаюць работу, нагружаючы ўсякімі іншымі даручэньнямі, замест таго, каб знайсьці шляхі да наладжваньня інфармработы. Наладзіць-жа яе можна толькі пры ўмове таго, калі будзе пэўная, увязаная з усімі зьвеньнямі нашага апарату, сыстэма і парадак інфармработы і належны апарат.

Бязумоўна, неабходна пачаць наладжваньне інфармработы з таго, што мы павінны зараз-жа ўстанавіць пэўную праграму работы інфармацыі ў кожным зьвяне нашага апарату, адпаведна з яго магчымасьцямі. Праграма кожнага зьвяна павінна быць увязана, каб не дапускаць паралелізму ў рабоце. Прыкладна, нашым нізавым інфармапаратам павінен зьявіцца савет (сельскі, местачковы, гарадзкі) і рабселькораўскі актыў. На сельскі савет ня прыдзецца ўскладаць вялікай работы ў гэтай галіне, каб не загружаць яго празьмерна. З гэтай мэтай прыдзецца максымальна скараціць і спрасьціць нашу справаздачнасьць як статыстычную, гэтак і інфармацыйную. Ад с/с трэба будзе патрабаваць толькі самае асноўнае. Існаваўшыя-ж да гэтага часу формы справаздачнасьці былі складанымі і вялікімі, што не давалі магчымасьці сельсавету, пры яго загружанасьці выконваць нашы даручэньні ў гэтай галіне.

Большую адказнасьць за інфармработу прыдзецца ўскласьці на раённыя выканаўчыя камітэты. Апроч абагуленьня па раёну справаздачнасьці (якая будзе ўведзена) сельскіх саветаў, райвыканкомы павінны сыстэматычна займацца вывучэньнем работы саветаў і на падставе ўсякіх іншых матар‘ялаў (пратаколы с/саветаў, заслухоўваньне дакладаў сельсаветаў на пасяджэньнях РВК, інструктарскія абсьледваньні, матар‘ялы друку і г. д.).

Апроч мерапрыемстваў па наладжваньні самой работы, акруговага інфармацыйнага апарату неабходна, бязумоўна, павялічыць і палепшыць яго падбор і матар‘яльную забясьпечанасьць.

Праграма інфармработы ў акрузе павінна поўнасьцю адпавядаць праграме работы інфармацыі аргінструктарскага аддзелу ЦВК па свайму аб‘ёму. Неабходна толькі іх работу так увязаць, каб ня было паралелізму ў рабоце інфармацыі акрвыканкомаў і аргінстру ЦВК.

Да гэтага часу было так, што паміж інфармацыяй аргінстру ЦВК і Аярвы канкомаў ня было ніякай увязкі. Ня было ні ўзаемнага абмену вопытам (бо ня было і саміх плянаў), поўная неасьвядомленасьць, што робіцца інфармацыяй у АВК і што—у аргінстру. Таму, распрацоўка і ўвязка плянаў і праграм работы інфармацыі павінна зьявіцца асноўным мерапрыемствам па наладжваньні работы інфармацыі. Бязумоўна неабходна дабіцца своечасовага выкананьня намечаных плянаў, інакш нашы пляны застануцца на паперы.

Поплеч з упарадкаваньнем работы штатнага інфармапарату неабходна асаблівую ўвагу зьвярнуць на тое, каб надаць інфармацыйнай рабоце характар масавасьці, каб інфармацыя рабіла свае вывады ня толькі на падставе афіцыйных (падчас казённых) справаздач саветаў і выканкомаў, а і на падставе матар‘ялаў мясцовага актыву — рабселькораў, гэта дасьць магчымасьць выкарыстаць у інфармацыйнай працы мэтад самакрытыкі. Гэта дасьць магчымасьць стаць інфармацыі жывой, гнуткай, сваячасовай і бесьперапыннай.

Трэба дабіцца ад выканкомаў большай увагі інфармацыйнай працы і асьвядомленьня, што наладжаная інфармацыя зьявіцца добрым памоцнікам саветам у выкананьні пастаўленых перад імі адказьнейшых задач.

Нехай.

# Рацыяналізацыю—на ўдарнае месца.

*(У парадку прапановы).*

Дзеля таго, каб усе рацыяналізатарскія прапановы, а таксама вопыт рацыяналізатарскай работы сканцэнтраваць у адным месцы, я ўношу прапанову, каб у часопісу „Саветы Беларусі“ быў адчынены спэцыяльны (асобны) аддзел рацыяналізацыі.

У гэтым аддзелу змогуць прыняць удзел усе нашы рацыяналізатары, а таксама рабселькоры і падзяліцца вопытам практычнай працы.

Вылучаныя ў райвыканкомах рацыяналізатары яшчэ не працуюць, бо чакаюць дырэктыў і паказаньняў з акругі. А ў акрузе ма‘быць спадзяюцца на цэнтр. А праца стаіць. За лепшыя прапановы прэміраваньня няма. Паасобныя рацыяналізатары ў працу ня ўцягнуты і чамусьці не даюць сваіх прапаноў. Яшчэ існуе такая думка, што калі падасі прапанову, дык яна нічога не дапаможа і па ёй нічога ня будзе зроблена.

Тут патрэбен рашучы перелом. Раённым рацыяналізатарам трэба даць больш магчымасьці праводзіць сваю працу.

Разгарнуць самадзейнасьць і ініцыятыву. Напр., у мяне ёсьць факт, калі нашы рацыяналізатары пры абгаварэньні прапаноў акруговага рацыяналізатара і ўнясеньні на месцы паправак і новых прапаноў казалі: „мы на месцы ня можам перайначыць акруговых пастаноў. Найлепшая справа—гэта калі ў цэнтры выпрацуюць усе рацыяналізатарскія прапановы і перашлюць на месцы. Вось тады мы будзем ведаць, што іх можна праводзіць у жыцьцё“.

А па-мойму якраз наадварот: гэта важная праца павінна пачынацца толькі з нізоў, канцэнтравацца ў вярхох, распрацоўвацца і ўдасканальвацца з мэтай выпрацаваньня адзінай простай і таннай працы нашых устаноў.

Мы на мясцох ва ўмовах сваёй практычнай працы толькі і можам выпрацаваць простыя і зразумелыя формы гэтай працы.

Тут мы павінны прытрымлівацца такога парадку; распрацавалі гэтыя формы на рацыяналізатарскай нарадзе тэй ці іншай установы, абгаварылі агульным сходам ці прафкалектывам гэтай установы, а тады ўнесьлі на зацьверджаньне прэзыдыуму РВК і ўжо пасьля гэтага можам праводзіць у жыцьцё.

Вядома, што ў працы мы павінны быць зьвязаны з ўсімі рацыяналізатарскімі сіламі.

Сваім вопытам у гэтай галіне мы павінны дзяліцца праз друк і адзін другому выпраўляць недахопы ўвесь час, выпраўляючы і паляпшаючы працу.

В. Ш.

# ПРАЦОЎНУЮ ЖАНЧЫНУ—ПАД СЬЦЯГ САВЕТАЎ,

## у перадавыя шэрагі барацьбітоў за сацыялізм.

## Справу палепшаньня працы і быту працоўных жанчын на дзелавыя рэйкі.

У час рэканструкцыі ўсяе народнае гаспадаркі на новы сацыялістычны лад, перад партыяй і савецкай уладай стаіць шэраг важных задач, патрабуючых неадкладнага вырашэньня. Разьвязаць гэтыя задачы мы зможам толькі тады, калі ўсе працоўныя прымуць актыўны ўдзел у іх вырашэньні. Мы яго маем у разьвіцьці прамысловасьці і шпаркім тэмпе калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Але гэты ўдзел павінен быць яшчэ большым, асабліва з боку працоўнай жанчыны, якая яшчэ адстае. Таму неабходна пашырэньне культурна-бытавых устаноў, у мэтах павялічэньня культурнага ўзроўню працоўнае жанчыны, палепшаньня ўмоў яе працы і быту.

Улічваючы надзвычайна вялікую патрэбу і важнасьць гэтай справы, Цэнтральная Бытавая Камісія склала фонд дапамогі ў суме сто тысяч рублёў, з якіх 50.000 руб. ужо разьмеркавана паміж акруговымі бытавымі камісіямі і адаслана на месцы ў наступным парадку: Менскай акрузе—6.000 руб., Віцебскай—6.500 р., Гомельскай—6.000 руб., Магілеўскай—7.500 руб., Бабруйскай—6.000 руб., Аршанскай—6.000 руб., Мазырскай—6.000 руб. і Полацкай—6.000 р.

Таксама Цэнтральная Бытавая Камісія адпусьціла 20.000 руб. для палепшаньня быту і працы жанчын-работніц, працуючых выключна на прадпрыемствах. Гэтыя 20.000 руб. разьмеркаваны па акругах у наступным парадку: Менскай—3.500 руб., Віцебскай—3.650 руб., Гомельскай—3.650 руб., Магілеўскай—2.500 руб., Бабруйскай—1.200 руб., Полацкай—1.200 руб.

Акруговым бытавым камісіям, як кіраўнікам працы культурна-бытавых устаноў у акругах, патрэбна плянава скарыстаць усе сродкі, вызначаныя для палепшаньня быту жанчын.

Гэтыя сродкі павінны пайсьці на арганізацыю грамадзкіх культурна-бытавых устаноў (грамадзкія сталоўкі, дзіцячыя ясьлі, пляцоўкі, ачагі і інш.).

Акруговыя бытавыя камісіі павінны весьці сталы нагляд за гаспадарчымі ўстановамі і грамадзкімі арганізацыямі, каб сродкі, прадугледжаныя гэтымі ведамствамі на культурна-бытавое абслугоўваньне працоўнай жанчыны, своечасова выдаткоўваліся і скарыстоўваліся па прызначэньні.

Усе сродкі, якія праходзяць па каштарысах акруговых устаноў на культурна-бытавое абслугоўваньне працоўнай жанчыны, павінны выдаткоўвацца, з ведаму і паводле пляну акруговых бытавых камісій.

Пры абслугоўваньні аграмаджанага сэктару вёскі, культурна-бытавыя ўстановы павінны ўлічваць і бядняцкае насельніцтва акаляючых вёсак яшчэ неахопленае калгасамі, выкарыстоўваючы прызначаныя для гэтай мэты сродкі ад самаабкладаньня.

З бюджэтных сродкаў акруговых бытавых камісій 50 проц. выдаткоўваецца на дзіцячыя ўстановы і ўлічваецца ў агульны плян, а з астатніх 50 проц. ствараецца манэўраны фонд, які скарыстоўваецца ў выпадках неабходнасьці арганізацыі новых ясьляў-садоў у калгасах, саўгасах і на прадпрыемствах.

Сродкі, вызначаныя гаспадарчымі ўстановамі і грамадзкімі арганізацыямі, павінны таксама ўлічвацца ў агульны плян і скарыстоўвацца па прызначэньні.

Такім чынам, пад справу палепшаньня працы і быту працоўных жанчын падведзены пэўны матар'яльны грунт. Бытавым камісіям, усім нашым выканкомам і саветам, усім іншым савецкім установам і грамадзкім арганізацыям, а таксама нашаму рабочаму, батрацка-бядняцкаму і серадняцкаму актыву неабходна прылажыць усе намаганьні, каб створаныя ў гэтай галіне магчымасьці скарыстаць на ўсе сто процантаў. **Г. Юшкевіч.**

# Жанчын-членаў саветаў—на курсы.

Па Магілеўскай акрузе ў час справаздачна-перавыбарчай кампаніі саветаў яскрава выявіўся агульны недахоп работы саветаў і слабая работа сярод жанчын.

Актыўнасьць батрацка-бядняцкіх і серадняцкіх жаночых мас надзвычайна ўзрасла. Калі сярэдняя яўка жанчын на выбарчыя сходы ў 1929 годзе па акрузе была 39 проц., альбо на 17 проц. менш, чым яўка мужчын—у гэтым годзе, яўка жанчын на справаздачна-перавыбарчыя сходы—54 проц., а ў некаторых раёнах 67—70 проц. У гэтым годзе яўка жанчын на выбары амаль гэткая, як і мужчын.

Пры абмеркаваньні работы саветаў, пры абгаварэньні кандыдатур жанчыны праяўлялі большую актыўнасьць, чым мужчыны.

На жаль, гэтая надзвычайна ўзьняўшаяся актыўнасьць жанчын-батрачак, бяднячак і сераднячак яшчэ ў многіх выпадках ідзе па непатрэбным рэчышчы.

Кулацкая агітацыя лепшую глебу знаходзіць сярод жаночых мас. Несьвядомыя жанчыны сераднячкі, бяднячкі і батрачкі даволі часта, пад уплывам кулацкай агітацыі, выступалі на справаздачна-перавыбарчых сходах супроць кандыдатур, якія непажаданы былі для заможнае часткі вёскі. Так, напрыклад, у вёсцы Займішча, Чэрняўскага с.-савету, Лупалаўскага раёну, усе кандыдатуры, высунутыя ячэйкаю, былі правалены выключна жанчынамі, якія паддаліся ўплыву кулацкай агітацыі. Такія-ж моманты былі ў Быхаўскім і Чачэвіцкім раёнах; Прапойскі райвыканком паведамляе, што „з боку жанчын—моцных сераднячак, амаль на ўсіх сходах былі выступленьні супроць кандыдатур, намечаных сходамі беднаты і абараняліся кандыдатуры ня з ліку калгасьнікаў“.

Па папярэдніх вестках у новым складзе саветаў жанчын—24 проц. (у старым складзе 19,5 проц.). У некаторых раёнах акругі ўдзельная вага жанчын у новым складзе саветаў дасягае 28—30 проц.

Павялічэньне колькасьці жанчын у складзе саветаў стварае лепшыя ўмовы для разгортваньня саветамі работы сярод жанчын.

Перад членамі новага складу сельскіх і местачковых саветаў—жанчынамі паўстае адказьнейшая задача: побач з работаю наогул па арганізацыі батрацтва і беднаты асабліва настойліва, стала і рашуча заняцца арганізацыяй батрачак, бяднячак і сераднячак, падвышэньнем іх палітычнай сьвядомасьці. Задача гэтая яшчэ больш завастраецца ва ўмовах суцэльнай калектывізацыі, калі менавіта, на глебе арганізацыі жаночае працы ў калгасах магчыма больш усяго ўзьнікненьне недарэчнасьцяў.

Большасьць жанчын—членаў саветаў новага складу будзе працаваць у саветах упяршыню.

Зразумела, што спраўляцца з усімі задачамі жанчыны—члены саветаў змогуць толькі пры ўмове, калі ім будзе аказвацца сталая дапамога і ў першую чаргу дапамога па рабоце сярод жанчын.

У мінулым годзе жанчыны—старшыні і сакратары сельскіх саветаў падрыхтоўваліся на акруговых курсах і курсах пры ЦВК БССР.

У гэтым годзе курсамі трэба ахапіць усіх жанчын—членаў саветаў, пры чым курсы раённыя і акруговыя правесьці зараз-жа.

Для раённых і акруговых курсаў старшынь, сакратароў і членаў сельскіх саветаў трэба загадзя распрацаваць праграму, каб як найлепш правесьці гэтыя курсы. Праграма, па якой праводзіліся курсы ў мінулым годзе, значна кульгала. У прыватнасьці, у праграме зусім не прадугледжана была распрацоўка пастаноў апошніх зьездаў Саветаў. Зараз гэтых памылак трэба ўнікнуць.

Ня школзіла-б, калі праграма курсаў была і папярэдне абмеркавана нізавымі работнікамі.

Належная падрыхтоўка жанчын—членаў саветаў дапаможа ім справіцца з задачамі арганізацыі жанчын батрачак, бяднячак і сераднячак, ліквідацыі кулацкага ўплыву на працоўныя жаночыя масы, дапаможа жанчынам—членам саветаў у барацьбе з дробна-ўласьніцкімі імкненьнямі жанчын і згуртаваньню жаночага актыву вакол саветаў.

Д-к.

# ПРАПАНУЕМ, АБГАВАРВАЕМ

## Аб эфэктыўнасьці інструктаваньня сельсаветаў

*(У парадку абгаварэньня)*

Работа сельскіх саветаў у сувязі з ростам калектывізацыі набывае з кожным днём усё большае значэньне. Роля сельсаветаў, як органаў пролетарскай дыктатуры, павінна асабліва вырасьці зараз, калі ў вёсцы абвострылася барацьба з клясавым ворагам, калі кулак усе свае сілы, усю сваю хітрасьць і зваротлівасьць пускае ў ход для таго, каб сарваць, ці, прынамсі, затармазіць справу сацыялістычнага будаўніцтва на вёсцы.

Нельга сказаць, каб сельсаветам не аддавалася значнае ўвагі, асабліва ў апошні час. Аб іх рабоце пісаліся і пішуцца артыкулы ва ўсіх кіруючых органах. Аб іх рабоце заслухоўваюцца даклады ў самых разнастайных варыяцыях: і аб масавай іх рабоце, і аб удзелу ў калектывізацыі, і аб становішчы працы наогул.

За апошнія $^3/_4$ года толькі па даручэньні аднаго ЦВК інструктарамі ЦВК і Акрвыканкомаў было абсьледвана ня менш 50 сельсаветаў і па лініі правядзеньня сельсьветамі клясавае лініі, і па лініі іх кіраўніцтва працай калгасаў і г. д.

І што-ж у выніку ўсяго гэтага атрымалася? Якія зрухі ў працы сельсаветаў маюцца?

Досыць узяць матар'ялы апошніх абсьледваньняў сельсаветаў, каб пераканацца, што яны прыводзяць да тых самых вывадаў, якія рабіліся 8-9, а часам і больш, месяцаў таму назад.

Якія-ж прычыны слабасьці работы сельсаветаў? І якія меры яе палепшаньня?

Менш за ўсё да гэтых мер можна аднесьці тое, што да гэтага часу звалася і завецца інструктаваньнем.

Трэба проста прызнаць, што ў 8—10 сельсаветаў пастановы, законы ды інструкцыі цэнтральных і акруговых органаў ня чытаюцца.

Каб даказаць гэтае, досыць праверыць лёс апошніх дырэктыў цэнтральнага ўраду аб палепшаньні працы саветаў.

Яшчэ ў канцы мінулага году была дадзена дырэктыва аб рэарганізацыі зямельна-лясных камісій у сельска-гаспадарчыя камісіі, пабудаваныя па прынцыпу вытворчых нарад. Нядаўнае абсьледваньне сельскіх саветаў выявіла, што амаль ні ў водным сельсавеце дырэктыва гэтая не зьдзейсьнена. Такі самы лёс знайшла дырэктыва аб арганізацыі камісій па палепшаньні працы і быту працоўных жанчын, аб арганізацыі камісій па асобных вёсках, аб арганізацыі дэпутацкіх груп у калгасах і г. д. Мала таго, асноўныя законы і пастановы ўраду, якія непасрэдна дачыняюцца вёскі, у большасьці сельсаветаў ня чытаюцца. Вельмі часта можна знайсьці ў сельсавеце зборы законаў ураду не разразанымі.

Адсюль вывад—што рад паказаньняў не даходзіць фактычна на месца.

Што-ж перашкаджае гэтаму? Асноўная прычына—гэта слабая падрыхтаванасьць старшынь сельсаветаў, якія ня ўмеюць сачыць за дырэктывамі і, асабліва, ператвараць іх у жыцьцё.

Таму пытаньне аб кадрах для нізавых савецкіх органаў набывае асабліва вялікае значэньне.

Але ня толькі адсутнасьць падрыхтоўкі перашкаджае. Мы маем шэраг фактаў, калі дырэктывы даходзяць на месца са спазьненьнем на 1-2 месяцы, і ня-рэдка тады, калі яны страцілі сваю вастрату.

Такім чынам, эфэктыўнасьць пісьмовых дырэктыў вельмі праблематычная,

Ці дапамагае жывое інструктаваньне? Бясспрэчна—ня больш. Перш за ўсё неабходна канстатаваць, што матар'ялы інструктарскіх абсьледваньняў часта застаюцца зусім ня скарыстанымі. Інструктар піша, машыністка друкуе, а чытае іх—ніхто.

Але і дапамога інструктароў мясцом асаблівага значэньня ня мае. Ці можна разьлічваць, што выезды інструктароў цэнтральных і акруговых устаноў, якія ахопліваюць 7-8 процантаў сельсаветаў, могуць палепшыць працу апошніх? Бясспрэчна, не. Сельсаветы патрабуюць сыстэматычнага кіраўніцтва і сталай дапамогі. Мала таго, многія з іх патрабуюць, каб іх заўсёды падштурхоўвалі.

Такую працу маглі-б прарабіць раённыя інструктары, якія ахопліваюць 10-15 сельсаветаў. Але менавіта тут справа кульгае на абедзьве нагі. Па-першае,

значная частка раёнаў ня мае інструктароў зусім. Па-другое, там дзе яны маюцца, падрыхтоўка іх такая, што далёка не забесьпечвае эфэктыўнасьці кіраўніцтва.

І ў акругах і ў раёнах часта ня ўлічваюць таго значэньня, якое мае палепшаньне працы сельсаветаў. Замест узмацненьня іх працы, нярэдка проста замяняюць сельсаветы ўпаўнаважанымі з раёнаў. Гэтыя адносіны да працы сельсаветаў адбіваюцца і ў падборы інструктароў. Нярэдка ў якасьці інструктара РВК пасылаецца таварыш, які скампрэмэтаваў і не апраўдаў сябе на іншай рабоце. Нярэдка на гэтую работу вылучаецца таварыш, які ўжо некалькі год прапрацаваў старшынёю сельсавету без усялякай папярэдняй падрыхтоўкі яго. Ад гэтага непасрэднае інструктаваньне на мясцох кульгае.

Апрача таго, гэтыя інструктары скарыстоўваюцца ня столькі для працы ў сельсаветах, колькі—у апараце РВК.

Адзін з мэтадаў у працы па інструктаваньні, які больш-менш сябе апраўдаў, гэта мэтад нарад нізавых працаўнікоў. Нарады старшынь ці сакратароў сельсаветаў даюць даволі значныя вынікі. Але тут неабходна адзначыць наступныя недахопы:

1) нарады склікаюцца амаль толькі па пытаньнях кампанейскіх; вельмі рэдка яны склікаюцца для абмеркаваньня пытаньняў пастаноўкі працы ў сельсавеце;

2) на гэтыя нарады прыцягваюцца амаль толькі старшыні сельсаветаў. Старшыні камісій, а тым больш члены камісій, амаль ня прыцягнуты;

3) гэтыя нарады працягваюцца пераважна 1-2 дні і толькі павярхоўна прапрацоўваюць пытаньні. Апошняе тлумачыцца часткова і тым, што на мясцох няма дастаткова кваліфікаваных ці вольных лектарскіх сіл.

Вялікае значэньне мае інструктаваньне праз друк. Часопіс „Саветы Беларусі“ да апошняга часу далёка не задавальняў гэтае задачы. Надзвычайна мала ў ім асьвятляўся вопыт месц, а пераважвалі „дырэктыўныя“ артыкулы, што рабіла яго ня-цікавым для чытача. Матар'ялы-ж аб працы сельсаветаў, якія зьмяшчаліся ў газэце „Савецкая Беларусь“, расплываліся ў іншым матар'яле і часта заставаліся для сельсаветчыка незаўважанымі.

Таму ў гэтай галіне неабходна было апрача палепшаньня якасьці часопісу „Саветы Беларусі“ і прыцягненьня да ўдзелу ў ім нізавых работнікаў, арганізаваць пры газэце „Савецкая Беларусь“ выхад, хаця-б раз у 2 тыдні, спэцыяльнай старонкі: „Старонка сельсаветчыка“.

Пытаньне аб эфэктыўнасьці інструктаваньня сельсаветаў стала ў парадак дня. Гэта пытаньне патрабуе выключнае ўвагі ўсіх савецкіх работнікаў.

Якія меры, па нашай думцы, неабходны ўжо зараз?

1) Гэта ўзбуйненьне сельсаветаў і падбор кадраў для іх;

2) падбор кваліфікаваных інструктароў РВК з дастатковай палітычнай падрыхтоўкай, ініцыятывай і ўменьнем арыентавацца ў мясцовых умовах;

3) скарачэньне колькасьці дырэктыў і, замест гэтага, узмацненьне праверкі іх выкананьня і дапамогі ў гэтым;

4) рашучае адмаўленьне ад мэтадаў падмены нізавых савецкіх органаў вышэйстаячымі (ці ўпаўнаважанымі), а таксама парт'ячэйкамі, пры аднагасовым узмацненьні кіраўніцтва ў сэнсе дапамогі нізавым савецкім органам;

5) рэгулярнае (не радзей 3-х раз у год) правядзеньне ў раённым масштабе нарад-курсаў з дапамогай інструктароў акруговых і цэнтральных для абмеркаваньня вынікаў абсьледваньня сельсаветаў, увязваючы гэтыя курсы з палітычнай падрыхтоўкай нізавых працаўнікоў з прапрацоўкай асноўных законаў ураду;

6) рэгулярна склікаць раённыя нарады старшынь камісій і членаў апошніх для абмеркаваньня пытаньняў іх працы.

Аднагасова дапусьціць скарачэньне ці павялічэньне ліку камісій у залежнасьці ад мясцовых умоў;

7) палепшыць абслугоўваньне сельсаветаў праз друк, у прыватнасьці, выпусьціць дадатак—лісток да газэты „Савецкая Беларусь“.

Я, зразумела, ня лічу, што гэтымі, што прапануецца мною, мерапрыемствамі, вычарпана ўсё, што можна зрабіць для палепшаньня працы сельсаветаў. Адно ясна,—пытаньне аб палепшаньні працы саветаў павінна стаць у цэнтры увагі і абмеркаваньня мэтадаў гэтага палепшаньня павінна разгарнуцца, як мага шырэй.

**А. Вайцок.**

# За стварэньне ў БССР сельска-гаспадарчай лябораторыі

*(У парадку прапановы)*

Пры цэнтральнай маскоўскай газэце „Беднота“ ўжо некалькі год існуе цэнтральная сельска-гаспадарчая лябораторыя „Беднота“.

Праца гэтай лябораторыі вялізарная. Пры дапамозе яе шмат вопытнікаў (дасьледчыкаў) с.-гасп. гурткоў, калгасаў і саўгасаў дасягнулі вялікіх посьпехаў у сельскай гаспадарцы, вывелі шмат новых культур, дасьледвалі ўсе магчымасьці разьвядзеньня ў нашых умовах тых ці іншых культур, падыходнасьць іх да глебы ды і наогул усё тое, што дае сельскай гаспадарцы вялікую карысьць. Таксама маецца вялікая армія лабкораў, якім рассылаліся насеньне, угнаеньні і заданьні працы.

Распаўсюджвацца шмат ня трэба, бо ўсім вядома, што ад гэтага шмат карысьці.

Я толькі хачу застанавіцца на адным канкрэтным факце—гэта скарыстаць вопыт Масквы і лябораторыі „Бедноты“ і праз „Саветы Беларусі“ дабіцца стварэньня такой лябораторыі ў БССР, а менавіта—Менску, маючы на ўвазе, што гэта шмат і шмат дапаможа правядзеньню ў Беларусі суцэльнай калектывізацыі (увязаўшы ўсю працу з калгасамі і саўгасамі).

Праўда, трэба затраціць сродкі, але яны сябе апраўдаюць і ў недалёкім будучым мы ўбачым вынікі гэтай карыснай і жаданай працы. **Вяскор Мак.**

# НАМ ПІШУЦЬ

## Хібы нашых сельсаветаў

*(Паводле матар'ялаў чысткі на Бягомльшчыне).*

Ніводнае дасьледваньне ня зможа так яскрава выявіць сапраўдны твар сельскага савету і становішча нізавой савецкай работы, як гэта выяўляе праверка і чыстка савецкага апарату. Тутака, у час праверкі і чысткі савецкіх служачых, перад вамі разварочваецца сапраўдны малюнак нізавога савецкага апарату. Я хачу сказаць пра нізавы савецкі апарат, менавіта пра сельсавет, які выгляд ён мае ў Бягомльскім раёне.

Правільную ацэнку сельсавету і становішчу савецкае работы ў раёне даў, у час чысткі савецкіх служачых у самым Бягомлі, старшыня Бягомльскага РВК т. Русак.

На запытаньне старшыні праверкому як ён судзіць аб сельсавеце і яго працы т. Русак адказаў: „сельсаветы ў раёне за апошні год умацаваліся, але-ж яны далёка яшчэ ад таго, чым яны павінны быць“. Я хачу сказанае т. Русаком адносна сельсавету абгрунтаваць канкрэтна.

Ня буду застанаўлівацца на такіх сельсаветах, на чале якіх стаялі дагэтуль прымазаўшыяся да савецкага апарату работнікі, як, скажам, Недальскі сельсавет. Адкуль Недальскі с/с мог быць на належнай вышыні, як орган пралетарскай дыктатуры на вёсцы, калі старшыня гэтага с/с (нейкі Астроўскі, зьняты цяпер з працы па 3-й катэгорыі) сам зьяўляецца моцным кулаком, які мае 30 дзесяцін зямлі і які дзеля таго, каб ня страціць савецкай службы, правёў сабе фіктыўны падзел зямлі з братамі? Адкуль у гэтакім с/с будзе як належыць разгорнута работа па калектывізацыі. калі сам старшыня с/с для „отвода глаз“ запісаўся ў калгас і толькі ў той дзень, калі прыехаў у Недаль правяркам па чыстцы савецкага апарату, старшыня с/с, пад страхам чысткі, прывёў адну сваю карову ў калгас для абагульваньня?

Застанавімся на іншых с/с. Што можна сказаць пра іх і пра становішча іх работы?

А вось што характэрна для ўсіх с/с Бягомльскага раёну.

Перш за ўсё гэта тое, што няма плянавасьці ў працы с/с. Калі ў якім с/с і ёсьць складзены плян, дык ён не рэальны і работу па ім с/с не праводзіць. А ў некаторых с/с ніякіх плянаў работы няма. С/с працуе па-кампанейску, ад кампаніі да кампаніі. С/с у сваёй працы не праяўляе ніякай самастойнасьці, ніякай ініцыятывы. Ён чакае дырэктыў ад Райвыканкому і жывых штуршкоў ад апошняга. Пакуль хто ня прыедзе з раёну і падштурхне моцна, с/с паварачваецца вельмі і вельмі слаба.

Другое, што трэба адзначыць, як адмоўны бок у працы с/с, гэта тое, што з усяго складу сельсавету працуюць толькі два-тры чалавекі, менавіта тыя, што знаходзяцца ў апараце. Астатнія дзесяткі членаў с/с нічога ня робяць у сваіх вёсках, і што яшчэ горш, гэта тое, што ў складзе с/с, нават пасьля перавыбарчай кампаніі, аказаліся людзі, якія самі часта выступаюць супроць мерапрыемстваў савецкай улады на вёсцы: супроць калектывізацыі, кантрактацыі і г. д. Гэтакія факты можна адзначыць у Вітуніцкім с/с і інш.

Усе с/с у Бягомльскім раёне працуюць па „старынцы“. Ніводзін яшчэ с/с дагэтуль не паставіў пытаньня аб перабудаваньні сваёй работы ў поўнай адпаведнасьці з новымі працэсамі, якія зараз адбываюцца на вёсцы, аб прыстасаваньні сваёй работы да новых умоў, якія цяпер складаюцца на вёсцы ў зьвязку з масавай калектывізацыяй і ліквідацыяй на яе падставе кулацтва, як клясы. Груп беднаты ў большасьці с/с няма зусім і работа з беднатой праводзіцца толькі перад якой-небудзь кампаніяй. Работа з батрацка-бядняцкімі групамі ў калгасах не праводзіцца зусім і гэтакіх груп пры калгасах нават няма наогул.

С/с дагэтуль не адчуваецца, як поўны гаспадар на сваёй тэрыторыі, як кіраўнік усёй будаўнічай працы на вёсцы; с/с не адчувае адказнасьці за ўсё тое, што робіцца на вёсцы. Для характарыстыкі возьмем гэтакія прыклады: у Асаўскім с/с увесь час адчувалася і цяпер таксама адчуваецца агульнае нездавальненьне працаўніком каапэрацыі. Цяперашні працаўнік каапэрацыі проста ня ўмее працаваць: ён і недаважыць, ён і недалічыць, у яго заўсёды доўгія чаргі, проста не спраўляецца з работай. Аб гэтым часта гавораць сяляне з Асавоў, Замасточча і іншых вёсак. А с/с ня чуе ўсяго гэтага. Да каапэрацыі яму справы няма ніякай. „Аб каапэрацыйнай краме няхай клапаціцца Бягомльскае спажывецкае таварыства“ — гэтак разважае Асаўскі с/с. Каб калі заслухаць даклад на масавым сходзе пайнікаў, каб шляхам дзелавой крытыкі выявіць усе недахопы ў працы каапэратара, каб даць яму належныя паказаньні ў яго працы—да гэтага с/с яшчэ не дадумаўся.

Яшчэ адзін прыклад з таго-ж с/с: на вачох с/с будаваўся нядаўна сьпірта-парашковы завод. Завод гэты будавала нейкая арцель, якая сама сядзіць у Барысаве і завод гэты падпарадкаваны гэтай арцелі. Усе сяляне бачылі і гаварылі, што пры будаваньні заводу дапускаецца злачынная безгаспадарчасьць, што цэгла, з якой складаюцца печы на заводзе, яўна нягодная, што няма ніякага назіраньня і цяпер за дзейнасьцю заводу і яго адміністрацыі, што бываюць прастоі на заводзе і г. д. А с/с ня бачыў усяго гэтага, не паставіў пытаньня аб заводзе не паведаміў РСІ аб усім тым, што рабілася на заводзе. У с/с няма нават уяўленьня аб тым, што ён павінен цікавіцца справай заводу, што ён павінен цікавіцца становішчам заводу. Зразумела, што с/с ня можа адміністрацыйна ўмешвацца ў справы заводу, але-ж, калі заўважаецца безгаспадарчасьць, злачынства, с/с абавязаны сыгналізаваць аб гэтым у належныя органы, чаго яшчэ не разумее с/с.

Гэтакім зьяўляецца становішча і ў іншых с/с, як толькі прыглядзіцца да іх практычнай работы.

Цяпер у Асаўскім с/с новы працаўнік рабочы вылучэнец, ён павінен гэта ўсё ўлічваць.

Возьмем для прыкладу другі с/с— Мсьціжскі. І тут можна адзначыць тое самае. С/с ведае, што на службе ў Лесбеле знаходзяцца былыя кантрабандыстыя, бандыты, паліцэйскія, а маўчыць. Не яго справа. Ці-ж гэта нармальна? Бязумоўна, не. С/с ня можа аддаць загаду аб звальненьні гэтакіх тыпаў з дзяржаўнай службы, але-ж паставіць

пытаньне перад прарабам аб гэтым ён абавязаны. І калі прараб можа ўхіляецца і ня хоча прыслухоўвацца да погляду с/с, трэба тады паставіць пытаньне перад іншымі органамі, у першую чаргу, перад РСІ. Мсьціжскі с/с гэтага яшчэ не разумее.

Яшчэ ў Мсьціжу ёсьць кнігарня, у якой сядзіць нейкая камсамолка і прадае кніжкі. С/с ніколі не пацікавіўся як працуе гэта самая кнігарня, што там робіцца, якія там кніжкі маюцца, як гэтыя кніжкі распаўсюджваюцца, прасоўваюцца да сялянства і г. д.; не яго справа — вось як быццам выходзіць. А, між тым, паглядзіш — дык нават шыльды няма там і ніводзін чалавек ніколі не дагадаецца, што ў Мсьціжы ёсьць кнігарня, ня кажучы ўжо аб тым, каб гэта самая работніца, калі-небудзь пагутарыла з сялянамі аб сваіх кніжках, каб калі які лёзунг на рынку выкінуць ці што іншае зрабіць, як культурная ўстанова. А нічога. А с/с што? Ці рэагуе ён на гэтакае зьявішча?—Не, не яго справа. І сядзіць там у сваёй кнігарні работніца, і чакае пакуль патраліць да яе селянін. А аб гэтым і ня мысьліць, што ў краму Цэнтрасьпірту селянін хутка патрапіць, нават калі там і шыльды ня будзе, а ў кнігарню селяніча трэба зацягнуць, кніжкай трэба яго зацікавіць, што наогул трэба праводзіць нейкую культурную работу. С/с стаіць у баку ад гэтай справы, ніколі ня цікавіцца і ня думае цікавіцца гэтакімі справамі.

Можна ўзяць яшчэ адзін прыклад: ёсьць у гэтым самым Мсьціжу загатоўны пункт з мясной крамай пры ім. У час чысткі савецкага апарату, калі людзі сталі маляваць, у якім становішчы трымаецца гэта самая мясная крама, дык проста жах бярэ, цяжка нават паверыць. Галоўнае—гэта антысанітарнае становішча гэтае крамы. А с/с зноў такі зусім ня цікавіцца гэтай справай. Ці-ж гэта ня просты абавязак с/с назіраць за санітарным становішчам мясной крамы, ці-ж с/с не абавязаны загадаць мясцоваму доктару, каб ён за гэтым назіраў і ці-ж с/с не абавязаны патрабаваць дакладаў па гэтых пытаньнях ад мясцовага доктара? Хто-ж гэтага не разумее. А Мсьціжскі с/с усё-ж гэтага яшчэ не разумее.

Так і выходзіць: што каапэрацыя працуе сама па сабе, мясная крама сама па сабе, кнігарня сама па сабе, мэдычны пункт сам па сабе і с/с... таксама сам па сабе.

Так ва ўсіх с/с.

У Мсьціжскім с/с у якасьці старшыні зараз працуе таксама новы работнік, рабочы-вылучэнец, якому трэба ўсё гэта ўлічваць. Усім с/с пара ўжо зразумець, што на сваёй тэрыторыі яны зьяўляюцца гаспадарамі і нясуць поўную адказнасьць за ўсё тое, што робіцца ў абшарах с/с Паўсюды павінна быць вока с/с.

Аб тым, як с/с захоўваюць клясавую лінію ў сваёй працы—у наступны раз.

**К—к.**

# Савецкае будаўніцтва па Саюзе ССР.

## Аб кадрах па савецкаму будаўніцтву.

*РСФСР*

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК вызначыў 6 катэгорый работнікаў па савецкаму будаўніцтву, якія павінны падрыхтоўвацца ў навучальных установах. У першую катэгорыю ўваходзяць работнікі па савецкаму будаўніцтву цэнтральных органаў аўтаномных рэспублік, краявых, абласных і найбольш буйных акрвыканкомаў і гарсаветаў. Да другой катэгорыі—работнікі па савецкаму будаўніцтву астатніх акрвыканкомаў, райвыканкомаў, гарсаветаў і пасялковых саветаў; у трэцюю катэгорыю—работнікі сельскіх саветаў; у чацьвертую—актыў райвыканкомаў і сельсаветаў; у пятую—актыў гарадзкіх і пасялковых саветаў; у шостую—выкладчыкі па савецкаму будаўніцтву для ўсіх тыпаў навучальных устаноў. У мэтах аб'яднаньня кіраўніцтва ўсёй работай па арганізацыі падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў па савецкаму будаўніцтву, пры аргаддзелах ЦВК'аў аўтаномных рэспублік, абласных і краявых выканкомаў ствараюцца дамы савецкага будаўніцтва. У якасьці сваіх дапаможных органаў гэтыя дамы савецкага будаўніцтва могуць ствараць акруговыя і раённыя габінэты савецкага будаўніцтва і іншыя дапаможныя ўстановы.

## Рэвізыйныя камісіі пры гарсаветах

*РСФСР.*

Нядаўна ў РСФСР (20 лютага г/г.) прынята пастанова ЦВК і СНК аб арганізацыі рэвізыйных камісій таксама і пры гарадзкіх саветах. Згодна зацьверджанага палажэньня рэвізыйныя камісіі арганізуюцца пры: а) гарсаветах гарадоў, якія не зьяўляюцца адміністрацыйнымі цэнтрамі, а таксама гарадоў, зьяўляючыхся цэнтрамі раёнаў і б) гарсаветах рабочых і курортных пасёлкаў, а таксама тых дачных пасёлкаў, у якіх утвораны гарадзкія саветы. Рэвізыйныя камісіі зьяўляюцца органамі грамадзкага кантролю над фінансава-гаспадарчай дзейнасьцю выканаўчых органаў гарсаветаў, а таксама падпарадкаваных яму ўстаноў і прадпрыемстваў. Рэвізыйныя Камісіі выбіраюцца пленумам гарадзкога савету на тэрмін паўнамоцтва апошняга ў складзе ад 3 да 9 асоб і 2-х кандыдатаў на кожныя тры члены рэўкамісіі. Рэвізыйныя камісіі, згодна даручэньня вышэйстаячых выканаўчых камітэтаў, могуць таксама рабіць абсьледваньні ўстаноў і прадпрыемстваў, якія састаяць на мясцовым бюджэце і знаходзяцца ў веданьні вышэйстаячых органаў. Па даручэньні адпаведных фінансавых органаў, па ўзгадненьні з органамі рабоча-сялянскай інспэкцыі, або па даручэньні апошніх, рэўкамісіі могуць рабіць рэвізіі і абсьледваньні таксама і ўстаноў, якія састаяць на дзяржаўным бюджэце.

У БССР функцыі рэвізыйных камісій пры гарсаветах часткова выконваюць сэкцыі РСІ.

## Крымінальная адказнасьць за прымусовую калектывізацыю сельскай гаспадаркі.

*Туркмэнская ССР*

ЦВК і СНК Туркмэнскай ССР, у мэтах забясьпечаньня поўнай добраахвотнасьці ўступленьня ў калгасы і недапушчэньня прымусу з боку службовых асоб, прынялі пастанову, якой вызначана ў Крымінальным Кодэксе спэцыяльная мера сацыяльнай абароны (пазбаўленьне волі тэрмінам да трох год) за ўжываньне службовымі асобамі якіх-бы то ні было дзеяньняў у мэтах прымушэньня каго-небудзь уступіць у калгас.

## Сацспаборніцтва па пытаньні разьняволеньня жанчын.

*Туркмэнская і Узбэкская ССР і Кіргізкая АССР.*

Паміж Наркамюстамі Узбэкскай ССР, Туркмэнскай ССР і Кіргізкай АССР праводзіцца сацыялістычнае спаборніцтва па пытаньні разьняволеньня жанчын. Нядаўна на Прэзыдыуме ЦВК Узбэкскай ССР быў заслуханы даклад аб ходзе сацспаборніцтва.

## Даклады рабочых брыгад на Прэзыдыуме ЦВК.

*Узбэкская ССР.*

Прэзыдыум ЦВК Узбэкскай ССР практыкуе заслухоўваньне на сваіх пасяджэньнях дакладаў рабочых брыгад аб іх рабоце ў галіне праверкі дзейнасьці саветаў. Нядаўна ў выніку гэткага дакладу Прэзыдыум Узбэкскай ССР пастанавіў распусьціць 2 раённых выканаўчых камітэты і шэраг сельскіх саветаў Фэрганскай акругі за скрыўленьне клясавай лініі.

## Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод працоўных Казакстану.

*Казакская АССР.*

Прэзыдыум ЦВК Казакскай АССР пастанавіў ліквідаваць да 1 кастрычніка 1932 году поўнасьцю няпісьменнасьць сярод усіх катэгорый працоўнага насельніцтва Казакскай АССР ва ўзросьце ад 16 да 50 год для індустрыяльных і сельска-гаспадарчых рабочых і ад 16 да 35 год для астатніх працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Ліквідацыя няпісьменнасьці сярод індустрыяльных рабочых і рабочых саўгасаў павінна быць скончана да гадавіны дзесяцігодзьдзя Казакскай АССР (4 кастрычніка 1930 года).

## Вучот савецкага актыву.

*Казакская АССР.*

Прэзыдыум ЦВК Казакскай Аўтаномнай ССР пастанавіў арганізаваць вучот савецкіх работнікаў Казакстану. У пастанове дакладна вызначаны як тыя катэгорыі савецкіх работнікаў, якім павінен быць заведзен пэрсанальны вучот, так і тыя, якім заводзіцца колькасны вучот. Арганізацыя вучоту ўскладаецца на Арг-Аддзел Прэзыдыуму ЦВК.

## Аб дачы назваў новым калгасам.

*Ленінградзкая вобласьць, РСФСР.*

Прэзыдыум Ленінградзкага аблвыканкому вызначыў пэўны парадак дачы назваў новым калгасам і саўгасам. Назва калгасу або саўгасу, якія ўноў узьнікаюць, робіцца, як правіла, па цэнтру знаходжаньня калгасу, або саўгасу. У пасобных выпадках, у выглядзе адхіленьня ад агульнага правіла, назва даецца па іншых, выключна мясцовых, адзнаках (географічных, топографічных, бытавых і інш.). На тэрыторыі аднаго раёну ня можа быць двох аднолькавых назваў. Аб усіх новых назвах акрвыканкомы павінны безадкладна паведаміць адмкамісіі пры аблвыканкоме.

## Абласная нарада па савецкаму будаўніцтву

*Мардоўская вобласьць.*

У канцы сьнежня 1929 г. адбылася абласная нарада Мардовіі па савецкаму будаўніцтву. У гэтай нарадзе прынялі ўдзел: інструктары РВК, старшыні раённых рэўкамісій, старшыні гарсаветаў, члены груп беднаты пры аблвыканкоме, члены і кандыдаты крайвыканкому і ЎсеЦВК і 5 старшынь сельскіх рэвізыйных камісій. На нарадзе быў разгледжаны шэраг пытаньняў савецкага будаўніцтва, як-та: аб становішчы нізавога савецкага апарату і яго задачах у справе індустрыялізацыі краіны і перабудовы сельскай гаспадаркі; аб становішчы сельскіх бюджэтаў і задачах рэвізыйных камісій, аб пастаноўцы інфармацыйнай работы ў райвыканкомах і гарсаветах. Адбыўшаяся нарада паслужыла вялікім штуршком да ўзмацненьня і ажыўленьня работы нізавога савецкага апарату Мардовіі.

## Аб адзіным Прэзыдыуме Маскоўскага абласнога выканкому і Маскоўскага гарсавету.

Прэзыдыум Усерасійскага ЦВК, у выніку з існуючага заканадаўства, дазволіў Маскоўскаму абласному выканаўчаму камітэту і Маскоўскаму гарадзкому савету арганізаваць адзіны Прэзыдыум абласнога выканкому і гарадзкога савету, утвораны па ўзгадненьні Маскоўскага абласнога выканкому і Маскоўскага гарадзкога савету.

# ДЗЕЙНАСЬЦЬ УРАДУ БССР.

## Аб палепшаньні абслугоўваньня працоўных спажывецкай каапэрацыяй.

*(Паводле матар'ялаў дакладу Б. К. С. на Прэзыдыуме ЦВК БССР).*

Правільнае забясьпечаньне працоўных прадуктамі спажываньня набывае ў сучасны момант вельмі актуальнае значэньне. Савет Працы і Абароны сваёй пастановай ад 11-га верасьня 1929 году вызначыў шэраг мерапрыемстваў па палепшаньні абслугоўваньня рабочага-спажыўца. На падставе гэтай пастановы СПА, Цэнтрасаюз распрацаваў для ўсёй сеткі спажывецкай каапэрацыі так званы, рацмінімум, г. ё. мінімум тых рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў, якія павінны быць пакладзены ў аснову далейшай работы каапэрацыі ў справе палепшаньня абслугоўваньня спажыўца. У мэтах выкананьня гэтай задачы па БССР Белкапсаюзам была шырока праведзена адпаведная кампанія. Прэзыдыум ЦВК БССР, надаючы вялікае грамадзка-палітычнае значэньне пытаньням палепшаньня абслугоўваньня працоўных мас спажывецкай каапэрацыяй, заслухаў на адным з сваіх пасяджэньняў спэцыяльны даклад Белкаапсаюзу аб выніках правядзеньня „рацмінімуму". Разам з тым Прэзыдыум ЦВК даручыў усім акруговым і раённым выканаўчым камітэтам і гарсаветам заслухаць таксама на сваіх пасяджэньнях адпаведныя даклады аб выніках правядзеньня кампаніі ў межах іх тэрыторыі. Зусім зразумелым зьяўляецца тое, што неабходныя посьпехі ў дзейнасьці спажыўкаапэрацыі могуць быць дасягнуты толькі ў тым выпадку, калі да вырашэньня гэтай задачы будуць прыцягнуты шырокія працоўныя масы і ўсёй гэтай рабоце будзе нададзен характар масавай кампаніі з актыўным удзелам у ёй савецкіх органаў. Якія канкрэтна маюцца ў БССР вынікі ў справе правядзеньня кампаніі палепшаньня абслугоўваньня спажыўца?—вынікі гэтыя наступныя:

Пашырана сетка прадуктовых крам. На 1-е жніўня 1929 г. прадуктовых крам па гарадох БССР было—495, на 1-е сакавіка 1930 г.—595. Рацмінімум у гэтых адносінах поўнасьцю ня выкананы, але бязумоўна тут маецца вялікае дасягненьне—павялічэньне на 100 крам.

Абслугоўваньне спажыўца, у зьвязку з гэтым, некаторым чынам палепшылася, часткова скараціліся чаргі. Павялічэньне сеткі непрадуктовых крам складае 48 адзінак (з 177 да 225), буфэтаў на прадпрыемствах—на 78 (з 73 да 151). Есьць таксама павялічэньне і наогул па ўсіх відах сеткі (унівэрсальныя крамы, прадуктовыя і непрадуктовыя ларкі, ларкі, развозкі, майстэрні). Лік насельніцтва на адзін гандлёвы нункт на 1-е жніўня 1929 г. складаў—710, на 1-е сакавіка—1930 г.—570. Разам з агульным ростам сеткі, як станоўчы бок, неабходна адзначыць і лепшае яе разьмеркаваньне, за кошт, галоўным чынам, адчыненьня новых крам на акраінах гарадоў. Калі раней на гарадзкіх акраінах было распаложана толькі 30 проц. усей сеткі ЦРК, дык на 1-е сакавіка 1930 г. па асноўных відах тавараабароту паказаны процант павялічваецца да 50. Аднак, і да апошняга часу крамная сетка на акраінах усё яшчэ працягвае заставацца недастатковай. Эканамічнай Нарадай пры СНК БССР прынята пастанова аб перадачы спажывецкай каапэрацыі гандлёвых памяшканьняў, занятых не па простым прызначэньні, а таксама аб адводзе ў новых пабудовах пэўнай плошчы пад гандлёвыя памяшканьні. На жаль, пастанова ЭканомНарады ня ўсюды выконваецца (Полацк, Віцебск, Менск). Есьць некаторыя вынікі ў справе павялічэньня прапускной здольнасьці крам, шляхам падоўжаньня часу гандлю. Так, напрыклад, прадукцыйныя крамы пераведзены на бесьперапынны тыдзень на 74%, на двухзьменную работу на 29%, непрадукцыйных крам на бесьперапынны тыдзень пераведзена 72 проц., ларкоў і кіёскаў—53 проц., сталовак і буфэтаў—50 проц. не пераведзены на бесьперапынку, галоўным чынам, дробныя крамы (напрыклад. з 1 прадаўцом і г. д.). Увядзеньне бесьперапынкі і перавод гандлёвай сеткі на паўтара—і двухзьменную работу ў значнай меры паслабіла напружанасьць у абслугоўваньні спажыўца. Праводзілася работа ў напрамку лепшага прыстаса-

ваньня гадзін гандлю да запатрабаваньняў рабочага спажыўца. Большасьць гандлёвых пунктаў (73,7 проц.) працуе без абедзенага перапынку; установлены больш раньнія гадзіны адчыненьня крам. Амаль у палове прадуктовых крам праводзіцца мэтад папярэдняй разважкі тавараў, так званая фасоўка. Гэты мэтад у асаблівасьці разьвіты ў горадзе Менску ў крамах ЦРК.

У мэтах барацьбы з чаргамі, праводзілася прымацаваньне пайшчыкаў да пасобных крам. Але гэта прымацаваньне праведзена ня ўсюды роўнамерна, у зьвязку з чым завоз тавараў часта не адпавядае колькасьці прымацаваных пайшчыкаў. Праведзены яшчэ цэлы шэраг і іншых мерапрыемстваў, якія маюць уплыў на памяншэньне чаргоў, як то: выняцьце з агульна-прадукцыйных крам і спэцыяльны водпуск: газы, хлеба; устанаўленьне дадатковых кас у часы вялікага наплыву пакупцоў, прыём грошай непасрэдна прадаўцом і г. д. Па крамах ЦРК уведзены вопыт дастаўкі тавараў на дом, згодна папярэдніх заказаў. Гэты вопыт, аднак, на практыцы яшчэ вельмі мала ўжываецца. Як недахопы ў рабоце неабходна адзначыць: недастатковы ўдзел каапэрацыйнага актыву ў справе палепшаньня абслугоўваньня спажыўца, слабую разгорнутасьць сацспаборніцтва і ўдарніцтва асобных гандлёвых пунктаў, недастатковую ўвагу з боку друку да пытаньня асьвятленьня кампаніі рацмінімуму.

У мэтах павялічэньня прадуктовай базы гарадоў пры акраінах многіх гарадоў капэрацыяй арганізоўваюцца ўласныя садова-гародныя гаспадаркі і малочныя фэрмы.

З сельскім сэктарам справа абстаіць значна горш, чым з гарадзкім. Праўда, у колькасных адносінах ёсьць і тут дасягненьні, так, напрыклад, на I/VIII-29 г. крам у сельскіх мясцовасьцях было—2.314, на I/III-30 г.—2671, але вынікі ў справе палепшаньня абслугоўваньня спажыўца і правядзеньня рацмінімуму зусім нязначныя. Вельмі мала зроблена для набліжэньня крамнай сеткі да спажыўца, плян разгортваньня ларкоў выкананы толькі на 22 проц., развознага гандлю—на 24 проц. З агульнага ліку 2671 крамы ў сельскіх мясцовасьцях на бесьперапынны тыдзень пераведзена ўсяго 298 крам. Гэтыя лічбы бязумоўна зьяўляюцца нездавальняючымі. Хоць напружанасьць з забясьпечаньнем спажыўцоў прадуктамі адчуваецца і зараз, але ўсёжа неабходна адзначыць, што агульны завоз асноўных тавараў увесь час павялічваецца. Апошняе пацьвярджаецца параўнаньнем колькасьці завозу тавараў па адных і тых-жа кварталах мінулага і гэтага году. Калі лік завезеных за I-шы квартал 1928-29 г. тавараў прыняць за 100 проц., дык за першы квартал 1929-30 г. па ліку завезеных тавараў мы маем: па цукру 105 проц., махорцы і тутуновых вырабах—302 проц., солі—136 проц., запалках—133 проц. гатовому адзеньню—218 проц. Па некаторых таварах (праўда, іх значна менш) ёсьць памяншэньне—ніткі 72 проц. (пры тым-жа мэтадзе вылічэньня), суконна-шарсьцяныя вырабы—31 проц. У грашовым вылічэньні агульны завоз тавараў павялічыўся з 26 да 32,5 мільёнаў рублёў. Грамадзкае харчаваньне, ня гледзячы на некаторы рост сталовак і буфэтаў пры прадпрыемствах, пастаўлена нездавальняюча і адстае ад запатрабаваньняў працоўнага насельніцтва. Ахоп апошняга грамадзкім харчаваньнем складае ўсяго 8 проц. Па грамадзкаму харчаваньню прадугледжана на бліжэйшыя гады вялікае будаўніцтва. У выніку выкананьня пляну будаўніцтва, к канцу 1930 года грамадзкім харчаваньнем будзе ахоплена 21 проц. працоўнага насельніцтва.

Прэзыдыум ЦВК БССР на сваім пасяджэньні ад 7 красавіка г/г. адзначыў, што, ня гледзячы на некаторы пералом у справе палепшаньня абслугоўваньня працоўных спажывецкай каапэрацыяй, да апошняга часу вынікі правядзеньня рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў зьяўляюцца недастатковымі. Выходзячы з гэтага, Прэзыдыум ЦВК даў цэлы шэраг дырэктыў Белкапсаюзу: забясьпечыць выкананьне ў месячны тэрмін вызначанага раней пляну рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў; у кантрольных лічбах на 1930-31 г. прадугледзіць правядзеньне пляну максымуму ў справе палепшаньня якасьці каапэрацыйнага абслугоўваньня; да 1-га мая забясьпечыць разгортваньне крамнай сеткі ў рабочых акраінах гарадоў, новых пабудовах, глыбінных пунктах

сельскіх мясцовасьцяй, буйных калгасах і саўгасах; адзначаючы, што рацмінімум праводзіцца без дастатковага ўдзелу шырокіх мас савецкай грамадзкасьці, асабліва на вёсцы, прапанаваць Белкаапсаюзу ўжыць захады да большага ўцягненьня актыву ў канкрэтную работу па падвышэньні якасьці абслугоўваньня; забясьпечыць сваячасовае снабжэньне таварамі прадуктовых крам, асабліва ў рабочых раёнах.

У мэтах стварэньня дадаткавых харчовых прадуктаў для забясьпечаньня спажыўцоў рабочай каапэрацыі прадуктамі і хутчэйшай арганізацыі прыгарадных гаспадарак, гарсаветы павінны выдзяліць для паказаных гаспадарак лепшыя прыгарадныя землі.

Уся работа па палепшаньні спажывецкай каапэрацыяй абслугоўваньня рабочага-спажыўца і нагляд за выкананьнем пастаноў як саюзнага ўраду, так ураду БССР па гэтым пытаньні павінна праходзіць пад наглядам і кіраўніцтвам выканаўчых камітэтаў і саветаў, а таксама пры непасрэдным удзеле ўсяго савецкага актыву.

Л—н.

## Работа саветаў Полаччыны

*(Паводле дакладу Полацкага АВК на пасяджэньні СНК БССР)*

Савет Народных Камісараў БССР заслухаў даклад Полацкага Акрвыканкому аб яго дзейнасьці за мінулы 1928-29 год і прыняў цэлы шэраг практычных прапаноў на далейшы час работы Акрвыканкому, аб якіх будзем гаварыць крыху ніжэй, а цяпер застановімся на тых дасягненьнях і недахопах, якія меліся ў рабоце акруговага выканаўчага камітэту.

**Савецкае будаўніцтва.** Работа сельсаветаў характарызуецца большым ахопам гаспадарча-культурных пытаньняў, яны паступова становяцца кіраўнікамі ўсяго гаспадарчага і культурнага жыцьця вёскі. У большасьці сваёй сельсаветы перайшлі на плянавасьць работы, у сувязі з чым наказы выбаршчыкаў знаходзяць сваё адлюстраваньне ў штодзённай рабоце саветаў. Значна павялічалася колькасьць пленумаў, што спрыяла прыцягненьню бядняцка-серадняцкага актыву да непасрэднага ўдзелу ў рабоце саветаў.

Аднак трэба прызнаць, што арганізацыйна-масавая работа саветаў пастаўлена слабавата. Некаторыя сельсаветы ня сталі на чале ўздыму калектыўнага руху і не зьяўляюцца арганізатарамі беднаты і батрацтва за калектывізацыю, а некаторыя сталі ў баку ад абвостранай клясавай барацьбы ў вёсцы.

Камісіі пры сельсаветах у сваёй большасьці не працуюць. Ня было ніводнага такога выпадку, каб па ініцыятыве той ці іншай камісіі быў арганізаваны калгас.

Па лініі Акрвыканкому ў мінулым годзе было абсьледавана 11 сельсаветаў, 3 райвыканкомы і адзін гарадзкі савет. Былі праведзены 2-хтыднёвыя акруговыя курсы старшынь і сакратароў сельсаветаў, якімі ахоплена 92 чал., што складае 40 проц. складу старшынь і сакратароў сельсаветаў акругі.

Райвыканкомы сваю работу праводзяць па стала выпрацаваных плянах. Практыка правядзеньня паседжаньняў прэзыдыумаў і пленумаў на вёсцы значна пашырана. Больш уважліва пачалі адносіцца да складаньня бюджэтаў і іх выкананьня як райвыканкомы, а таксама і гарадзкія саветы.

На далейшы час неабходна больш шпарка разгарнуць масавую работу саветаў, для чаго патрэбна скарыстаць маючыйся савецкі актыў і ажывіць дзейнасьць камісій і вытворчых нарад, больш рашуча прыцягваць жанчын да савецкага будаўніцтва і дапамагаць апошнім у іх штодзённай практычнай рабоце.

Прыдзецца пераключыць усю работу саветаў і прыстасаваць яе да ўмоў і задач суцэльнае калектывізацыі сельскае гаспадаркі, строга захоўваючы апошнія рашэньні партыі па пытаньнях калгаснага будаўніцтва, не дапушчаючы шкодных перахлёстваньняў у гэтым пытаньні, якія Полаччына, як іншыя акругі Беларусі, дзе-ні дзе мелі.

Пакласьці ў аснову ўсяе работы, як самага акрвыканкому, а таксама і райвыканкомаў плянавасьць, узмацніўшы жывое кіраўніцтва саветамі і павялічыць як

абсьледвацельскую работу, так і практычную дапамогу мяйсцом.

Працягваць рашучую чыстку савецкага апарату ад разлажыўшыхся, чуждых і варожых нам элемэнтаў, палепшыўшы масавую работу па вылучэнству лепшых актывістых рабочых, калгасьнікаў, батракоў і беднякоў на розныя кіруючыя пасады.

**Нацпалітыка.** Паміма агульных задач па гаспадарча-культурным будаўніцтве акругі і лепшаму абслугоўваньню працоўных, перад Полаччынаю стаялі спэцыяльныя задачы па правядзеньню нацыянальнае палітыкі, як: беларусізацыя, культурнае і палітычнае абслугоўваньне нацменшасьцяў, земляўпарадкаваньне працоўнага яўрэйскага насельніцтва, упарадкаваньне мястэчак і інш.

Насельніцтва акругі па паасобных нацыянальнасьцях мае наступны выгляд: усяго насельніцтва 395.846, з якіх — беларусоў 85,9 проц., яўрэяў 5,3 проц., расейцаў 4,5 проц., палякаў 3,0 проц. і іншых 1,3 проц.

Работа акруговых і раённых устаноў у асноўным пераведзена на белмову. У некаторых установах, асабліва ў тых, якія зьвязаны з сваімі цэнтрамі, што знаходзяцца на тэрыторыі РСФСР, пераход на белмову зьяўляецца павольным і нават фармальным (Спажыўсаюз, Дзяржбанк, Фанэра-Дзьвіналес, чыгунка, Бярэзінская сыстэма воднага транспарту). Пры праверцы ўстаноў высьвятлілася, што кіраўнікі іх да беларусізацыі падыходзяць нядбайна і праца ў большасьці праводзіцца на расейскай мове. Вось характэрная рыска, якая аб нечым ды гаворыць. Акрнацкамісія праверыла 11 устаноў па гораду і з 215 работнікаў аказалася, што добра ведаюць белмову толькі 8 асоб.

Па зьвестках саміх 41 розных устаноў па г. Полацку і па ўсіх раённых установах аб працаўніках, ведаючых белмову, паказаны наступны проц.:

| | Па г. Полацку ў % | Па раён. установах у % |
|---|---|---|
| Адміністрацыйны пэрсанал | 59 | 89 |
| Рабочыя | 4 | 38 |
| Служачыя | 60 | 76 |
| Дробна-абслугоўваючы пэрсанал | — | 56 |

Такім чынам даволі значны процант работнікаў акруговых і раённых устаноў ня ведаюць белмовы.

Пры дапамозе вышэйстаячых органаў, частка працоўнага яўрэйскага насельніцтва (местачковага) была пераведзена на зямлю. У акрузе маецца 14 яўрэйскіх с.-г. арцеляй і 7 садова-гародных. У сучасны момант вядзецца работа па ўзбуйненьню гэтых арцеляй. У 1929 г. скончана земляўпарадкаваньне мястэчка Асьвея і дзьвёх вёсак з яўрэйскім насельніцтвам.

З маючыхся ў акрузе 4-х местач. саветаў Вушацкі і Дрысенскі саветы абслугоўваньне насельніцтва і ўсё справаводзтва саветаў вядуць выключна на яўрэйскай мове. (Гэтыя саветы покуль што яшчэ не аформлены як нацыянальныя яўрэйскія саветы.)

Дзеці яўрэйскага насельніцтва поўнасьцю ахоплены школамі, якіх маецца 11 пачатковых і 3 сямігодкі. Ёсьць адзін клюб (саматужнікаў). Культурна-масавая работа сярод яўрэйскага насельніцтва праводзіцца ў большым аб'ёме, чым сярод астатняга, паколькі гэтаму спрыяюць умовы сярод самага гэтага насельніцтва (згрупаваньне па паселішчах і мястэчках). Паміж іншымі нацыянальнасьцямі ды яўрэямі зараз амаль не заўважваецца нацыянальнай розьні. Паасобныя выпадкі як яўрэйскага шовінізму гэтак і праяўленьня нацыянал-дэмакратызму заўважаны галоўным чынам сярод паасобных работнікаў з інтэлігенцыі.

За 1928 г. праведзена земляўпарадкаваньне 10 польскіх вёсак і арганізавана 2 с.-г. арцелі і адно таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі. У Лепельскім раёне маецца польскі нацсавет, работа якога значна палепшылася ў параўнаньні з папярэднімі гадамі. У акрузе ёсьць 11 польшкол, 1 сямігодка, 1 ШСМ і 1 хатачытальня.

Латыскае насельніцтва ў большасьці сваёй згрупавана ў Вушацкім раёне, дзе арганізаваны нацсельсавет.

**Становішча і чыстка савецкага апарату.** Савецкі апарат мае значнае палепшаньне па разгортваньню грамадзкасьці і павышэньню актыўнасьці ў рабоце ўстаноў.

Чыстка савецкага апарату надзвычайна спрыяла разгортваньню крытыкі і сама-

крытыкі навокал ўсяе сыстэмы работы савецкага апарату, якая ўскрыла цэлы шэраг недахопаў і скажэньняў клясавай лініі і спрыяла выяўленьню чужых і разлажыўшыхся элемэнтаў, аздараўленьню апаратаў, палепшаньню работы і прыбліжэньню апарату да працоўных мас. Аднак, тэмп гэтае работы вельмі марудны. Недастатковы ўдзел працоўных мас і слабая дапамога РСІ з боку савецкіх, прафэсыйных і грамадзкіх арганізацый.

У рабоце па чыстцы савапарату РСІ узят правільны напрамак, які мае мэтаю ня толькі чыстку, але і праверку сыстэмы работы з тым, каб гэтая сыстэма работы, яе мэтады, структура і практыка кіраўніцтва былі прыведзены ў пэўную суадпаведнасьць з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва і лепшага абслугоўваньня працоўных мас.

Да гэтага часу яшчэ няма сталай сыстэматычнай работы па вылучэнству на замену вычышчаным і недастатковая падрыхтоўка і вылучэньне актыву для вылучэньня.

**Рэвалюцыйная законнасьць.** Тыя дрэнныя бакі ў рабоце судова-сьледчых органаў, якія меліся, ідуць на зьнішчэньне. Аднак трэба адзначыць, што ня гледзячы на прынятыя мерапрыемствы па палепшаньню работы і аздараўленьню апарату, у рабоце як судова-сьледчых устаноў, так і пракуратуры меў месца шэраг прарываў, слабая сувязь з мясцамі, адрыў суду і пракуратуры ад працоўных мас і інш.

Замест жорсткай барацьбы з глушыцелямі самакрытыкі, суд у паасобных выпадках скарыстоўваўся клясавым ворагам для ўдушэньня крытыкі і самакрытыкі працоўных, прысуд сялян актывістых за выступленьне супроць кандыдатур кулакоў і царкоўнікаў, прасьледваньне рабкораў. Былі парушэньні клясавай лініі ў абароне батрацтва, непрыцягненьне кулакоў да адказнасьці за парушэньні працоўнага законадаўства, спыненьне спраў за прымірэньнем эксплёататара з батраком, цеганіна па працоўных справах і змазваньне спраў аб няшчасных здарэньнях на пабудовах.

Савет Народных Камісараў адзначыў, што работа акрвыканкому праходзіла ў суадпаведнасьці з рашэньнямі вышэйстаячых органаў улады ў напрамку ажыцьцяўленьня дырэктыў па індустрыялізацыі краіны, сацыялістычнай перабудовы вёскі і прыцягненьня мас да справы сацыялістычнага будаўніцтва.

Разам з гэтым СНК зьвярнуў увагу акрвыканкому на зусім недапушчальныя зьявішчы, якія мелі мейсца ў акрузе пры калектывізацыі, як адміністраваньне, запугваньне, перагібы пры абагульваньні маёмасьці і інш.

Выходзячы з гэтага СНК запрапанаваў АВК тэрмінова выправіць усе допушчаныя пры калектывізацыі перагібы і памылкі, узмацніць работу па арганізацыйным замацаваньні арганізаваных калгасаў, скласьці вытворчыя пляны, адмежаваць усе калгасы, арганізаваць працу ў калгасах, арганізаваць машына-конныя станцыі ва ўсіх буйных калгасах (звыш 1.000 га), арганізаваць ударныя рабочыя брыгады, правёўшы гэтую работу да выхаду ў поле, памятаючы, што важнейшай баявой задачай зараз зьяўляецца работа па падрыхтоўцы да веснавое сяўбы і выхаду ў поле.

Акрвыканкому паказана на неабходнасьць узмацненьня работы па каапэраваньню працоўнага насельніцтва і павялічэньню паявых капіталаў з тым, каб да канца 1929-30 г. дабіцца 100 проц. каапэраваньня членаў прафсаюзаў і калгасьнікаў у спажывецкай каапэрацыі, у сельскагаспадарчай — 90 проц., індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарках і ў саматужнай павялічыць лік арцеляй і пайшчыкаў ня менш як у 3 разы.

Работа з батрацтвам і беднатой і арганізацыя іх для практычнага правядзеньня ў жыцьцё ўсіх мерапрыемстваў па сацыялістычнаму будаўніцтву і наступленьня на капіталістычныя элемэнты і ліквідацыі кулацтва як клясы, павінна быць важнейшай задачай акрвыканкому. СНК абавязаў АВК узмацніць сваю работу і работу ўсяго апарату акругі па рабоце з беднатой, арганізаваць групы беднаты ва ўсіх калгасах, прыняць меры да арганізацыйнага ўзмацненьня груп беднаты і сталага кіраваньня іх работаю, праводзіць сталую работу з беднатой на вёсцы, склікаць пэрыядычна нарады і канфэрэнцыі груп беднаты ў раёнах і акрузе.

С. Л.

# Агляд важнейшых пастаноў Прэзыдыуму ЦВК БССР

*(сакавік 1930 году).*

## Аб сельскай і раённай статыстыцы.

Нізавая статыстыка сельскай гаспадаркі да гэтага часу пабудавана на рабоце дабравольных карэспандэнтаў. Такая статыстыка зараз ужо ня можа задаволіць асноўным патрабаваньням статыстыкі плянавай гаспадаркі. Кампэтэнцыі сельскіх саветаў і РВК значна пашыраны, зьмяніліся тэмпы перабудовы сельскай гаспадаркі. Улічваючы тое, што бяз правільнай і добра пастаўленай работы па нізавому падліку немагчыма плянава разгортваць сацыялістычнае будаўніцтва ў вёсцы, пастановай ЦВК і СНК БССР за 7 сакавіка г. г. ўтвораны пры сельскіх саветах упаўнаважаныя па статыстыцы і пры РВК—экспэртныя камісіі.

На ўпаўнаважаных па статыстыцы ускладаецца беспасрэднае вядзеньне работы па статыстычнаму падліку сельскай гаспадаркі, вызначэньне разьмераў агульнай і таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі і г. д. На экспэртныя камісіі пры РВК ускладаецца больш дакладнае вызначэньне разьмераў агульнай і таварнай прадукцыі сельскай гаспадаркі калгасаў, савецкіх гаспадарак, індывідуальных гаспадарак і іншых гаспадарчых арганізацый, а таксама нагляд за становішчам пасеваў і вызначэньне паказчыкаў ураджаю. Кіраваньне і інструктаваньне ўпаўнаважаных па статыстыцы і экспэртных камісій ускладаецца на дзяржплян, які гэта робіць праз адпаведныя мясцовыя органы.

Упаўнаважаныя па статыстыцы выбіраюцца сельсаветам на адзін год па аднаму на сельсавет і па некалькі кандыдатаў да яго. Для стварэньня спрыяючых умоў работы ўпаўнаважаныя атрымліваюць некаторыя льготы (вызваляюцца ад працоўнай і гужавой павіннасьці і інш.). Экспэртныя камісіі організуюцца РВК у складзе ад 9 да 15 асоб.

## Аб сыстэматычным кіраўніцтве работай членаў гарсаветаў, мабілізаваных у вёску.

У мэтах правільнага скарыстаньня пасылаемых у вёску на сталую работу ў сельскія саветы членаў гарсаветаў, для забясьпечаньня сыстэматычнага кіраўніцтва іх работай і сталай сувязі з імі гарсаветаў і адпаведных выканаўчых камітэтаў, Прэзыдыум ЦВК БССР 7-га сакавіка г/г даў шэраг паказаньняў мясцом.

АВК прапанавана арганізаваць і правесьці ў гарадох спэцыяльныя двохтыднёвыя курсы для падрыхтоўкі пасланых на вёску членаў гарсаветаў. АВК і РВК павінны наладзіць сыстэматычнае інструктаваньне членаў гарсаветаў, працуючых у вёсцы і практычную дапамогу ў іх штодзённай працы і ў працягу аднаго году заслухоўваць кожныя 3 месяцы на сваіх пленумах паведамленьні аб рабоце членаў гарсаветаў і аб кіраўніцтве і дапамозе ім у гэтай рабоце з боку выканаўчых камітэтаў. Гарсаветы павінны наладзіць сталую сувязь з пасланымі ў вёску сваімі членамі і шэфства над саветамі і калгасамі, у якіх працуюць іх члены. Гэта-ж павінны рабіць і тыя прадпрыемствы, дзе працавалі да ад'езду пасланыя ў вёску члены гарсаветаў.

Для стварэньня найбольш спрыяючых умоў рабочым-членам гарсаветаў, якія пасланы ў вёску, 17 сакавіка г/г ЦВК і СНК БССР прынялі спэцыяльную пастанову пра льготы рабочым і разьмеры іх аплаты. Паводле гэтай пастановы рабочыя-члены гарсавету у сельскім савеце будуць атрымоўваць у працягу аднаго году тую зарплату, якую яны атрымоўвалі на прадпрыемстве. Па звароце гэтых рабочых з вёскі яны маюць права паступіць на ранейшую работу, атрымаць жылплошчу без чаргі.

## Батрацка-бедняцкія групы пры сельскіх саветах.

Зараз пры карэннай перабудове сельскай гаспадаркі на падставе суцэльнай калектывізацыі і, у сувязі з гэтым, ліквідацыі кулацтва, як клясы, пытаньне аб уцягненьні батрацтва і беднаты ў савецкае будаўніцтва набывае асабліва важнае значэньне—з гэтай прычыны Прэзыдыум ЦВК цыркулярам за 7 сакавіка г/г даручыў у тэрміновым парадку арганізаваць пры сельсаветах з членаў саветаў і рэвізійных камісій—батракоў

і беднякоў групы беднаты. Для работы сярод беднаты і батрацтва і кіраваньня у акрузе работай груп беднаты, акруговыя выканаўчыя камітэты павінны вылучыць спэцыяльных інструктароў. Саветы абавязваюцца ўсе важнейшыя пытаньні, належачыя да іх вырашэньня, ставіць на папярэдняе абмеркаваньне груп беднаты. Па меры патрэбы могуць склікацца раённыя і акруговыя нарады груп беднаты і батрацтва для абгаварэньня важнейшых пытаньняў і мерапрыемстваў. Побач з групамі беднаты пры сельскіх саветах, такія-ж групы прапанована арганізоўваць пры ўсіх іншых выбарных органах на вёсцы, прычым асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на арганізацыю і работу батрацкабядняцкіх груп у калгасах.

### Пастанова Прэзыдыуму ЦВК па дакладу Бабруйскага гарсавету.

Заслухаўшы даклад Бабруйскага гарадзкога савету аб яго дзейнасьці, Прэзыдыум ЦВК прыняў пастанову, частка якой, што гаворыць аб далейшай рабоце саветаў, датычыць да дзейнасьці ўсіх гарсаветаў. Напр., пастанова даручае выкананьне пяцігодкі ў найбольш кароткі тэрмін паставіць у цэнтры ўвагі дзейнасьці гарсавету, прыняць рашучыя меры да выкананьня прамфінпляну на прадпрыемствах, разгарнуць сацспаборніцтва, зьвярнуць увагу на рацыяналізацыю вытворчасьці, зьніжэньне сабекошту, працоўную дысцыпліну, уважліва адносіцца да рабочага вынаходзтва,— гэта значыць заняцца той працай, на якую да гэтага часу гарсаветы амаль не зьвярталі ўвагі. Пастанова абавязвае гарсавет зьвярнуць асаблівую ўвагу на палепшаньне культурна-бытавога абслугоўваньня рабочых мас, шырока разгарнуць работу па арганізацыі навакол гораду садова-гародных і малочных гаспадарак і г. д. Для ўзмацненьня сувязі гораду і вёскі і ўплыву гораду на справу калектывізацыі прапанавана, апроч высылкі членаў гарсаветаў у вёску на сталую работу, практыкаваць пасылку рабочых брыгад.

# Законы Саюзнага ўраду пра льготы калгасам і бядняцка-серадняцкім гаспадаркам

## Аб новых палёгках для калгасаў і іх сяброў

### Пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР

З мэтаю ўзмацненьня калгасаў і падахвочваньня росту калектывізацыі ЦВК і СНК СССР пастанавілі:

1. Вызваліць ад адзінага сельска-гаспадарчага падатку на 2 гады (1930-31 і 1931-32 акладныя гады):

а) усю аграмаджаную рабочую жывёлу (коняй, валоў і г. д.) у калгасах;

б) усіх кароў, сьвіней і птушку, як аграмаджаных у калгасах, так і пакінутых у асабовым карыстаньні калгасьнікаў.

2. Пры абкладаньні адзіным сельскагаспадарчым падаткам гародных калгасаў і аграмаджаных гародаў у іншых калгасах зьнізіць нормы прыбытковасьці ўдубальт супроць устаноўленых для данай мясцовасьці норм прыбытковасьці гародаў. Плошчы, якія першы раз выкарыстоўваюцца пад аграмаджаныя гароды як у гародных, так і ў іншых калгасах, поўнасьцю вызваліць ад адзінага сельскагаспадарчага падатку на працягу 2 год.

3. У адпаведнасьці з паказанымі палёгкамі агульная сума адзінага сельскагаспадарчага падатку на 1930-31 год будзе скарочана.

4. Даручыць Народнаму Камісарыяту Земляробства Саюзу ССР і Ўсесаюзнаму Сельска - Гаспадарчаму Каапэрацыйна-Калгаснаму Банку поўнасьцю забясьпечыць у бягучым годзе крэдытаваньне калгасаў у разьмеры 500 мільёнаў рублёў.

5. Спагнаньне запазычанасьці па крэдытах, якая прыпадае на гаспадаркі, што ўступілі ў калгасы, а таксама запазычанасьці, якая перайшла на калгасы—растэрмінаваць да 1 лістапада 1930 году. Растэрмінаваньне ўстанаўліваецца крэ-

дытным таварыствам з тым, каб запазычанасьць згашалася па частках у адпаведнасьці з атрыманьнем прыбыткаў ад паляводзтва і жывёлагадоўлі.

6. Зьняць з гаспадарак, якія ўступілі ў калгасы, запазычанасьць па земляўпарадкаваньні, праведзеным да іх уступленьня ў калгасы.

7. Зьняць з сялян, якія ўступілі ў калгасы, усе неспагнаныя да выданьня гэтай пастановы штрафы за парушэньне законаў аб падатках і іншых абавязковых выплатах і за невыкананьне іншых абавязкаў, якія ляжаць на аднаасабовай сялянскай гаспадарцы. Па тых-жа парушэньнях, учыненых сялянамі да іх уступленьня ў калгас, спыніць выкананьне судовых прыгавораў, ухваленых да гэтага часу, а таксама спыніць распачатыя справы аб прыцягненьні да крымінальнай і адміністрацыйнай адказнасьці.

8. Вызваліць калгасы ад згашэньня запазычанасьці па перададзенай ім маемасьці, канфіскаванай у кулакоў.

9. Рашуча забараніць прымусовае спагнаньне паявых узносаў і паявых укладаў у крэдытныя і іншыя каапэрацыйныя таварыствы. Забараніць таксама прымусовы збор укладаў у касы ашчаднасьці.

10. Спыніць да канца бягучага гаспадарчага году далейшы збор задаткаў на трактары.

11. Забараніць браць на ўбой жывёлу па кантрактацыйных дагаворах, цельных кароў і ў аднакароўных гаспадарак, якія ўваходзяць у калгасы. Даручыць Народнаму Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю Саюзу ССР забясьпечыць выкананьне гэтай пастановы.

12. Забараніць адлічэньне ў прыбытак калгасу ад заработку калгасьнікаў па-за калгасам большага проценту, чымся гэта ўстаноўлена законам у дачыненьні да прыбыткаў ад адходжых промыслаў (ад 3 да 10 проц. заработку) без залежнасьці ад тэрміну і месца працы. Абавязаць праўленьні калгасаў ня чыніць перашкод калгасьнікам, якія жадаюць вольны ад працы ў калгасе час працаваць на аграмаджаных калгасных конях на ізвозных, лесазагатоўчых і іншых работах. У гэтых выпадках 40 проц. заработку калгасьнікаў ад такіх промыслаў застаецца калгасьніку, калі ён карыстаецца прыналежным калгасу харчам, і 60—70 проц., калі ён трымае каня на сваіх харчах. Даручыць Калгасцэнтру забясьпечыць выкананьне гэтай пастановы.

У сувязі з палёгкамі ўвесьці ў палажэньне аб адзіным сельска-гаспадарчым падатку ад 23 лютага 1930 г. адпаведныя зьмены.

Масква, 4 красавіка 1930 году.

Старшыня ЦВК СССР **Калінін.**

Нам. Старшыні СНК Саюзу ССР **Рудзутак**

Сакратар ЦВК Саюзу ССР **А. Енукідзе**

# Пастанова ЦВК і СНК Саюзу ССР

*(Аб дадатковых льготах калгасам)*

1. У мэтах дапамогі калгасам у выкананьні веснавой сяўбы запрапанаваць Дзяржаўнаму Банку Саюзу ССР неадкладна адкрыць у калгасах дадатковы крэдыт у суме 60 мільёнаў руб. для авансаваньня кантрактацыі пасеваў сланэчніку, кукурузы і збожжавых культур ў калгасах.

2. Калгасам, якія выканалі плян засеву кукурузы і сланэчніку, забясьпечыць аванс пад кантрактацыю кожнага гэктара засеянага звыш пляну, у падвойным разьмеры.

3. Зьменшыць с.-г. падатак калгасам па кукурузе і сланэчніку, скараціўшы ў два разы нормы прыбытковасьці калгасных пасеваў кукурузы і сланэчніку супроць устаноўленых для данага раёну.

4. Зьменшыць с.-г. падатак па калгасных фруктовых садох, вінаградніках, тытуню, махорцы, каноплях і ільну, скараціўшы нормы іх прыбытковасьці на 30 проц. супроць устаноўленых для данага раёну.

5. Выдаць калгасам у парадку пазыкі, насеньне кукурузы, сланэчніку і ільну,

з тым, каб яны ўвосень, пасьля збору ўраджаю, вярнулі яго натураю.

6. Запрапанаваць Народнаму камісарыяту замежнага і ўнутранога гандлю Саюзу ССР пры продажу калгасамі насеньня сланэчніку ўстанавіць абавязковую выдачу ім: для калгасьнікаў—4 кілёграмы алею і 8 кілёграмаў жмыхаў, а індывідуальным гаспадаркам—3-х клгр. алею і 6 клгр. жмыхаў ад кожнага цэнтнэра сланэчніку.

Вызваліць на 1930-31 год членаў калгасаў ад самаабкладаньня, устаноўленага законам.

8. Ільготы, паданыя ў гэтай пастанове, пашырыць на камуны, арцелі і тыя таварыствы па супольнай апрацоўцы, у якіх абагулены рабочая жывёла і інвэнтар.

Старшыня ЦВК СССР **Калінін**.

Нам. Старшыні Саўнаркому Саюзу ССР **Рудзутак**.

Сакратар ЦВК Саюзу ССР **А. Енукідзе**.

Масква, 23 красавіка 1930 году.

Выдае Прэзыдыум ЦВК БССР. Рэдактар — Рэдкалегія.

# Аб чым пажадана пісаць у наш часопіс.

1. Як кіруюць саветы і выканкомы справай калектывізацыі і калгасамі.
2. Праца саветаў (выканкомаў) у галіне ўздыму сельска-гаспадарчай вытворчасьці.
3. Як папулярызуюць саветы і выканкомы рашэньні Партыі і Ураду, што садзейнічаюць уздыму сельскай гаспадаркі.
4. Дасягненьні і недахопы саветаў і выканкомаў у справе абслугоўваньня індывідуальных бядняцка-серадняцкіх гаспадарак і іх калектывізацыі.
5. Дзейнасьць саветаў (выканкомаў) у галіне садзейнічаньня дзяржаўнай і разгортваньня мясцовай прамысловасьці.
6. Роля саветаў (выканкомаў) у справе кіраўніцтва саматужнай прамысловасьцю і яе аграмаджаньні.
7. Правядзеньне саветамі і выканкомамі гаспадарчых кампаній.
8. Саветы і загатоўкі (збожжа, лесаматар'ялаў, сырцу, утылю і г. д.).
9. Саветы і мабілізацыя сродкаў насельніцтва на сацбудаўніцтва (распаўсюджваньне дзяржпазык, разгортваньне ашчаднае справы і г. д).
10. Роля саветаў (выканкомаў) у выкананьні плянавых заданьняў сацбудаўніцтва (прамфінплян, зьніжэньне сабекошту і інш.).
11. Як пасьпяхова праведзена самаабкладаньне, яго спагнаньне і скарыстаньне спагнаных сродкаў.
12. Дзейнасьць саветаў (выканкомаў) у падатковай галіне (правільнасьць і сваечаснасьць вучоту аб'ектаў абкладаньня, спагнаньня падаткаў і г. д.).
13. Як змагаюцца саветы (выканкомы) з дзейнасьцю клясава-варожых элемэнтаў, злачыннасьцю, хуліганствам.
14. Ажыцьцяўленьне клясавай лініі ў рабоце саветаў.
15. Як ажыцьцяўляецца ахова рэвалюцыйнай законнасьці органамі Рабоча-Сялянскай міліцыі.
16. Саветы і праца органаў ЗАГС.
17. Праца і роля груп батрацтва і беднаты пры саветах.
18. Саветы і батрацка-бядняцкія сходы.
19 Работа саветаў па ўзмацненьні бядняцка-серадняцкага блёку.
20. Як ажыцьцяўляецца і разгортваецца саветамі (выканкомамі) крытыка і самакрытыка.
21. Становішча масавай работы саветаў і выканкомаў.
22. Праца камісій (сэкцый) саветаў, кіраўніцтва імі і дапамога з боку саветаў.
23. Як разгортваецца масавая работа і яе формы (выязныя пленумы, прэзыдыумы, дэпутацкія групы, камісіі, сэкцыі, праца з актывам, нарады, агульныя сходы і г. д.).
24. Арганізацыя і разгортваньне работы камісій па палепшаньні працы і быту працоўных жанчын.
25. Канкрэтныя формы і вынікі працы па залучэньні прымацаваных дэлегатак у савецкім будаўніцтве.
26. Практыка рэарганізацыі сельска-гаспадарчых сэкцый саветаў у сельска-гаспадарчыя вытворчыя нарады.
27. Новае ў рабоце саветаў і выканкомаў—сацспаборніцтва, брыгады і г. д.
28. Вопыт працы дэпутацкіх груп.
29. Практыка работы паасобных сэкцый у насельных пунктах на пэрыфэрыі сельсаветаў.
30. Чым і як дапамагаюць сельсаветам—гарсаветы.
31. Як праходзіць чыстка савапарату і яе вынікі.
32. Як працуюць сельскія суды.
33. Асаблівасьці працы нацыянальных саветаў.
34. Абслугоўваньне нацменьшасьцяй саветамі і выканкомамі.
35. Становішча беларусізацыі і каранізацыі ў саветах і выканкомах.
36. Саветы ў барацьбе з нацыянал-дэмакратызмам, шовінізмам і антысэмітызмам.
37. Бюджэты саветаў, іх арганізацыя і выкананьне.
38. Уплыў бюджэтаў на разгортваньне арганізацыйна-масавай работы саветаў.
39. Як пастаўлена кіраўніцтва і інструктаваньне нізавых саветаў.
40. Пытаньні падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў савецкага будаўніцтва.
41. Аб пастаноўцы навуковай распрацоўкі праблем савецкага будаўніцтва.
42. Вылучэнства ў саветах і выканкомах.
43. Як прапрацоўваюцца і выконваюцца на мясцох дырэктывы вышэйшых органаў савецкай улады.
44. Пытаньні ўзмацненьня і рацыяналізацыі апарату саветаў і выканкомаў.
45. Вопыт працы паказальных раёнаў і саветаў Віцебшчыны.
46. Пытаньні стварэньня нізавога савецкага актыву і працы з ім.
47. Як ажыцьцяўляецца кантроль мас у працы саветаў і выканкомаў.
48. Справаздачнасьць саветаў і выканкомаў перад выбаршчыкамі і сувязь з імі.
49. Практыка ажыцьцяўленьня права выбаршчыкаў на адкліканьне дэпутатаў.
50. Як працуюць рэўкамісіі саветаў і РВК.
51. Праца КСУ і кіраўніцтва імі з боку саветаў.

52. Як кіруюць саветы грамадзкімі арганізацыямі, установамі і прадпрыемствамі на сваёй тэрыторыі.
53. Удзел саветаў у справе павялічэньня абароназдольнасьці краіны.
54. Як змагаюцца саветы і выканкомы з бюрократызмам і цяганінай.
55. Саветы і ўцягненьне жаночых мас у савецкае будаўніцтва.
56. Удзел камсамолу і рабоча-сялянскай моладзі ў працы саветаў.
57. Праца членаў гарсаветаў і рабочых на вёсцы.
58. Арганізацыя працы сельскіх выканаўцаў і кіраўніцтва імі.
59. Як і па якіх галінах разгортваецца сацспаборніцтва паміж саветамі.
60. Аб пастаноўцы інструктажу і інформацыі ў саветах і выканкомах.
61. Ажыцьцяўленьне саветамі і выканкомамі выбарчага законадаўства і барацьба з яго парушэньнямі.
62. Захоўваньне савецкай дэмакратыі ў дзейнасьці саветаў і выканкомаў.
63. Практыка арганізацыі курсаў па падрыхтоўцы нізавых савецкіх работнікаў.
64. Якія спрашчэньні можна і патрэбна правесьці ў ведамсьцьвеннай справаздачнасьці саветаў і выканкомаў.
65. Становішча працаўнікоў нізавога савецкага апарату.
66. Вучот работы саветаў і праблемы кантролю выкананьня.
67. Нотар'яльныя дзеяньні райвыканкомаў і сельсаветаў.
68. Кантрольна-абсьледчая дзейнасьць сэкцый (камісій) саветаў.
69. Плянаваньне работы саветаў.
70. Праца ў савеце і яго камісіях вясковай інтэлігенцыі.
71. Пытаньні завочнага навучаньня савецкіх работнікаў і актыву.
72. Кіраўніцтва работай саветаў з боку выканкомаў.
73. Наказ выбаршчыкаў і работа саветаў па яго выкананьні.
74. Пытаньні адміністрацыйна-гаспадарчага раёнаваньня саветаў і выканкомаў.
75. Выяўленьне вясковага актыву, парадак і мэтады ўцягненьня яго ў працу саветаў і яго вучот.
76. Аб становішчы працы дамоў селяніна.
77. Аб дарожным будаўніцтве.
78. Аб гаспадарчым скарыстаньні лясоў мясцовага значэньня.
79. Прыём наведвальнікаў у саветах і выканкомах.
80. Месца і роля жаночых дэлегацкіх сходаў у савецкім будаўніцтве.
81. Якая вядзецца асобная праца з жанчынамі—членамі саветаў.
82. Работа інструктара РВК.
83. Работа сельсаветаў у раёнах суцэльнай калектывізацыі.
84. Як ажыцьцяўляецца ліквідацыя кулацтва, як клясы ў раёнах суцэльнай калектывізацыі.

## Да ўсіх нашых дапісчыкаў.

Дописы і артыкулы ў часопіс просьба пасылаць чытэльна напісанымі, па магчымасьці машынкай, на адным баку старонкі, з інтэрваламі паміж радкоў і палямі, каб можна было рабіць папраўкі і дапіскі.

Назвы ўстаноў і прадпрыемстваў у артыкулах і допісах просьба не скарочваць, а пісаць поўна.

Апрача псэўдоніму, выразна і дакладна пішэце ў допісах прозьвішча, імя і адрас, каб рэдакцыя ня мела перашкод пры рассылцы аўтарам ганарару за зьмешчаныя матар'ялы.

РЭДАКЦЫЯ.

Менск. Друкарня імя Сталіна. Заказ № 1762. 3.000 экз. Галоўлітбел № 1428.